Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

ЛіМ

Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 48 (4694) 30 лістапада 2012 г.

Думкапісьменніка

# Моўны бар'ер



Якая цікавая сітуацыя складваецца! Жывём мы ў краіне, якая завецца Беларусь, сябе лічым беларусамі, а размаўляем па-руску. Вядома ж, не ўсе, але чаму так адбываецца?

Як зразумець людзей, якія з гонарам называюцца беларусамі, а мовы не ведаюць? З асабістага вопыту магу сказаць, што беларуская мова даецца вучням вельмі нялёгка. Дзеці чуюць рускую мову паўсюдна, а беларускую толькі на ўроку. Вельмі часта і бацькі не могуць дапамагчы ў вывучэнні роднага слова, бо самі яго не ведаюць. А з дзецьмі, якія прыязджаюць з іншых краін, дык і ўвогуле цяжка даводзіцца. Некальні гадоў таму была ў мяне такая вучаніца Расіі. Маці адразу запыталася, якія дакументы патрэбны, каб адмовіцца ад вывучэння беларускай мовы. Вядома, ніякіх вызваленняў ёй не далі, хоць жанчына і была надта незадаволеная. А вось яе васьмігадовая Насця даволі пасьпяхова вывучала гэты прадмет.

Нядаўна мне ў рукі патрапілі сачыненні дзевяцікласнікаў, напісаныя на беларускай мове. Чытаць іх было прыкра. Што ні сказ, то рускія словы трапляюцца, у беларускіх шмат канчаткаў на рускі манер. Пагаварыла з аўтарамі. Аказалася, што амаль усе вучні спачатку пішуць сачыненне па-руску, а потым перакладаюць. Ды яшчэ са слоўнікам. Сумна стала...

За некалькі апошніх гадоў я сустрэла сярод людзей у транспарце ці краме не больш як дзясятак чалавек, якія прыгожа і чыста размаўлялі па-беларуску. Усе гэтыя людзі падаваліся такімі незвычайнымі, цікавымі, добрымі…

А колькі разоў была сведкай камічных і разам з тым непрыемных сітуацый. Напрыклад. Да гандляркі, якая прадавала булкі, абаранкі, піражныя ды іншыя прысмакі, падышоў мужчына. Ён ветліва ўсміхнуўся:

— Ой, паненка, якое ў вас печыва! Нават і булачкі з разынкамі!

Дзяўчына вытарашчыла вочы і гнеўна адказала:

— С какими ещё резинками?! Нормальные булочки! Вы мне всех покупателей распугаете! Резинки он где-то увидел!

Мужчына сумна ўздыхнуў, паківаў галавой і пайшоў міма, так нічога і не купіўшы…

Ёсць у мяне яшчэ адно назіранне. Калі ты пачынаеш размаўляць па-беларуску на вуліцы, у краме, у транспарце, то людзі адразу ж азіраюцца ў твой бок. Нейк ехала ў маршрутнай таксоўцы на апошнім сядзенні. Кампанія падабралася даволі шумная, нават музыкі з прыёмніка вадзіцеля не было за ёй чуваць. У маёй кішэні зазваніў мабільны. Я дастала слухаўку і пачала размаўляць па-беларуску. У салоне маршруткі адразу стала ціха, і кожны пасажыр павярнуўся ў мой бок, каб паглядзець на мяне, нібы на нейкі цуд. Маю размову ўважліва праслухалі да канца.

Што рабіць? Як выхоўваць любоў да роднай мовы ў беларусаў? Працуючы ў школе, я тлумачу дзецям, што сёння той чалавек, хто добра ведае беларускую мову, належыць да высокаадукаваных людзей, а наша мова набывае статус элітарнай. Гэта вымушае паглядзець на яе зусім з іншага боку. Школьнікам раю больш чытаць па-беларуску і нагадваю, што прэстыжна ведаць творчасць сучасных беларускіх пісьменнікаў і адкрываць для сябе новыя імёны маладых аўтараў. З радасцю адзначу, што ў вачах вучняў заўважаю агеньчык зацікаўленасці.

**Кацярына ХАДАСЕВІЧ-ЛІСАВАЯ**

# На прастор!

**Таццяна СТУДЗЕНКА**

Калісьці пісьменнікі і самі шмат вандравалі (узяць хаця б аўтабіяграфічнага героя Якуба Коласа або багаты падарожны вопыт Цішкі Гартнага), але з цягам часу творчыя людзі сталі менш мабільнымі. З іншага боку — і прастора краіны стала больш насычаная, патрабуе шмат намаганняў ад тых, хто імкнецца яе спасцігнуць. Так што ініцыятыва творчых паездак пісьменнікаў па розных рэгіёнах Беларусі, непасрэднае знаёмства не толькі з культурнай спадчынай, але і з прадпрыемствамі, сустрэчы з людзьмі — "адказнымі" і "простымі" — аказалася вельмі своечасовай.

Чарговая вандроўка, арганізаваная Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь і Саюзам пісьменнікаў Беларусі, праходзіла па Гомельскай вобласці. Праграма яе надзвычай багатая: сустрэча ў Гомельскім аблвыканкаме, наведванне палацапаркавага комплексу князёў Паскевічаў, экскурсія на кандытарскую фабрыку "Спартак" і на прадпрыемства "Малочныя прадукты", гутарка са студэнтамі і выкладчыкамі Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта, паездка ў горад Ветку і шэраг невялікіх мястэчак вобласці.

Ва ўтульнай зале Гомельскага аблвыканкама пісьменнікаў сустрэлі нібы кіназорак: фота-, відэакамеры, сувеніры, прывітальныя слова старшыні Гомельскага абласнога савета дэпутатаў Марыі Бондар. Аднак хутка афіцыйнае пасяджэнне перайшло ў фармат шчырай гаворкі. Больш падрабязную інфармацыю пра пісьменніцкую вандроўку па Гомельшчыне чытайце ў наступным нумары.



*На кандытарскай фабрыцы "Спартак", фота Рагнеда Малахоўскага.*

# Хто першы па прэмію?

**Вылучэнне кандыдатаў на прэмію Саюзнай дзяржавы ў галіне літаратуры і мастацтва на 2013 — 2014 гады пачалося напрыканцы мінулага тыдня ў культурнай сталіцы Беларусі гэтага года ў Нясвіжы. Вынік — першыя імёны прэтэндэнтаў на прэмію і шэраг прапаноў па ўдасканаленні Палажэння.**

**Таццяна КУЗНЯЧЭНКАВА**

У пасяджэнні "круглага стала" ўдзел узялі прадстаўнікі творчых саюзаў абедзвюх дзяржаў. Адна з мэт — актывізаваць творцаў: дзве кандыдатуры ад Міністэртва культуры Беларусі на мінулай прэміі — гэта вельмі мала. Застаюцца не прадстаўленымі асобныя віды мастацтва, жанры — цыркавое, эстраднае, дызайнерскае, народнае мастацтва, балет, опера, кіно… А там — шмат работ, вартых высокай міжнароднай адзнакі.

Перадусім пасяджэнне пакінула без адказаў нямала пытанняў. Прынамсі, сапраўдную інтрыгу стварылі кінематаграфісты ды мастакі, загадкава зазначыўшы, што вылучаюць насамрэч выбітныя творы. Рыгор Сітніца, першы намеснік старшыні Беларускага саюза мастакоў, запэўніў, што ні ў кога ніякіх нараканняў супраць гэтага чалавека — чаму менавіта ён, за якія творы — не будзе. Крышачку больш прыадкрылі тайну кінематаграфісты: іх кандыдаты працуюць у жанрах анімацыйнага і дакументальнага кіно — тых, што звычайна застаюцца не адзначанымі.

Нягледзячы на пэўную атмасферу загадкавасці, створаную папярэднімі выступоўцамі, некаторыя імёны патэнцыяльных прэтэндэнтаў на прэмію былі агучаны. Гэта дызайнер У. Цэслер і пісьменнік Г. Марчук. А непасрэдна падчас пасяджэння было прапанавана яшчэ адно імя творцы, чыя работа можа і нават павінна быць наміравана — В. Елізар'еў, народны артыст СССР і Беларусі, член Экспертнага савета па прэміях Саюзнай дзяржавы ў галіне літаратуры і мастацтва пры Пастаянным Камітэце Саюзнай Дзяржавы. Як справядліва зазначыла член Праўлення Беларускага саюза кінематаграфістаў Галіна Злабенка, беларускі балет ведаюць па Валянціну Елізар'еву.

Другім блокам пытанняў, якія абмяркоўваліся, сталі асобныя пункты Палажэння аб прэміях. Як адзначыла саветнік Прадстаўніцтва Пастаяннага Камітэта Саюзнай дзяржавы ў Мінску Людміла Антонава, паколькі сёння актыўна ідзе работа над новай рэдакцыяй Палажэння, у Пасткам можна ў пісьмовай форме накіроўваць свае прапановы — будзе вельмі своечасова і актуальна. Дарэчы, новае Палажэнне аб прэміях (а яно без змяненняў дзейнічае з 2005 года) можа быць прынята ўжо ў наступным годзе. Але перад тым як аформіць пісьмова, удзельнікі "круглага стала" агучылі свае прапановы.

Сярод названых — ужо знаёмае пытанне пра ўдзел маладых: "Мы прызнаём заслугі мэтраў, але хацелася б убачыць і моладзь". З гэтым пагадзіліся ўсе без выключэння. "Моладзь павінна ведаць і адчуваць, што дзяржава клапоціцца пра яе, разумее яе, — выказаў сваё меркаванне старшыня Беларускага саюза кінематаграфістаў Віктар Васільеў. — Гэта той момант, калі мы павінны свае амбіцыі падціснуць. Давайце развівацца. І моладзь павінна быць у першых шэрагах". Што датычыць прэміі, дык трэцюю намінацыю можна раздзяліць паміж двума маладымі канкурсантамі.

Зацікавіла прысутных і ідэя, агучаная Галінай Злабенкай, — даць прэміі імя: "Вось кажуць "Оскар" — і тлумачыць нічога не трэба. А прэмія Саюзнай дзяржавы як дзіця без імені".

Калі з прапановай пагодзіцца Паст-кам, можна аб'явіць конкурс. Дапамагчы абяцае ў тым ліку і Саюз тэатральных дзеячаў Расійскай Федэрацыі, які мае свае друкаваныя выданні, падключае нават сацыяльныя сеткі — прэс-сакратар саюза Юлія Сусіна цалкам падтрымала ідэю.

Удзельнікі пасяджэння выказаліся і за спрашчэнне працэдуры падачы дакументаў, якія праходзяць некалькі інстанцый і ступеняў адбору: спачатку Міністэрства культуры, пасля — знаёмства з творамі і абмеркаванне, далей — падрыхтоўка рэцэнзій, галасаванне… Як мяркуюць прадстаўнікі творчых саюзаў, было б добра накіроўваць заяўкі адразу ў Пасткам. Тым больш што, да прыкладу, архітэктары, чые работы таксама могуць быць прадстаўленыя на прэмію, увогуле адносяцца да іншага міністэрства.

І напрыканцы яшчэ адна цікавая навіна. Як аказалася, лірыкам пазайздросцілі фізікі: у іх таксама ў хуткім часе з'явіцца прэмія Саюзнай дзяржавы — у галіне навукі і тэхнікі.

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка патрабуе ад беларускіх тэлеканалаў навізны і цікавых праграм. Такую задачу ён паставіў 27 лістапада, прымаючы з дакладам старшыню Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Генадзя Давыдзьку. У першую чаргу Кіраўнік дзяржавы пацікавіўся, як наладжана міжнароднае вяшчанне Белтэлерадыёкампаніі. Другой тэмай, на якую звярнуў увагу Прэзідэнт, стала аптымізацыя структуры Белтэлерадыёкампаніі, паляпшэнне якасці працы ўсіх яе падраздзяленняў.

✔ Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка павіншаваў галоўнага рэдактара часопіса "Наш современник" Станіслава Куняева з 80-годдзем. "Прысвяціўшы сваё жыццё служэнню Слову, Вы ўнеслі неацэнны ўклад у развіццё вялікай рускай літаратуры, выхаванне многіх пакаленняў чытачоў у духу любові да Айчыны і аддансці высокім маральным прынцыпам", — гаворыцца ў віншаванні.

✔ У Пекіне распачаліся Дні культуры Беларусі. Форум арганізаваны Міністэрствам культуры Беларусі сумесна з Міністэрствам культуры КНР пры падтрымцы пасольства Беларусі ў Кітаі. У дзень адкрыцця форуму прэзентавана экспазіцыя беларускай графікі і старадаўніх нацыянальных касцюмаў.

✔ У Барысаве і Барысаўскім раёне адбыліся памятныя мерапрыемствы з нагоды 200-годдзя вайны 1812 года. Цэнтральныя падзеі разгарнуліся на Брылёўскім полі і пачаліся з міжнароднага мітынгу-рэквіема. Прайшла IV Міжнародная канферэнцыя "Каладзееўскія чытанні", быў адкрыты дом І. Х. Каладзеева і памятны знак "Смутак і пакланенне" на Брылёўскім полі.

✔ Пяты міжнародны музычны фестываль "Масква-Салігорск-Транзіт" адбудзецца сёння ў Салігорску, 1 снежня — у Любані, 2 снежня — у Мінску. Сутнасць фестывалю не толькі ў сумесных з расійскімі музыкантамі выступленнях, але і ў правядзенні майстар-класаў з іх удзелам.

✔ Уладальнікам Гран-пры Міжнароднага конкурсу сучаснай харэаграфіі ў Віцебску IFMC-2012 стаў праект Аляксея Бусько з Кіева з харэаграфічнай мініяцюрай "Альбом" на музыку Leo Ferre. Першая прэмія ў намінацыі "Аднаактовы балет" прысуджана японскаму Dance Creation Award, у намінацыі "Харэаграфічная мініяцюра" — ансамблю сучаснай харэаграфіі Кемераўскага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў.

✔ На Брэстчыне сёння сустракаюць дзявятую "Лунінскую восень" — абласны літаратурны фестываль з уручэннем прэміі імя Уладзіміра Калесніка. Свята традыцыйна падводзіць вынікі творчай дзейнасці пісьменнікаў з Брэсцкага аддзялення СПБ, адзначае працы вядомых і маладых аўтараў. На свята завітаюць і госці з Мінска — у тым ліку прадстаўнікі РВУ "Выдавецкі дом "Звязда".

✔ Беларус Уладзімір Свірскі, які сыграў адну з роляў у фільме "У тумане", прызнаны лепшым акцёрам XXII Міжнароднага фестывалю ўсходнееўрапейскага кіно (Котбус, Германія). Пра гэта паведамілі на Нацыянальнай кінастудыі "Беларусьфільм". Уладзімір Свірскі ўзнагароджаны за яркае выкананне трагічнай ролі Сушчэні ў карціне па матывах аповесці Васіля Быкава (рэжысёр — Сяргей Лазніца). Акрамя таго, фільму "У тумане" прысуджаны прыз экуменічнага журы.

Падрыхтавала **Ярына РЫТАМІНСКАЯ**

# Кітайская цывілізацыя — праз дыялог культур

**Мікола БЕРЛЕЖ**

29 — 30 лістапада ў Мінску праходзіла 3-я Міжнародная канферэнцыя "Кітайская цывілізацыя ў дыялогу культур". Арганізатары — Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт, Рэспубліканскі інстытут кітаязнаўства імя Канфуцыя БДУ, кафедра мовазнаўства і краіназнаўства Усходу БДУ, Мінскі гарадскі навукова-педагагічны цэнтр "Тайген".

Па традыцыі кітаязнаўчая канферэнцыя ўважлівая да праблем гісторыі і культуры, асветніцтва і літаратуры. Пра гэта сведчаць тэмы хаця б некаторых дакладаў і выступленняў — "Кітайскі жывапіс. Гахуа", "Кінематограф Кітая", "Дыялог культур: роля інтэлігенцыі", "Кітайская цывілізацыя ў ацэнцы ўраджэнца Беларусі М. Кавалеўскага", "Беларускае і кітайскае вяселлі: параўнальны аспект".

Мовы выступленняў — беларуская, руская, кітайская, англійская. У межах канферэнцыі працавала "Школа маладога кітаязнаўцы". А адна з секцый была прысвечана наступнай праблематыцы — "Кітайская мова ва ўмовах глабалізацыі".

# Чытанне для дзяцей

Міжнародны літаратурны конкурс "Нацыянальная літаратурная прэмія «Залатое пяро Русі»-2012" падвёў вынікі. Сярод узнагароджаных, якіх віншавалі ў Маскве ў Цэнтральным доме літаратара — паэт, член саюзаў пісьменнікаў Беларусі і Расіі Андрэй Смятанін, які перамог у намінацыі "Дзіцячая літаратура".

У гэты ж дзень прайшоў з'езд Міжнароднага творчага аб'яднання дзіцячых аўтараў, які падвёў вынікі дзейнасці за апошнія пяць гадоў. Таксама ўдзельнікамі была прынята канцэпцыя міжнароднай праграмы падтрымкі дзіцячага і сямейнага чытання, зацверджаны кіраўнікі арганізацыі. Старшынёй праўлення абраны А. Смятанін.

Дарэчы, старт міжнароднай пісьменніцкай ініцыятывы па падтрымцы дзіцячага чытання будзе дадзены 6 лістапада ў межах Другой спецыялізаванай выстаўкі-кірмашу дзіцячай кнігі "Книжки в штанишках", арганізатарамі якой выступаюць Саюз пісьменнікаў Беларусі, Камітэт па адукацыі Мінгарвыканкама і "Экспафорум".

На выстаўцы акрамя кніжак будуць шырока прадстаўлены перыёдыка, аўдыё і відэа, а таксама развіваючыя гульні. Спадабаюцца маленькім наведвальнікам мультфільмы, мастацкія майстэрні, цікавыя прэзентацыі і безліч конкурсаў, віктарын і гульняў. Усё гэта — у Палацы дзяцей і моладзі з 6 па 10 лістапада.

**Арцём ВАСІЛЕВІЧ**

# Далягляды святла і чысціні

**Сяргей ШЫЧКО**

Юбілей вядомага рускага паэта Станіслава Куняева — падзея і для сучаснага беларускага літаратурнага працэсу. Творца пераклаў "Песню пра зубра" Міколы Гусоўскага, паэму, якая з'яўляецца асаблівым помнікам увогуле беларускай культуры, беларускай гісторыі.

Але сёння хацелася б сказаць яшчэ пра адзін шматгадовы клопат Станіслава Юр'евіча Куняева як галоўнага рэдактара вядучага расійскага літаратурна-мастацкага часопіса "Наш современник". На працягу многіх гадоў гэта выданне традыцыйна выпускала "беларускія нумары". Дзесяткі паэтаў і празаікаў прадставілі чытачу свае новыя творы ў перакладзе на рускую мову. Алесь Савіцкі, Валянцін Лукша, Уладзімір Карызна, Міхась Пазнякоў, Уладзімір Саламаха, Мікола Мятліцкі, Алесь Бадак, Раіса Баравікова, Генадзь Пашкоў... Пералік можна доўжыць. Заўважым, што адбылося гэта ва ўмовах, калі няма ўжо ранейшай маскоўскай увагі да выдання нацыянальных літаратур на рускай мове. А быў жа час, калі толькі ў адзін год у "Советском писателе", "Молодой гвардии", "Художественной литературе", "Детской литературе" і іншых выдавецтвах Масквы і Ленінграда выходзіла да 20 (!) і болей кніг беларускіх аўтараў. Сёння істотную частку гэтай нагрузкі ўзяў на сябе "Наш современник". А колькі ім зроблена для рускай літаратуры Беларусі!.. "Наш современник" — даўні творчы партнёр і айчыннага часопіса "Нёман". Дзякуючы падказкам расійскіх калег і ў першую чаргу Станіслава Куняева і ў Беларусі ўважліва ставяцца да сучаснай рускай літаратуры.

Адна з першых заўважных публікацый Станіслава Юр'евіча на пачатку творчай дарогі ў 1960-я гады — цыкл вершаў "Казахстанская тетрадь". Першыя зборнікі паэзіі, выдадзеныя ў Калузе і Маскве, — "Землепроходцы" і "Звено". Згадваючы гэта, хачу заўважыць, што слынны рускі паэт і цяпер шмат у чым выступае першапраходцам, а яшчэ з'яўляецца сапраўды трывалым звяном у беларуска-расійскім літаратурным пабрацімстве.

## З нагоды

# Артысты з народа

**Творчы вечар заслужанага аматарскага калектыву Рэспублікі Беларусь, фальклорнага ансамбля "Крупіцкія музыкі" Крупіцкага цэнтра культуры імя Уладзіміра Грома, прысвечаны 30-годдзю дзейнасці музыкаў, прайшоў у Беларускай дзяржаўнай філармоніі. У канцэртную праграму ўвайшлі лепшыя творы мінулых гадоў і новыя пастаноўкі.**

**Раіса МАРЧУК**

У артыстаў з народа "спяваюць" нават піла, падковы, маслабойкі, чыгункі. А пачыналася ўсё далёкія 80-я мінулага стагоддзя, калі на хвалі адраджэння фальклору вёска Крупіца ператварылася ў сапраўдную фальклорную сталіцу. "Музыкам" наканавана было стаць адным з лепшых фальклорных калектываў нашай краіны. У аснове рэпертуару — багаты інструментальны, танцавальны і вакальны беларускі фальклор. Колькі пачуццяў, незабыўных сустрэч, шчаслівых успамінаў прыйшло праз іх творчы лёс! Штогод яны даюць больш як пяцьдзясят канцэртаў як у нашай краіне, так і за мяжой.

— "Крупіцкія музыкі" — візітка нашай краіны, сапраўдны беларускі брэнд, — зазначыў падчас вечарыны намеснік міністра культуры Рэспублікі Беларусь Тадэуш Стружэцкі. — У 1984 годзе, прадстаўляючы рэспубліку на міжнародным фестывалі фальклору ў Югаславіі, артысты, народныя па духу і змесце, выклікалі ў гледачоў велізарную хвалю эмоцый і водгукаў. А далей пайшло, як і павінна было быць. На першай сусветнай фальклорыядзе ў Галандыі яны не "згубіліся" сярод больш як 100 замежных калектываў, а годна прадставілі Беларусь. "Музыкі" адныімі з першых узнялі пласты фальклорнага мастацтва, потым за імі пайшлі іншыя калектывы. "Крупіцкія музыкі" дэманструюць узоры народнага мастацтва і ўжо ўвайшлі ў летапіс нацыянальнай культуры.

Заснаваў калектыў Уладзімір Гром, заслужаны работнік культуры Рэспублікі Беларусь, вельмі неардынарная асоба, які, на жаль, заўчасна пайшоў з жыцця. Менавіта пры Уладзіміру Мікалаевічу калектыў быў уганараваны спецыяльнай прэміяй Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у намінацыі "Аматарская мастацкая творчасць". Значны ўклад ў фарміраванне калектыву ўнёс і заслужаны работнік культуры Беларусі Георгій Чорны — адметны балетмайстра, пастаноўкі якога сёння выкарыстоўваюць многія аматарскія калектывы.

Цяперашні мастацкі кіраўнік калектыву Наталля Лісіца, падхапіўшы творчае крэда Уладзіміра Грома, з поспехам кіруе калектывам, які мае сваю адметнасць, свой почырк і стыль. Калі "Крупіцкія музыкі" выступаюць, цяжка адвесці позірк. Убачыўшы канцэрт "музыкаў" хоць раз, ніколі не забудзешся пра ўражанні ад таго, што адбывалася на сцэне.

## Духоўныя абсягі

# Слова — аснова асноў

**Юрась ДАНІЛЬЧАНКА**

Гэты год — не толькі 1150 годдзе "бацькі гарадоў беларускіх", а і 1020-годдзе з дня ўтварэння ў старажытным Полацку першай на нашай зямлі епархіі. Тым самым Полацк стаў духоўным цэнтрам, з якога распаўсюджвалася святая хрысціянская вера — аснова маральнага адраджэння народа. Для гэтага, як вядома, вельмі шмат зрабіла прападобная Еўфрасіння Полацкая, якая стала апякункай зямлі беларускай.

Невыпадкова, што XII Свята-Еўфрасіннеўскія педагагічныя чытанні "Духоўна-маральны патэнцыял слова" прайшлі ў Полацку і прысвячаліся 1020-годдзю ўтварэння Полацкай епархіі. Гэтаксама невыпадкова яны з'яўляліся менавіта педагагічнымі. Галоўнай мэтай гэтых чытанняў было садзейнічанне аб'яднанню намаганняў дзяржавы, Праваслаўнай Царквы і грамадскасці ў выхаванні падрастаючага пакалення на аснове традыцыйных духоўна-маральных каштоўнасцей беларускага народа, у распаўсюджванні вопыту супрацоўніцтва органаў кіравання, а таксама ўстаноў адукацыі і Праваслаўнай Царквы. У сувязі з гэтым узрастае значэнне слова як цудоўнага сродку маральнага выхавання. Багацце мовы сведчыць пра багацце душы і ўнутранага свету народа. Таму вельмі важна захаваць усю адметнасць слова.

На гэтых і іншых аспектах засяроджвалі сваю ўвагу ўдзельнікі чытанняў, якія вёў высокапраасвяшчэнны Феадосій, архіепіскап Полацкі і Глыбоцкі. У гаворцы ўзялі ўдзел старшыня Рэспубліканскага грамадскага аб'яднання "Бацькі і настаўнікі за адраджэнне праваслаўнай адукацыі" Уладзімір Грозаў, дацэнт кафедры педагогікі і псіхалогіі Віцебскага абласнога інстытута развіцця адукацыі Любоў Каваленка; протаіерэй, кіраўнік аддзела адукацыі і катэхізацыі Пінскай епархіі Георгій Мацкевіч, прафесар кафедры ідэалагічнай работы Ваеннай акадэміі Рэспублікі Беларусь, палкоўнік Іван Саблін, прадстаўнікі Маскоўскай педагагічнай акадэміі Таццяна Дароніна і Нікіта Дзенісюк і іншыя.

У рамках чытанняў адбылася прэзентацыя факсімільнага выдання Жыція Еўфрасінні Полацкай, асобнік якога быў падораны Полацкай епархіі. Уладзімір Грозаў і член праўлення Міжнароднага руху "Сям'я — Адзінства — Айчына" Алесь Марціновіч уручылі архіепіскапу Феадосію ордэн "Вернасць і вера". Выкладчыца рускай мовы і літаратуры СШ № 159 г. Мінска Тамара Кукушкіна, намеснік дырэктара Вілейскай гімназіі № 2 Мікалай Іваненка і І. Саблін узнагароджаны медалём Міжнароднага дабрачыннага фонду "За заслугі".

Літабсягі

# Постаць альтруіста




70 гадоў таму ў нямецкім лагеры смерці ў Трэблінцы скончылася жыццё вядомага педагога-наватара, пісьменніка, публіцыста, грамадскага дзеяча Януша Корчака. Яго досвед па абароне правоў дзяцей, у вывучэнні дзіцячай псіхалогіі нельга пераацаніць — і нельга недаацэньваць, таму ў Мінску 24 — 28 лістапада адбыўся "Фестываль Януша Корчака".

**Настасся КРАЎЧАНКА,**
**фота Кастуся Дробава**

"Фестываль",зразумела,прадугледжвае шэраг імпрэз. Для маленькіх чытачоў у Галерэі сучаснага мастацтва "Ў" — ранішнік з прэзентацыяй адноўленых перакладаў кніг Я. Корчака "Кароль Мацюсь Першы" (у перакладзе Ядвігі Бяганскай) і "Кароль Мацюсь на бязлюдным востраве" (пераклад Уладзіміра Васілевіча), а таксама кнігі "Кайтусь-чарадзей", якая ўпершыню з'явілася па-беларуску (перакладчык Марына Шода). Для дарослых чытачоў у памяшканні атэля "Мінск" наладжаныя лекцыі па гісторыі педагогікі і дзейнасці Старога Доктара з удзелам польскага прафесара Анджэя Яноўскага. У фармаце "для моладзі" творы Я. Корчака прэзентаваліся ў сценах Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта.

Выбар пляцоўкі для прэзентацыі невыпадковы: будучым педагогам ёсць што пераняць у выбітнага майстра. І сёння досвед Я. Корчака карысны і дапамагае выхоўваць дзяцей больш мудра, разважліва, падкрэсліла ў сваім выступленні прадстаўніца пасольства Рэспублікі Польшча ў Рэспубліцы Беларусь Эльжбета Шчэпаньска-Дамброўска.

Марына Шода нагадала гасцям імпрэзы пэўныя моманты з біяграфіі слыннага педагога. Дзеці — такія ж паўнавартасныя людзі, як і дарослыя, — дакляраваў Стары Доктар. У 29 гадоў ён адмовіўся ад думкі мець уласных дзяцей: у яго былі сотні дзяцей-сірот.

Сапраўднай міні-лекцыяй стала выступленне слыннага корчаказнаўца Анджэя Яноўскага. Алена Бяганская — унучка славутай перакладчыцы — і Уладзімір Васілевіч распавялі гісторыю перакладаў на беларускую мову твораў Я. Корчака. Далучыцца да іх не позна ў любым узросце, — перакананы У. Васілевіч. Акцёр Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы Павел Харланчук пацвердзіў яго словы бліскучым выкананнем урыўка з кнігі "Кайтусь-чарадзей".

Усе выступоўцы адзначалі неверагодна высокі маральны аўтарытэт Я. Корчака, пра які можна меркаваць хаця б з такіх яго слоў: "Нікому я не рабіў зла. Я не ўмею. Я проста не ведаю, як гэта рабіць".

Арт-лінія

# У свеце фантазій Моцарта

У Рэспубліканскім Палацы прафсаюзаў адбылася чарговая імпрэза Музычнага тэатра "Галерэя" — спектакль-мініяцюра "Фантазіі Вольфганга Амадэя". Гісторыю пра пачуцці, расказаную музыкай Моцарта, увасобілі артысты Ірына Лой (сапрана), Яўген Глебаў (барытон), Аляксандр Жукаў (тэнар), а таксама Вадзім Сідараў (раяль, клавесін), Елізавета Гембіцкая (скрыпка), Станіслаў Петчанка (віяланчэль).

**Вольга ДОЎГАЯ,**
**фота Веранікі Баранчук**

"Фантазіі Вольфганга Амадэя" — гэта рамантычныя музычныя мініяцюры, аб'яднаныя адзіным сюжэтам, чароўныя лірычныя сцэнкі паміж удзельнікамі своеасаблівага любоўнага трохкутніка — Летуценніцай Фройляйн, Дзіваком Барытонам і Натхнёным Тэнарам. У цэнтры ўвагі гледача маладая дзяўчына, якая шукае сваё каханне. Яе пачуцці і развагі, мары і думкі, сардэчныя хваляванні і надзеі на шчасце паўстаюць у музыцы Моцарта, у арыях з яго геніяльных опер "Вяселле Фігаро", "Чароўная флейта", "Дон Жуан" і "Так робяць усе".

Спектакль атрымаўся вытанчаным і лёгкім, як і музыка, якая натхніла яго стваральнікаў і ўдзельнікаў. Падобныя камерныя спектаклі прываблівають натуральнасцю сцэнічных паводзін артыстаў, патрабуючы ад выканаўцаў максімальна тонка і акуратна перадаваць на сцэне пачуцці і эмоцыі сваіх персанажаў. Увогуле, акцёрскі ансамбль спектакля вельмі ўдалы, дзякуючы, напэўна, практыцы тэатра "Галерэя", які не мае трупы і працуе па прынцыпе антрэпрызы: запрашае да ўдзелу ў сваіх праектах менавіта тых артыстаў, што найлепшым чынам адпавядаюць задачам кожнай канкрэтнай пастаноўкі.

Аднак некалькі істотных рэчаў выклікае пэўныя пытанні і замінае ўспрыманню спектакля як цэласнага. Не вельмі ўдалым вырашэннем з'явілася выкарыстанне дзвюх моў (арыі выконваліся на італьянскай і рускай мовах), удасканалення патрабуе кампаноўка музычных нумароў.


*Летуценніца — Ірына Лой, Барытон — Яўген Глебаў, Тэнар — Аляксандр Жукаў.*

Спектакль "Фантазіі Вольфганга Амадэя" (рэжысёр — Алена Медзякова) стаў чацвёртым і апошнім у цыкле лістападаўскіх імпрэз Музычнага тэатра "Галерэя". Гэтая пастаноўка, а таксама спектакль-канцэрт Ганны Бяляевай "У душы маёй", вартыя таго, каб і надалей, пасля выпраўлення пэўных недапрацовак у рэжысуры і мастацкім афармленні, упрыгожваць афішу маладога творчага калектыву і паказвацца на пастаяннай аснове. Зрэшты, адзіны на сённяшні час прыватны музычны тэатр у краіне абяцае ў наступным годзе парадаваць аматараў класічнага музычнага мастацтва новымі спектаклямі і камернымі канцэртамі.

Повязі

# Вайна 1812 года вачыма відавочцы

Унікальная выстаўка "Вайна 1812 года вачыма відавочцы. Графіка Хрысціяна Вільгельма фон Фабера дзю Фора", прымеркаваная да Дзён Масквы ў Мінску, будзе праходзіць да 23 студзеня 2013 года ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь.

**Алеся АРЫЦКАЯ,**
**фота Кастуся Дробава**

Работы вюртэмбергскага генерал-маёра і мастака, афіцэра "вялікай арміі Напалеона" ў Беларусі экспануюцца ўпершыню.Хрысціян Вільгельм фон Фабер дзю Фор — нямецкі батальны мастак, вядомы сваімі літаграфіямі на тэму вайны 1812 года. Фон Фабер рабіў сапраўдныя рэпартажы з месцаў падзей.

Трэба адзначыць, што, сам таго не ведаючы, мастак зрабіў вялікую паслугу жыхарам Беларусі — яго работы з'яўляюцца ўнікальнай крыніцай па гісторыі краіны пачатку XIX стагоддзя: дзякуючы ім, можна скласці ўяўленне пра шэраг помнікаў культуры, якія не захаваліся да нашага часу.

— Работы фон Фабера вельмі цікавыя для беларускага гледача, — зазначае куратар выстаўкі Ігар Дубінін. — Армія Напалеона прайшла праз усю Беларусь, таму нярэдка можна пабачыць знясіленыя твары французскіх салдат на фоне беларускіх мястэчак і гарадоў. Аднак, на жаль, разабрацца ва ўсіх тапанімічных назвах вельмі складана: подпісы да літаграфій рабіліся на нямецкай мове, потым іх пераклалі на французскую, з французскай на рускую. Карэктны пераклад амаль немагчымы. Тыя назвы, што мы знайшлі на карце, кшталту "Вільня", "Бешанковічы", "Нёман", мы напісалі правільна. Астатнія — проста транскрыпцыі.

Не ўсе прадстаўленыя работы адлюстроўваюць эпізоды з поля бою. Ёсць шмат бытавых сюжэтаў, дзякуючы якім можна пабачыць, як ажыццяўляўся пастой напалеонаўскіх войск, паглядзець на асаблівасці побыту мясцовага насельніцтва.



На аснове накідаў, прывезеных з паходаў, мастак стварыў сто акварэляў і два жывапісныя палотны — "Пераправа цераз Бярэзіну" і "Кафэ ў Вільні". Дадзеныя творы лічацца адной з найважнейшых крыніц па гісторыі напалеонаўскіх войнаў (цяпер акварэлі знаходзяцца ў Баварскім музеі арміі ў Інгальштаце). У 1827 — 1830-х гг. серыя малюнкаў Фабера дзю Фора пра паход у Расію была гравіравана нямецкім мастаком Маркусам Алаізіем Эберхартам Эмінгерам і выдадзена аўтарам у Штутгарце ў 1831 годзе пад назвай "Лісты з майго партфеля, замаляваныя на месцы падчас кампаніі ў Расіі". Перавыданняў гэтага альбома, тым больш у рускім перакладзе, не было. Сёння ён лічыцца абсалютнай бібліяграфічнай рэдкасцю.

З-пад пяра

Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі ганаровае званне "Заслужаны дзеяч культуры" прысвоена начальніку ўпраўлення культуры Мінскага аблвыканкама Анатолю Акушэвічу. Анатоль Леанідавіч — жаданы госць на старонках газеты "Літаратура і мастацтва". Шчыра віншуем і жадаем далейшых поспехаў!

**Лімаўцы**

Сёння ў Полацку ў канферэнц-зале Музея беларускага кнігадрукавання адбудзецца пасяджэнне "круглага стала" "Музычнае мастацтва як крыніца развіцця беларуска-расійскіх творчых сувязей. Аб прэміі Саюзнай дзяржавы ў галіне літаратуры і мастацтва". У межах пасяджэння будуць разгледжаны пытанні беларуска-расійскага супрацоўніцтва ў сферы музычнага мастацтва, а таксама перспектывы ўдзелу творчых аб'яднанняў Беларусі і Расіі ў працэсе вылучэння твораў на прэмію 2013 — 2014 гг.

**Ярына РЫТАМІНСКАЯ**

У Віцебску падвялі вынікі гарадскога літаратурнага конкурсу "Купала і Колас, вы нас гадавалі...", прысвечанага 130-годдзю нараджэння беларускіх песняроў. Арганізавалі яго абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі і Цэнтральная гарадская бібліятэка імя М. Горкага. Пераможцы вызначаны з амаль 150 удзельнікаў. Фактычна конкурс ператварыўся ў абласны, бо шмат работ было не толькі з Віцебска, а і з іншых гарадоў, Аршанскага, Полацкага, Міёрскага, Чашніцкага, Пастаўскага, Сенненскага, Докшыцкага раёнаў. У першай узроставай групе (да 14 гадоў) лепшымі прызнаны вершы Аксаны Прашкевіч (Туркоўская СШ-сад Міёрскага раёна), Кацярыны Сяменас (Пастаўская СШ № 2) і Алёны Ляхавай (Заборская СШ-сад Расонскага раёна). У намінацыі "Проза" першае месца заняла васьмікласніца з Фарынаўскай СШ Полацкага раёна Паліна Баранская. У другой групе (старэйшыя за 14 гадоў) пераможцамі сталі першакурсніца ВДУ імя П. Машэрава Анастасія Радзевіч і дзевяцікласніца полацкай СШ № 12 Марыя Якімовіч ("Паэзія"), дзевяцікласніца з Начскай БШ-сада Полацкага раёна Аляксандра Свістун ("Проза").

**Галіна ІВАНОВА**

У Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры адбылася сустрэча з вядучым праграмы "Новыя падарожжы дылетанта" акцёрам Юрасём Жыгамонтам. Імпрэза праходзіла ў рамках праекта "Літаратурныя падарожжы", распачатага ўвесну гэтага года. Акрамя віртуальных падарожжаў, непасрэдных расповедаў пра гістарычныя і прыгожыя мясціны Беларусі, удзельнікі сустрэч пазнаёміліся з літаратурнымі і журналісцкімі творамі, якія з'явіліся пасля падарожжаў. Тэлевізійныя праекты "Падарожжа дылетанта" і "Новыя падарожжы дылетанта" — даўно займелі сваю тэлеаўдыторыю. Юрась Жыгамонт, нястомны вандроўнік, які аб'ездзіў шмат куточкаў Беларусі, здзіўляе не толькі сваёй дасведчанасцю і ўменнем бачыць прыхаваныя ад вока таямніцы замкаў і гістарычных паселішчаў, але і сакавітай нязмушанай беларускай гаворкай. На сустрэчы ў музеі вандроўнік, акцёр і тэлевядучы падзяліўся з гасцямі музея планамі на будучае, адказаў на пытанні.

**Рыта СТАХ**

# Слова як аўдыёвобраз

## ТВОРЫ УЛАДЗІМІРА КАРАТКЕВІЧА Ў ЖАНРАХ МАСТАЦКАГА РАДЫЁВЯШЧАННЯ

**Вывучаць спадчыну Уладзіміра Караткевіча сёння можна не толькі па выдадзеных кнігах пісьменніка, але і паводле перастварэння яго твораў сродкамі аўдыёзапісу. Маецца на ўвазе не проста чытанне тэкстаў уголас прафесійным акцёрам (варыянт сучаснай аўдыёкнігі), а гукавыя магчымасці ўвасаблення прозы і паэзіі пісьменніка і яго яркіх літаратурных вобразаў у жанрах мастацкага радыёвяшчання. Створана фактычна свая аўдыёсістэма паводле Караткевіча. Можна гаварыць нават пра асобны радыётэатр пісьменніка на Беларускім радыё, рэпертуар якога налічвае амаль 40 назваў мастацкіх работ.**

**Галіна ШАБЛІНСКАЯ**

Крытык Ала Сямёнава некалі дакладна заўважыла, што “пяро ва Уладзіміра Караткевіча было падуладнае магутнай, стваральнай — сонечнай стыхіі яго таленту”. Магчыма, адсюль варта шукаць разгадку вялікай цікавасці рэжысёраў радыё да спадчыны пісьменніка ў розныя часы. Радыёспектаклі пастаўлены паводле асноўных раманаў У. Караткевіча: “Каласы пад сярпом тваім” (1986), “Нельга забыць” (1985), “Чорны замак Альшанскі” (1983), аповесцей: “У снягах драмае вясна” (1990), “Ладдзя Роспачы” (1993), шматлікіх апавяданняў і казак, па дзвюх п’есах: “Млын на Сініх Вірах” (1959), “Званы Віцебска” (1979, радыёверсія аднайменнага спектакля Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Я. Коласа), запісана таксама некалькі літаратурна-музычных кампазіцый паводле вершаў.

Радыёфанічнасць спадчыны Караткевіча — у яе асаблівай архітэктоніцы, багатым філасофскім падтэксце, унутраным напружанні сюжэта, вастрыні жывой думкі, шматпланавай аўтарскай інтанацыі. Між іншым, усе яго жанры аб’ядноўваюць святло і любоў. І яны таксама ёсць той канстантай, што прыцягвае рэжысёрскую ўвагу да слова Караткевіча. Рэжысёр-пастаноўшчык некалькіх радыёспектакляў па яго творчасці В. Кернажыцкая лічыць, што “карціны Караткевічавых твораў — драматургічныя. Жыццё ў іх мае свае фарбы, гукі, пахі, таямніцу неразгаданай глыбіні. Яго герой — чалавек свабоды, дзеяння, незалежны ад грамадскіх прыярытэтаў у ідэалогіі. Усё гэта паддаецца яскравай адаптацыі аўдыёсродкамі”.

Унікальнасць аўдыёспадчыны Караткевіча яшчэ і ў тым, што яна дакладна захоўвае час. Многае з таго, што пастаўлена на Беларускім радыё, рабілася адразу пасля напісання твора. Напрыклад, першы радыёспектакль “Млын на Сініх Вірах” пастаўлены ў 1959 годзе па першай п’есе Караткевіча (рэжысёр-пастаноўшчык В. Карпілаў, гукарэжысёр Б. Шангін). Падзеі драмы адбываюцца ў 1941—1942 гадах у ваколіцах раённага гарадка. Для барацьбы з ворагам у мясцовых лясах ствараецца партызанская брыгада. Забяспечыць яе хлебам даручана млынару Асінскаму, роднай дачцэ Марысі і Андрэю Лаўрановічу, а млын знаходзіцца ў глухой мясціне Сінія Віры. Ёсць у п’есе і лірычная лінія. Своеасаблівы трохкутнік утвараюць адносіны Андрэя, Марысі і Віктара Сміхальскага.

У спектаклі напачатку скарыстаны прыём успамінаў, якія пераходзяць у асноўны ваенны сюжэт. Вядучы Каляда — пісьменнік, старшыня гарвыканкама, камісар партызанскага атрада — у адной асобе (заслужаны артыст Беларусі П. Пекур). Праз рэмаркі пастаянна агучваюцца час і месца дзеяння. Таму спектакль атрымліваецца дастаткова статычным. У гэтым — таксама стылістыка тых часоў. У гукавым афармленні — мінімум шумоў і музыкі. Дастаткова пафасна гучыць сама тэма вайны, што зноў жа падкрэслівае атмасферу 1950-х. У спектаклі заняты артысты Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Я. Купалы. У галоўных ролях — тады яшчэ пачаткоўцы, а сёння — народныя артысты Беларусі М. Захарэвіч, В. Белахвосцік і народны артыст СССР В. Тарасаў. У маладых характарах — шчырасць, адкрытасць, глыбокае пражыванне сваёй ролі. Сапраўдная лекарка Тэкля атрымалася ў народнай артысткі СССР Г. Макаравай. Яркі адмоўны персанаж Трубайлы створаны народным артыстам СССР З. Стомам.

Пасля першага радыёспектакля быў досыць вялікі перапынак. Ставіць актыўна пачалі ў канцы 70-х — пачатку 80-х гадоў. Адзін з яркіх спектакляў таго часу — “Паром на бурнай рацэ” (1981, аўтар інсцэніроўкі У. Мехаў, рэжысёр-пастаноўшчык А. Вавілаў, музыка А. Залётнева, гукарэжысёр В. Красоўскі, рэдактар Р. Часнова).



Як вядома, аснову твора складае сямейнае паданне пра лёс аднаго з продкаў Караткевіча, удзельніка паўстання пад кіраўніцтвам К. Каліноўскага. Трагічныя падзеі разгортваюцца ў навальнічную жнівеньскую ноч 1863 года. Канфлікт галоўных герояў — начальніка заслона капітана Пора-Леановіча і капітана Горава — выяўляе два тыпы характараў: надломлена-супярэчлівы і шчыра-сумленны. Але ўрокі жыцця якраз у тым, што чалавек здольны часам зразумець сапраўднае толькі праз вялікую драму ці штосьці непапраўнае...

У радыёспектаклі заняты бліскучы склад выканаўцаў: Пора-Леановіч — народны артыст СССР В. Тарасаў, Гораў — заслужаны артыст Беларусі У. Рагаўцоў, жонка Грынкевіча, Іван і улан — народныя артысты Беларусі Л. Давідовіч, Г. Гарбук, С. Журавель. Спектакль мае выразную паліфанічную карціну месца і абставін дзеяння: Дняпро, паром, навальніца. Стыхія вады як сімвал ачышчэння душы герояў, змены часу і абставін жыцця. Дакладна прапісаны псіхалагічны малюнак паводзін галоўных герояў. Вобразы яркія, запамінальныя: высакародны Гораў, цынічны Пора-Леановіч, які толькі перад смерцю прыадкрывае некаторыя акалічнасці сваёй асабістай драмы і дзякуе Гораву за бязлітасную праўду. Пэўная стрыманасць, скупаватая ашчаднасць прысутнічае ў музычнай лініі як лёгкае, але тонкае вызначэнне тэмы, сюжэта, стану персанажаў. Шчымлівы раманс у выкананні В. Пятліцкай гучыць пацвярджэннем думкі, што сапраўднае каханне даецца таксама як выпрабаванне на лепшае, што закладзена ў чалавеку прыродай. І стварае настальгічную ноту, якой увогуле прасякнуты гэты твор Караткевіча. Асаблівасць згаданай радыёпрацы яшчэ і ў тым, што на даэфірным праслухоўванні мастацкага савета прысутнічаў сам аўтар. Напэўна, гэта адзіны выпадак у гісторыі радыйных пастановак па Караткевічу. Яму спадабаўся спектакль, ён блаславіў прэм’еру.

Большая частка спектакляў па творчасці Караткевіча была пастаўлена на Беларускім радыё ў 80 — 90-я гады мінулага стагоддзя. З тых, што справядліва лічаць мастацкімі “радыёпалотнамі”, — спектакль у трох частках “Каласы пад сярпом тваім” паводле аднайменнага рамана (1986, аўтар інсцэніроўкі для радыё і рэжысёр-пастаноўшчык В. Анісенка, асістэнт рэжысёра С. Гавенка, гукарэжысёры Ю. Букін і У. Назараў, рэдактар У. Мехаў). Жанр можна вызначыць як радыёраман, у якім захоўваюцца асноўныя лініі кніжнага сюжэта.

Дарэчы, гэта прыклад класічнай радыёпастаноўкі 80-х гадоў, калі рэальна зрэжысіраваныя сцэны ў сукупнасці з музыкай і шумамі даюць слухачу магчымасць павандраваць у часе і прасторы. Нябачныя, пазначаныя толькі гукам, карціны і вобразы паступова набываюць пэўныя зрокавыя асацыяцыі — для кожнага свае. Спектакль дазваляе паглыбіцца ў гісторыю, адчуць сувязь з мінулым, распазнаць сябе і сваіх продкаў. Каб урэшце зразумець і прызнанне аўтара рамана адносна галоўнай ідэі твора: “Лёс добрых, як заўсёды ў тыя часы, у маім рамане страшны і жорсткі. І ўсё ж перамога на іхнім баку. Таму што на іхнім баку — праўда, таму што яны — “каласы пад сярпом тваім”: воля, Бацькаўшчына, любоў, народ…”

Вядучы (В. Анісенка) толькі штрыхамі пазначае, перагортвае старонкі радыёрамана. Эпічныя, лірычныя і псіхалагічныя сцэны даствараюцца яркай, шматфарбнай аўдыёкарцінкай. Тонка і па-майстэрску падабраны выразныя пейзажныя гукі. Цудоўную музыку, якая з вялікім густам выкарыстана пры афармленні, напісаў А. Залётнеў.

Працытую колькі слоў адносна аўдыёспектакля рэжысёра-пастаноўшчыка В. Анісенкі: “Я вельмі быў захоплены раманам. Таму і тры часткі ў спектаклі — я стараўся ўмясціць як мага болей першакрыніцы. Бо радыётэатр — гэта ўсё-такі літаратурны тэатр. Увага да слова, да аўтарскай інтанацыі павінна быць першаснай… Караткевіч — гэта як слязіна, як усмешка матчына. Гэта сапраўднае, як дыханне, як біццё сэрца. Тое, што замяніць нельга… Гэта мой любімы аўтар. Мы стараліся спасцігнуць, зразумець Караткевіча. Дарэчы, Уладзімір Сямёнавіч уласнаручна напісаў дазвол на гэту пастаноўку на радыёсцэнарыі”.

Напэўна, больш разняволенымі ў пошуку адпаведных выразных аўдыёсродкаў для пастановачных работ на Беларускім радыё былі 90-я гады. Для гэтага з’явіліся і новыя тэхнічныя магчымасці — першыя спробы камп’ютарнага запісу. Больш за тое, гэта быў час новага захаплення Караткевічам у беларускім грамадстве, перачытання яго спадчыны, адкрыцця невядомых раней твораў. Якраз тады і былі пастаўлены радыёспектаклі “У снягах драмае вясна”, “Ладдзя Роспачы”, “Кацёл з каменьчыкамі”, “Парыж на свеце ёсць…”, “Калядная рапсодыя” ды іншыя.

Цікавую радыёп’есу, створаную паводле вершаў і казкі У. Караткевіча “Верабей, сава і птушыны суд”, прапанаваў у 1992 годзе драматург С. Кавалёў і назваў яе “Парыж на свеце ёсць…”. Тады ж рэжысёрам З. Паўлоўскай і была ажыццёўлена аднайменная радыёпастаноўка (гукарэжысёр Л. Гаршунова, рэдактар С. Вавілава). Галоўны герой — неслух і фантазёр верабей насуперак загадам арла, кшталту “ляцець у вырай забараняецца, зімуем на бацькаўшчыне”, хацеў патрапіць у Парыж. Птушкі чыняць суд над вераб’ём, зыніцыіраваны арлом. Ноччу вераб’я вартуе сава. Пра акалічнасці яго сумнай перспектывы даведваецца заяц, які дзякуючы сваёй кемлівасці ратуе вераб’я ад смяротнага пакарання. У рэшце рэшт у вырай употайкі ляціць сам арол, а ўслед за ім, пачуўшы пра гэта махлярства, выпраўляюцца і іншыя птушкі. Зімаваць на бацькаўшчыне застаюцца верабей, заяц ды сава…

Ролю вераб’я падкрэслена выразна і нават крыху гратэскна іграе народны артыст Беларусі С. Журавель, зайца цудоўна выконвае народны артыст Беларусі А. Памазан, надзвычай каларытная сава атрымалася ў выкананні заслужанай артысткі Беларусі Р. Маленчанкі.

У 1995 годзе быў пастаўлены радыёспектакль “Калядная рапсодыя” паводле аднайменнага апавядання (аўтар інсцэніроўкі для радыё і выканаўца ролі Міколы Ласевіча — артыст В. Шушкевіч, рэжысёр В. Кернажыцкая, музыка А. Залётнева, гукарэжысёр Л. Латушкіна, рэдактар Г. Шаблінская). Атрымалася вельмі сучасная аўдыёработа, цалкам пазбаўленая статыкі. Гэтаму спрыяе, дарэчы, і ўдзячны мастацкі матэрыял. Дзеянне адбываецца ў цягніку. Галоўны герой каляднай ноччу вяртаецца на Палессе, згадваючы сваё ранейшае жыццё, у якім шмат драматычных старонак. Абраная прафесія не прынесла яму асалоды, бо аказалася не па душы. Да болю крыўдна і недарэчна давялося развітацца Міколу і з першым каханнем. І вось цяпер ён па сутнасці выправіўся насустрач новаму лёсу.

Рэжысёр удала будуе два планы: дарогі — цягніка і лірычна-апавядальных прыпамінаў Ласевіча. Рух і зменлівы настрой героя абуджаюць яго змерзлую душу. Праз музыку, грук колаў, паўтор горкіх дыялогаў-маналогаў, вяртанне ў шчаслівы час першага пачуцця, яркамаляўнічыя карціны каляд складаецца рапсодыя кахання ў гукавой стылістыцы: празрыстая, журботная, трывожная…

Бясспрэчна, поспех пастановачных работ па спадчыне Караткевіча — у якасці яго літаратуры. Менавіта яна вызначае ўзровень радыётэатра як унікальнага элітарнага мастацтва, выразнымі сродкамі якога ёсць тры простыя складнікі: слова, музыка, шумы. Дарэчы, гэта падкрэсліваюць і рэжысёры, і артысты, і кампазітары. А. Залётнеў — аўтар музыкі да многіх радыёспектакляў, адзначае: “Слова Караткевіча заварожвае, прыцягвае да сябе, абуджае думку. У яго так зроблена, што прайсці нельга, абавязкова спынішся і зазірнеш. А там — бяздонне. І музычныя тэмы ў Караткевіча можна адшукваць бясконца. Працаваць над яго творамі надзвычай цікава, гэта ні з чым не параўнальная асалода”.

Мастацкая аўдыёспадчына Уладзіміра Караткевіча дазваляе слухачу адчуць цэласнасць асобнага твора, яго аўтарскую задуму і разам з тым дапамагае ствараць свой гукасвет паводле творчасці пісьменніка. Дзякуючы ўласнай фантазіі і вобразным асацыяцыям, якія спараджае жанр радыёспектакля, зноў вярнуцца ва ўладу стыхіі слова Караткевіча, што больш як паўстагоддзя гучыць на хвалях Беларускага радыё.

# ЛіМ: 1949 год

**Вольга ПАСІЯК**

Калі Мікола Гусоўскі ў сваёй “Песні пра зубра” распавядаў замежным магнатам пра наш край, часы праўлення Вітаўта ён па праве назваў “залатым векам”. Але паэт нават не мог уявіць, што праз некалькі стагоддзяў гэты тэрмін усплыве ў савецкай прэсе ў іншым амплуа падчас 30-й гадавіны БССР.

“Залаты век”. Менавіта так Якуб Колас назваў свой артыкул — перадавіцу першага нумара за 1949 год. І, падобна хвальбе Вітаўту, словы мёдам разліваліся ў адрас іншых персаналій: “*Ленінска-сталінскі геній вывеў беларускі народ на шырокія, вольныя прасторы жыцця. Ён даў яму арліныя крыллі. І народ, падобна раскаванаму Праметэю, выявіў свае невычэрпныя творчыя сілы і зрабіў гіганцкі крок наперад па шляху эканамічнага прагрэсу і культурнага рос-квіту*” (ЛіМ, 1949, 1 студзеня).

Памятная для савецкай гісторыі гадавіна аказалася побач з яшчэ адной датай — 25 год таму не стала Леніна. Тое, што ў першай палове ХХ стагоддзя гэта персона была ўсім для ўсіх — сумненняў не выклікае. Ёй пакланяліся, яе ўзвышалі і самае цікавае — цытавалі на кожным кроку. Таму наўрад ці будзе памылкай, калі аднесці Уладзіміра Ільіча і да літаратараў. На якой падставе? “*Усяго за перыяд з 1917 па 1949 г. у Беларусі выдадзена 2.110 тысяч экземпляраў твораў В. І. Леніна. З іх на беларускай мове — 202 назвы, тыражом 1.967 тысяч экземпляраў*” (ЛіМ, 1949, 21 студзеня). Наўрад ці хто іншы мог пахваліцца такімі тыражамі. І 25-я гадавіна стала чарговым стымулам, каб напомніць народу бясспрэчны пастулат таго часу: ленінізм — вышэйшае дасягненне рускай і сусветнай культуры. А жалезным пацвярджэннем такой значнасці стаў зварот да пісьменніцкіх намаганняў іншага правадыра — Сталіна, які пісаў: “*Хіба ленінізм не ёсць абагульненне вопыта рэвалюцыйнага руху ўсіх краін? Хіба асновы тэорыі і практыкі ленінізма не прыгодны, не абавязковы для пралетарскіх партый усіх краін? Хіба Ленін быў не правы, гаворачы аб “міжнародным значэнні савецкай улады і асноў бальшэвіцкай тэорыі і тактыкі”?*” (ЛіМ, 1949, 21 студзеня).

На кожнай старонцы навіны. “*24 студзеня ў Маскву прыбылі ўдзельнікі дэкады беларускай літаратуры: народны паэт БССР Якуб Колас, К. Крапіва, П. Броўка, А. Куляшоў, М. Танк, П. Глебка… На дэкаду прыехалі і работнікі мастацтва Беларусі: народная артыстка СССР і БССР Л. Александроўская, народныя артысты БССР М. Дзянісаў, І. Балоцін, Р. Млодэк…*” (ЛіМ, 1949, 27 студзеня). У сталіцы нашых творцаў сустрэлі, як кажуць, з хлебам-соллю. Новыя знаёмствы, новая чытацкая аўдыторыя, вялікія тыражы. Як вынік — небывалы стымул для творчасці. А тым часам нелюбоў да замежнай культуры і яе традыцый толькі абвастраецца. Паказальны прыклад — верш Льва Авербаха “Доллар”:

*“У входа в Нью-Йорк — статуя свободы*
*Стоит, как ненужный языческий идол,*
*А доллар в панаме — свободу продал,*
*На пытки жёлтому дьяволу выдал”*
(ЛіМ, 1949, 23 красавіка).

Праўда, у гэты час барацьба з трацкістамі і “ворагамі народа” ўжо набіла аскому, і ўвага тагачасных ідэолагаў пераключаецца на новых “шкодных асоб”, у адрас якіх са старонак газет льюцца абвінавачванні і пагрозы. “*Бязродныя касмапаліты, фармалісты і эстэты спрабавалі пранікнуць ва ўсе галіны савецкай культуры, спрабавалі стаць на шляху яе развіцця і ўсякім чынам шкодзіць, затрымліваць рух наперад. Гэтае пустазелле імкнулася заглушыць парасткі ўсяго новага, перадавога, што ўзнікла ў нас у штодзённым жыцці. Гаспадарскай рукой савецкага чалавека ўраджайная ніва ачышчаецца ад пустазелля. Месца яму — на сметніку гісторыі*” (ЛіМ, 1949, 2 красавіка). Па ўжо традыцыйнай схеме — “ворага трэба ведаць з твару” — агучваюцца персаналіі, супраць якіх накіравана барацьба. “*Сумную вядомасць набылі сёння імёны касмапалітаў-антыпатрыётаў: у тэатральнай крытыцы — М. Модэля, у літаратурнай — Л. Бэндэ, А. Кучара, М. Смолкіна, у рэжысуры — Л. Літвінава. Гэты агідны букет “бяспачпартных валацуг” у галіне фальклярыстыкі дапаўняе Л. Бараг*” (ЛіМ, 1949, 2 красавіка). Але карціна нянавісці будзе няпоўнай, калі не даць слова чытачам — не наладзіць з імі адваротную сувязь і не пацвердзіць агіду да “ворагаў” сацыялізму. Вось на старонках “ЛіМа” і з’яўляюцца пісьмы гнеўнага характару. Сярод іх — меркаванне І. Зазекі, дэкана факультэта мовы і літаратуры Мінскага педагагічнага інстытута імя А. М. Горкага: “*Выкладчык фальклора Меяровіч на працягу трох год работы ў інстытуце шкодзіла ў галіне фальклора, аплёўвала здабыткі нашага народа. Чытаючы курс рускага і беларускага фальклора, Меяровіч галоўную ўвагу аддавала рамантыка-філалагічнай школе, сцвярджаючы, што Макс Мюлер, браты Грым упершыню далі рускім вучоным навуковы напрамак у фалькларыстыцы*” (ЛіМ, 1949, 2 красавіка). Яшчэ больш дастаецца выкладчыку пад прозвішчам Сулер: “*Гэты дыверсант у навуцы прыклаў нямала намаганняў, каб “давесці”, што “Новая зямля” Якуба Коласа — не арыгінальны твор. Займаючыся “аналізам” выяўленчых сродкаў паэмы, Сулер прыйшоў да вываду, што Якуб Колас запазычыў для паэмы мову ў іншых пісьменнікаў. Аўтару “Новай зямлі”, згодна бязглуздых сцверджанняў гэтага гора-вучонага, належыць толькі некалькі слоў, як напрыклад: “клець”, “гумно”, “хата”, “журавіны”*” (ЛіМ, 1949, 2 красавіка). Бясспрэчна, у геніяльнасці аўтара “Новай зямлі” сёння ўжо ніхто не сумняваецца, але апошняе сцвярджэнне выклікае пытанні да абодвух бакоў, бо катэгарычнасці ў іх занадта. Згодна з такім пасылам трактуюцца і словы самога Коласа: “*Я добра памятаю: у дзіцячыя гады ў маёй пастушковай торбачцы ляжаў невялікі, даволі моцна заношаны томік пушкінскай паэзіі…*” (ЛіМ, 1949, 4 чэрвеня).

Старонка за старонкай. Большасць нумароў за 1949 год захавалася ў выглядзе абрыўкаў. А многія з артыкулаў, надрукаваных на гэтых кавалках паперы, непамерна складаныя для ўспрымання сучасным чалавекам, бо значна разыходзяцца з нашым светапоглядам. Але адна падзея, бясспрэчна, блізкая для сённяшняга беларуса — “*23 чэрвеня ў цэнтральным скверы горада Мінска адбылося ўрачыстае адкрыццё помніка выдатнаму дзеячу савецкай літаратуры, народнаму паэту БССР Янку Купале*” (ЛіМ, 1949, 2 ліпеня). Блізкая асабліва сёння, калі мы святкуем 130-годдзе з дня нараджэння Якуба Коласа і Янкі Купалы.



ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ЦВІЦІ, КАЛАСУЙСЯ, МОЙ КРАЙ, ЦІ СОНЕЙКА ЗАХАД ЦІ УСХОД!

ПАСЛЯ ВЫЗВАЛЕННЯ

Песні ўз'яднанага наро[да]

Светлая дата

Быхаў-2013

# Руіны глядзяць з дакорам

**На Быхаўшчыне ёсць што паказаць гасцям і пра што ім расказаць — гісторыя раёна вельмі багатая. Тут і замак Сапегі, і сядзіба Талстых у вёсцы Грудзінаўка...**

**Уладзімір БАЦКАЛЕВІЧ**

Годны ўспамінаў Баркулабаўскі манастыр, вядомы аднайменным летапісам і цудатворнай іконай. Быхаўская сінагога з’яўляецца помнікам архітэктуры XVII стагоддзя і ўяўляе сабой узор самабытнага мастацтва яўрэйскага народа на беларускіх землях.

На жаль, многія з помнікаў даўніны сёння нагадваюць руіны, якія з дакорам і надзеяй глядзяць у вочы быхаўчан і турыстаў.

Замак… Паводле спецыялістаў, гэта адзіны ў рэспубліцы помнік культуры, дзе захавалася гарадская крэпасць узору XVII стагоддзя. Вядома, што ён быў пабудаваны гетманам Вялікага Княства Літоўскага Янам Каралем Хадкевічам. У 1628 годзе гаспадарамі Быхава сталі Сапегі, якія перабудавалі замак. Ён займаў участак берага Дняпра ў выглядзе няправільнага прамакутніка памерам 77х100 м. З трох бакоў яго абараняў роў глыбінёй да 27 метраў і валы з бастыёнамі. Заходні бок быў умацаваны васьміграннымі двух’яруснымі вежамі. У сценах пастаянна знаходзіўся воінскі гарнізон, які падпарадкоўваўся мясцовым уладальнікам. Зброя і металічныя даспехі, зробленыя замкавымі збройнікамі, карысталіся вялікім попытам у Беларусі і за яе межамі.

З цягам часу замак страціў сваё стратэгічнае значэнне як крэпасць на Дняпры. Пасля 1831 года ён паступіў у “казну”, шмат гадоў знаходзіўся ў “запусценні”. У 70-х гадах мінулага стагоддзя яго адрамантавалі і ў далейшым выкарыстоўвалі як турму, а затым пад казармы. Крыху пазней у ім размяшчаўся дрэваапрацоўчы цэх, які згарэў. З той пары, цягам амаль васьмі гадоў, на ўнікальную пабудову ніхто не звяртаў увагі. На сённяшні дзень захаваліся толькі яе фрагменты.

Нядаўна Быхаў абляцела прыемная навіна: да Дня беларускага пісьменства замак вырашана ўзнавіць. З рэспубліканскага бюджэту на гэтыя мэты будзе выдзелена 1,5 мільярда рублёў. Ці хопіць гэтай сумы на ўсе работы — цяпер цяжка сказаць. Адно вядома: будынак будуць рамантаваць, рэканструяваць і рэстаўрыраваць паэтапна. Аднаўленыя памяшканні зоймуць сацыяльныя службы, якія сёння працуюць у неспрыяльных умовах.

Пакуль невядомым застаецца далейшы лёс будынка сінагогі. А вось гісторыю яе ўзнікнення ведаюць многія. Дазвол на будаўніцтва даў сам канцлер Антон Сапега. Што падштурхнула яго на такое рашэнне? Па-першае, вялікая запазычанасць мясцоваму яўрэйскаму купецтву. Па-другое, сінагога павінна была дапаўняць існуючыя абарончыя збудаванні горада, у тым ліку і Магілёўскай брамы. Абарончы характар ёй надавалі тоўстыя сцены, размешчаныя высока над зямлёй вокны, кутковая вежа. Будынак быў пакрыты плоскім дахам, што дазваляла павялічыць аб’ём малітоўнай залы. Акрамя таго, падчас баёў дах служыў пляцоўкай для ваяроў, якія хаваліся за высокім атыкам. Нізкі другі ярус прарэзвалі прамавугольныя і круглыя байніцы. Галоўны заходні фасад, з левага боку, быў умацаваны круглай абарончай вежай з лесвіцай, якая злучала падвал і дах.

У інтэр’еры збудавання перапляталіся традыцыйныя стара- і новазапаветныя прынцыпы арганізацыі яўрэйскіх рэлігійных будынкаў Рэчы Паспалітай і Вялікага Княства Літоўскага. Багаты дэкор бімы, арон-кадэша, культавы рыштунак засноўваліся на арнаментах Бліжняга Усходу.

У першыя пасляваенныя гады будынак сінагогі выкарыстоўваў вайсковы гарнізон, затым яго перадалі пад склад гарадской гандлёвай арганізацыі.

Цяпер у сінагозе гуляе вецер, будынак развальваецца на вачах. Магчыма, каб ён не мазоліў вочы гасцям Свята беларускага пісьменства, яго “законсервуюць”.

Больш шчаслівым аказаўся лёс Грудзінаўскага палаца і парку. У пачатку 1800-х гадоў Кацярына II міласціва падаравала вёску з прыгоннымі сялянамі і амаль 19000 дзесяцін зямлі і лесу графу Дзімітрыю Аляксандравічу Талстому, магілёўскаму губернатару. У яго маёнтку працавалі цудоўны конны завод, мануфактурная фабрыка, завод па вырабе шкла, бровар.



*Будынак сінагогі.*

Грудзінаўскі палацавы комплекс і сёння ўражвае сваёй незвычайнай прыгажосцю. Плошча парку займае амаль шэсць гектараў, дзе растуць рэдкія дрэвы і хмызнякі, некаторым з іх больш як 90 гадоў.

У пачатку ХХ стагоддзя тут, на ўзгорку, пабудавалі каменны палац, які ўяўляе сабой двухпавярховы будынак з паўкруглай верандаю, якую падтрымліваюць шэсць калон, выкананыя ў тасканскім ордэры. Увянчаны будынак плоскім купалам, а франтальная частка — атыкам, які ўзвышаецца над раскрэпаваным карнізам. У дэкаратыўным афармленні фасаду выкарыстаны элементы архітэктуры класіцызму — пілястры, рознай канфігурацыі сандрыкі, фігурныя кранштэйны, нішы і г. д.

Дзякуючы гарманічнаму спалучэнню архітэктуры і зялёных насаджэнняў сядзіба ў Грудзінаўцы з’яўляецца адным з найбольш каштоўных помнікаў садова-паркавага мастацтва ў Беларусі.

На быхаўскай зямлі нямала іншых цудоўных мясцін, з якімі мы пастараемся пазнаёміць шаноўных чытачоў “ЛіМа”.

**Газета “Літаратура і мастацтва” — інфармацыйны партнёр Свята беларускага пісьменства.**

# Кантрабандны смутак

Даты ў біяграфіі пісьменніка цікавяць гісторыкаў літаратуры, але, як правіла, абмінаюцца чытачом, падаюцца лішняй, неабавязковай інфармацыяй. Між тым, у жыццяпісе Анатоля Вольнага (сапраўднае прозвішча — Ажгірэй), 110 гадоў з дня нараджэння якога спаўняецца 2 снежня, яны настолькі красамоўныя, што замаўчаць іх будзе няправільна. 1902 г. — нараджэнне. 1920 г. — пачатак літаратурнай дзейнасці. 1936 г. — асуджаны як "нацдэм". 1937 г. — расстрэл. Вусцішна яшчэ і ад таго, што такі лёс не адзінкавы. У гэтых датах — партрэт эпохі.

**Марыя АЗЯРЭЦКАЯ**

Такім чынам, 16 гадоў творчай дзейнасці (дастаткова згадаць турэмныя ўспаміны Кузьмы Чорнага, каб зразумець, што зняволенне выключала не тое што якую-кольвечы творчасць, але жыццё наогул) і радок у даведніках "беларускі паэт, празаік, кінадраматург, журналіст". Для такога кароткага жыцця было б нямала выступіць і ў адной з гэтых іпастасей. Тут іх ажно чатыры, і ў гэтым бачыцца і няўрымслівая натура, і маладое імкненне жыць, паспяваць усюды, ствараць — ні больш ні менш — новае мастацтва. Гэтаму новаму, праўда, не заўсёды хапала густу, што стала нагодай называць стыль "маладнякоўцаў" (да гэтага аб'яднання Анатоль Вольны належаў да 1928 г.) бурапенным, а самі іх — бурапенцамі. Гэтае новае было празмерна палітызаваным: "Мы зарунелі на беларускіх загонах, узараных плугам Кастрычніцкай рэвалюцыі. Расцем мы ў пару пераходную да камунізму — пару дыктатуры пралетарыяту. <…> Наша заданне з асноў сённяшняга жыцця вылучыць асновы заўтрашняга і апрануць іх у вопратку мастацкай творчасці, штодзённы вопыт рабочых і сялян-будаўнікоў новага свету — ажыццявіць у мастацкіх праўдзівых вобразах. Мы — маладняк новага зместу мастацкай творчасці".

Такім быў гістарычны фон, на якім фарміраваўся беларускі авангард. І яго дасягненні, цікавыя сучаснаму чытачу, найменш звязаныя з ідэалогіяй.

Анатоль Вольны лічыцца адным з пачынальнікаў прыгодніцкага жанру ў Беларусі. У аповесці "Два", рамане "Ваўчаняты" (напісаны ў суаўтарстве з Алесем Дударом і Андрэем Александровічам) — заўсёдны рух, дзеянне развіваецца звышімкліва, раз-пораз мяняецца расстаноўка сіл: то дабро ("бальшавікі — авангард рабочага пралетарыяту") перамагае ліха ("паны"), то здаецца, ворагі ўжо занеслі меч над галовамі нашых праведных герояў. Зразумела, фінал будзе хаця б умоўна шчаслівым.

Драматычных сцэн — жывёльнага гвалту, бязвінных смярцей, справядлівай помсты — тут ажно з лішкам. Кроў ліецца ракою: "Кроплі крыві на зямлі вілі свежае апавяданне аб толькі што ўтвораных здзеках.

І такое апавяданне, якое нават у газеце альбо часопісе не раскажаш".

Гэтае апавяданне з ліха закручаным сюжэтам, расказанае не ў газеце ці часопісе, а ажно ў кнізе, зацікавіць патэнцыяльнага даследчыка больш, чым патэнцыяльнага чытача. Занадта яно наіўнае ў сваёй прамалінейнасці і адназначнасці. Чытачу не даводзіцца вагацца, каму з герояў аддаць свае сімпатыі, і ламаць галаву над псіхалогіяй і матывацыяй учынкаў. І можа, найбольш сярод усяго гэтага ўражвае, як вытанчаныя, карункавыя і неяк любоўна выпісаныя макабрычныя вобразы ("…праз хвіліну барабан нагана кашлянуў смерцю…") спраўдзіліся ў лёсе двух аўтараў: Анатоля Вольнага і Алеся Дудара.

Трэба, аднак, сказаць, што ў кінааповесці "Шасцідзясятая паралель" заўважны пэўны зрух у бок псіхалагізму. Цэнтральныя ў творы — вытворчы і сямейны канфлікты. І апошні, справакаваны інтрыгамі героя-антаганіста Краў, ужо проста вымагае большага акцэнту на пачуццях герояў.

Ува ўсіх гэтых творах нічога не прачытваецца паміж радкоў, ніякага намёку на тое, што аўтар няшчыры ў сваіх перакананнях. Так, Анатоль Вольны быў згодны з лініяй партыі. І той жа партыяй быў расстраляны. Гэтая апошняя акалічнасць яго лёсу наўрад ці дае нам, сучаснікам, права на паблажлівае хмыканне.

Проза Анатоля Вольнага аздоблена адухоўленымі пейзажнымі замалёўкамі, месцамі адчуваецца рука фельетаніста, і ўсё ж у большай ступені гэта ўвасабленне той схемы, паводле якой прынята было пісаць, а не аўтарскага "я". У гэтым плане паэзія выглядае куды цікавейшай.

Першы зборнік "Камсамольская нота" (супольны з Андрэем Александровічам) прыхільна вітала тагачасная крытыка. У кнізе бачылася "лучнасць горада і вёскі": "Не выпадкова, што першая ластаўка маладняцкай творчасці завецца "Камсамольскай нотай". Не выпадкова і тое, што гэту ноту "падпісалі" два паэты: адзін пявец жытнёвых палёў — А. Вольны, а другі — сын горада, малады рабочы — А. Александровіч" (Адам Бабарэка). Наступныя, ужо самастойныя зборнікі "Чарнакудрая радасць" і "Табе" нават сваімі назвамі сведчаць пра больш асабісты характар.

У паэзіі Анатоля Вольнага няцяжка знайсці рысы футурызму, у прыватнасці, кубафутурызму. "Асноўным прынцыпам кубафутурыстаў быў эпатаж публікі, імкненне зрабіць "бум", дзеля чаго яны выкарыстоўвалі графічныя эфекты, лічбавыя сімвалы, разбурэнне сілабатанічнага адзінства радка (У. Маякоўскі), паранімію, гукавую семантыку слова, гульню слоў і інш." — так характарызуе гэты напрамак літаратуразнаўца Ірына Багдановіч. Руская паэзія ўплывала на Анатоля Вольнага не толькі сваімі штукарствамі з формай (тут яму сапраўды быў блізкі У. Маякоўскі), але і ў плане вобразатворчасці. Так, радкі:

*Успаміны ў сэрцы лучыняць.*
*Ўсе гавораць — зрабіўся я гіцаль,*
*Ўсе гавораць — я сэрца раскінуў*
*Пазаплатанай рукавіцай…*

— адсылаюць да культываванага Сяргеем Ясеніным вобраза вясёлага разбітнога гулякі з хворым, зраненым сэрцам.

Такія ўплывы, аднак, зусім не нагода папракаць паэта ў другаснасці і адсутнасці арыгінальнасці. Натуральна, ён не мог ігнараваць існы культурны фон (дзеля справядлівасці трэба адзначыць, шырэйшы за рускую культуру: так, у "Шасцідзясятай паралелі" знаходзіцца месца і Стэндалю, і Гі дэ Мапасану), але ствараў і ўласныя паэтычныя сусветы. Ён, напрыклад, умеў яднаць, сплаўляць сімвалы рэвалюцыйныя (халодныя, цвёрдыя) і нацыянальныя (цёплыя, прыродныя): граніт і васілёк, штандар і туман. Канцэнтрацыя нацыянальнага ў зборніку "Чарнакудрая радасць" наогул вельмі высокая. Так, Кастусь Каліноўскі і Міколка з аднайменных твораў — родныя браты Алеся ("Ваўчаняты") і Мухі ("Два"). Гэта ўлюбёны тып героя — герой-змагар за волю Бацькаўшчыны. Такая высокая місія патрабуе беззаганных маральных якасцей. Прынамсі, так хочацца бачыць Анатолю Вольнаму, таму ён і выводзіць сваіх герояў ідэалізаванымі.

Практычна ўсе творы кнігі прысвечаны радзіме, не агульнай савецкай, а менавіта Беларусі. Гэта Беларусь дзвюх душ:

*Я ведаю Беларусь, што*
*паўстанцкаю куляю*
*Свішча:*
*"Вольнаю*
*Хачу*
*Быць!"*
*І другую Беларусь — бабулю, —*
*Беларусь — край лучын і журбы…*

І абедзве яны выклікаюць пяшчоту. Учарашняе і сённяшняе, мінулае і будучае, як таго і патрабавала маладнякоўская паэтыка, супастаўляюцца, але толькі ў сацыяльным аспекце: Беларусь пад прыгнётам — Беларусь вольная. Сам жа вобраз радзімы, яе дзве душы падзяліць немагчыма. Мінуўшчыну ўвасабляюць і тужлівыя народныя песні, што настальгічна згадваюцца на чужыне, і старыя, што чакаюць дома. Немагчыма адмовіць роднае. Радкі: "Ой, кавыль, ты мінулым — / Званчэй / Вей!" — гэта ўжо зусім не тое, што ідэалагічна выверaныя: "Будзем песняй мінуўшчыну біць", і чытаюцца яны не як загад развеяць памяць пра мінулае, каб і следу не засталося, а наадварот, як просьба шырэй распыліць-распаўсюдзіць яе ў чужым далёкім краі.

У маладнякоўскай паэтыцы з яе пафасам вечнага абнаўлення і радасці такія настальгічныя настроі, як і ў прынцыпе смутак, туга, журботнасць, былі не ў пашане, лічыліся нездаровымі перажыткамі.

Анатоль Вольны ўспрымае гэтую ўстаноўку даволі іранічна:

*— Камсамольцу пазбыцца жуды!*
*Ах, ты ж, Нінка,*
*Лясністая Нінка —*
*"Апанент" камсамольскай журбы.*

Ён непрыхавана палемізуе з гэтай дэклараванай весялосцю, аднаўляе натуральнае права быць паўнавартасным і неабмежаваным у сваіх пачуццях, быць чалавекам, які адчувае, а не машынай, якую немагчыма засмуціць. На старонкі сваіх зборнікаў паэт прыносіць не толькі недазволены смутак, разгубленасць, але і пякельны боль:

*З халодным сэрцам жыць*
*прыгожа,*
*А як з пякельным болем жыць?..*
*…*
*Я хачу ў болі быць з бязмежнымі…*
*Мне прыгажэй з пятлёй на сэрцы,*
*Чым шлях шукаць сабе*
*заезджаны.*

"Люблю журбу…" — заяўляў Анатоль Вольны, бароначы гэтае пачуццё ад камсамольцаў-апанентаў. І гэтыя словы сталі не толькі рашучым пратэстам, але і яшчэ адным горкім прароцтвам: болем і журбою жыццё яго не абдзяліла.

# Імкненне да дабрыні і духоўнасці

З задавальненнем чытаю і перачытваю творы Міхася Пазнякова. Таму што ў іх ёсць чалавек — аб'ект, заўсёды цікавы для чытача. Вось і гэтым разам, прачытаўшы новую кнігу выдатнага паэта-лірыка "Доверием небо измерю", атрымаў вялікую асалоду, прычым многія вершы перачытаў па некалькі разоў і запомніў...



Кніга выйшла сёлета ў выдавецтве "Чатыры чвэрці" ў серыі "Бібліятэка Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі". У яе ўвайшлі вершы Міхася Пазнякова, напісаныя на рускай мове, і пераклады яго твораў. Дзевяць паэтаў-перакладчыкаў рознага ўзросту, з рознымі творчымі інтарэсамі, сышліся ў галоўным: лірыка Міхася Пазнякова — яркая з'ява на паэтычным небасхіле роднай літаратуры, вартая таго, каб перакладаць яе з беларускай мовы на іншыя, рабіць здабыткам чытачоў многіх краін свету. І вось майстры слова Б. Спрынчан, А. Цяўлоўскі, А. Аўруцін, В. Грышкавец, Г. Кісялёў, Л. Палеес, І. Катляроў, Г. Артханаў, П. Панасюк сродкамі рускай мовы таленавіта выканалі найважнейшую задачу — перадалі дух і прыгажосць твораў паэта так дакладна і натуральна, што пераклады атрымалі другое мастацкае жыццё на новым моўным матэрыяле. А добры ж пераклад, як вядома, справа вельмі сур'ёзная, бо трэба даследаваць паэтыку аўтара, адчуць яго светапогляд, усвядоміць глыбіню задумкі, а потым — пераўвасобіць, узнавіць твор на іншай мове.

У новы паэтычны зборнік Міхася Пазнякова ўвайшлі вершы розных гадоў. Кніга складаецца з чатырох вялікіх тэматычных раздзелаў, так бы мовіць, з чатырох кніг: "Я в небо смотрю виновато", "Есть Бог и Отчизна", "Живу надеждой и тревогой", "За радугой нашей весны". Міхась Пазнякоў — паэт сучасны, які адлюстроўвае сваю эпоху, думае пра яе. Многія вершы прысвечаныя Беларусі, малой радзіме аўтара Быхаўшчыне. Лірычнаму герою ўласцівы трапяткія адносіны да жанчыны, маці, Радзімы.

*На свете этом ненадёжном*
*Нигде — ни далеко, ни близко —*
*И в радости, и в горе тоже*
*Жить не хочу я без Отчизны, —*

заяўляе паэт.

Сапраўдны патрыёт, аўтар сваім паэтычным словам выхоўвае ў чытача любоў да роднага краю, умее злучыць знешнія прыкметы часу з унутранымі перажываннямі чалавека ("На государственной границе", "Ветераны Великой Отечественной", "Твои сыновья, Беларусь", "На Родине" і іншыя).

Многія яго вершы носяць філасофскі характар, паказваюць схільнасць да паглыбленага роздуму над жыццём і чалавечымі лёсамі.

Творчасці паэта ўласцівы гуманізм, тонкі псіхалагічны аналіз, глыбіня пранікнення ў супярэчнасці рэчаіснасці, філасофскія і этычныя высновы.

Міхась Пазнякоў бачыць цудоўнае ў прыродзе, творчасці, у імкненні чалавека пераадолець дысгармонію. Яму ўласціва непасрэднасць ва ўспрыманні прыгажосці роднай прыроды.

У кнізе ёсць і сапраўдныя ўзоры інтымнай лірыкі ("Бинтую сердце нежностью твоей", "Вспоминай меня зимою…", "Не хочу, не смогу, не сумею", "Полонез Огинского" і іншыя). У гэтых творах — рэалістычная дакладнасць у аналізе перажыванняў лірычнага героя, адлюстраванне псіхалагічных працэсаў, якія працякаюць у душы чалавека, самых тонкіх адценняў пачуцця. Адначасова Міхась Пазнякоў узбагачае паэзію ў лексічных, інтанацыйных, музычных адносінах.

Светаадчуванне паэта — радаснае, жыццесцвярджальнае. У творах — вялікая цяга і памкненне да светлага, да чалавечай дабрыні, да высокай маральнасці — якасцей, якія, кажучы словамі Анатоля Сабалеўскага, найдэфіцытнейшыя з усіх цяперашніх дэфіцытаў.

Новая кніга паэзіі Міхася Пазнякова — кніга сэрца, кніга пачуццяў — шчырых, непасрэдных, сапраўдных, якія захапляюць чытача, узбагачаюць духоўна.

**Міхась СЛІВА**

# «На адным аптымізме ўсю дарогу і еду…»



Соф'я МАРОЗАВА

Часам, каб давесці нешта чалавеку, жыццё ідзе на радыкальныя меры. Напрыклад, пакідае яго сам-насам з хваробай, бальнічнымі сценамі і процьмай вольнага часу — чым не нагода для пераасэнсавання каштоўнасцей?

Таму і ў літаратуры бальнічная тэма часта робіцца толькі мастком ва ўспаміны, думкі, разважанні пра лёс… Прыём выпрабаваны і надзейны. Вось і ў апавяданні Людмілы Кебіч "Манька" ("Полымя" № 10) чытач з першых жа радкоў трапляе ў палату "ў самым канцы бальнічнага калідора, адразу за працэдурным кабінетам" (моташныя падрабязнасці ствараюць атмасферу) і ўжо адтуль будзе назіраць за лёсамі гераінь — Марысі і Антаніны. Такім чынам, бальніца стане фонам для падзей, што разгортваюцца ва ўспамінах жанчын, дакладней, у іх размовах. Анкалогія звяла ўжо ў сталым узросце дзвюх школьных сябровак. Прычым анкалогія лёгкая: у адной гузак на пальцы, у другой радзімка на плячы — "адшчыкнуць і забінтаваць". Карацей, шмат турбот не прыносіць, а нагода для сустрэчы знойдзена ("І давялося вось дзе сустрэцца, у гэтым жудасным месцы! — хітала галавой разгубленая і <…> узрушаная жанчына"). "Ніякіх працэдур і лекаў ім не прызначалі", а лекар увесь час адкладваў аперацыі: "Чакайце, жанчынкі, чакайце, хутка і да вас чарга дойдзе. Перагрузка, разумееце, цяжкіх шмат, як ніколі…" Чым не ідэальная атмасфера для размоў? Вось і паплылі гутаркі, пацягнуліся кінастужкамі ўспаміны…

"— <…> Памятаеш, як мы жылі? — яна [Марыся] ўважліва зірнула ў Антанініны вочы.

— Памятаю, Марысечка, усё памятаю, — ціха прамовіла сяброўка".

У гэтым апавяданні жывуць збольшага мінулым. Сучаснасць выступае ў адносінах да яго кантэкстам, але не толькі. Яна і своеасаблівы індыкатар: вынікі пасляаперацыйных аналізаў на ракавыя клеткі — гэта і наступства абраных гераінямі жыццёвых пазіцый, і прагноз на будучыню.

Так, жыццёвыя пазіцыі тут важнейшыя за лёсы: гэта тое, што стаіць за імі. З дзяцінства працавітая і аптымістычная Марыся загартаваная і голадам, і жыццёвымі нягодамі. Да хваробы яна ставіцца аптымістычна, практыкуе аўтатрэнінг ("Пальчык мой здаровы, усё ў мяне добра, я думаю толькі пра дасканаласць, імкнуся да дасканаласці, таму што я — сама дасканаласць!"), падбадзёрвае сясцёр па няшчасці. Тоні ж пашанцавала і з сытым дзяцінствам, і з увагай бацькоў, ды і далей усё складвалася "правільна", уключна да "уладкаваных" дзяцей і здаровых унукаў… Але прывычка "быць самай лепшай" не дае смеласці прызнацца свету і самой сабе, што шчасця няма. І так бывае.

Вобраз Манькі ў апавяданні на першым плане, а Антаніна яе толькі адцяняе. Аўтарцы відавочна імпануюць характар і жыццёвая філасофія гераіні, асабліва яе талент сустракаць жыццёвыя падзеі лёгка, з гумарам, спадзявацца на лепшае ("А мяне жыццё вымушае смяяцца, таму што слёзы свае я раней выплакала. <…> Я, <…> каб не гумар, даўно б у магіле была. На адным аптымізме ўсю дарогу і еду"). Манька — з таго часу, калі станоўчы герой быў нормай, мабыць, таму яна і не разумее складана-супярэчлівага аблічча сучаснасці: "А яны што раскажуць сваім дзецям? што ўспомняць?.. Як за камп'ютарамі суткамі сядзелі і ўсялякую бязглуздзіцу там чыталі? Ці на школьных вечарах ў джынсах і майках хадзілі ды «стаячыя» танцы танцавалі, або скакалі, як вар'яты, вакол скінутых у кучу заплечнікаў?" Ёй і не трэба разумець чужое, бо хапае свайго: гісторый пра галоднае, але шчаслівае дзяцінства; пра гора, нястачу і дапамогу добразычлівых суседзяў; пра шчырую службу людзям, што пачалася яшчэ ў дзяцінстве…

Апавяданне Людмілы Кебіч "Манька" — пра жанчын і найперш для жанчын, бо скіраванае на суперажыванне. Жыццёвыя гісторыі пададзеныя ў бытапісальніцкім ключы, без філасофскіх абагульненняў, паглыблення ў псіхалогію, без значных стылявых ці сюжэтных знаходак, фантастыкі-містыкі і інтэртэкстуальных вышукаў… Карацей, не для аматараў інтэлектуальнай і псіхалагічнай прозы. Аднак апавяданню нельга адмовіць у рэалістычнасці, добрым роўным стылі, спагадзе да героя. Гэта ўзор літаратуры традыцыйнага кшталту, пра выжыванне якой у век інфармацыі так шмат гаворыцца.

# Ад Сомавай — да Маркеса



Дзяніс МАРЦІНОВІЧ

Сталы чытач літаратурных часопісаў ведае, што структура апошніх складаецца з дзвюх частак. Да першай адносяцца творы прозы, паэзіі і драматургіі, да другой — крытыка, літаратуразнаўства, публіцыстыка, мемуарыстыка і г.д. Між тым сярод публікацый другой групы, што адносяцца да матэрыялаў "вакол літаратуры", часта сустракаюцца надзвычай годныя творы, што часам на роўных канкурыруюць з уласна літаратурнымі. Менавіта гэтая акалічнасць абумовіла спробу прааналізаваць публікацыі другой часткі, прадстаўленыя ў кастрычніцкім нумары часопіса "Нёман".

Іх аўтары — Вячаслаў Рагойша і Алена Мальчэўская — належаць да навуковага асяроддзя. Першы — літаратуразнаўца, доктар навук, прафесар філалагічнага факультэта БДУ. Другая — даследчыца тэатра, аспірантка Інстытута журналістыкі БДУ. Галоўная вартасць іх "нёманскіх" публікацый — у здольнасці выказаць сваю ацэнку разглядаемаму аб'екту (як асобе пісьменніка, так і твору мастацтва), вызначыць яго месца ў адпаведным кантэксце, а таксама патлумачыць ролю асобы або значэнне твора зразумелай шырокаму колу чытачоў мовай. Фактычна, тактоўна ўзняць іх да вышыні свайго разумення літаратуры і мастацтва.

В. Рагойша прапанаваў для часопіса пачатак артыкула "Я не кахаю Вас. Я Вас люблю". У цэнтры ўвагі — лёс Святланы Сомавай, паэтэсы і перакладчыцы, з якой Якуб Колас пазнаёміўся ў Сярэдняй Азіі (дзе знаходзіўся ў эвакуацыі падчас Вялікай Айчыннай вайны) і падтрымліваў кантакты да самай смерці. В. Рагойша прааналізаваў зборы твораў Песняра, вывучыў яго паэтычную і эпісталярную спадчыну, дзякуючы чаму здолеў паказаць значную ступень уплыву С. Сомавай на позні этап творчасці Коласа. Асабліва цікавымі падаліся прыклады стаўлення сям'і пісьменніка і навуковага асяроддзя да ўзаемаадносін герояў публікацыі (прычым гэта прывяло да іх частковага замоўчвання ў 12-томным зборы твораў і, адпаведна, да купюр у тэксце).

Але галоўнай "разынкай" даследавання сталі падрабязнасці асабістай сустрэчы даследчыка з Сомавай у Маскве ў другой палове 1980-х гадоў. Істотна, што даследчык вылучыў і лагічна абгрунтаваў сваю версію стасункаў паміж ёю і Коласам. Вобразна яе можна перадаць праз паэтычныя радкі Ніны Мацяш: *"На Ваша "ты" сказаць Вам "ты" не смею, // І калі позірк позіркам злаўлю, // Як птушанё, спалохана нямею. // Я не кахаю Вас. Я Вас люблю"*.

Апошнім часам вокладкі "Нёмана" аздабляюць карціны сучасных айчынных мастакоў, яны ж прадстаўляюцца ў рубрыцы "Живописная Беларусь". Гэтым разам фрагмент "Прогулки" Андрэя Такінданга стаў тэмай эсэ А. Мальчэўскай "Письмо из Макондо". Даследчык тэатра, аўтар аналізе жывапіс так упэўнена, што здаецца — яна займалася тэмай шмат гадоў. Але "Письмо…" адметнае не толькі гэтым. Асабіста для мяне яно адначасова ўяўляе сабой… фрагмент высакаякаснай мастацкай прозы.

У кожнага твора ёсць уласны сакрэт поспеху. Адзін з пісьменнікаў перамагае (і ў рэшце рэшт застаецца ў літаратуры) дзякуючы багаццю мовы, другі — праз глыбокую распрацоўку характараў, козыр трэцяга — наватарства ў выбары героя, тэмы і г. д. Але, на маю думку, для таго, каб кніганазаўсёды засталася і з чытачамі, і ў мастацтве, трэба адна "дробязь" — магія слоў. *"Так уже случилось однажды, когда маленький Габриэль слушал сказки бабушки доньи Транкилины… Когда он вырос и увидел всё, что было за деревьями, он вспомнил об этих сказках, о бабушке, о городе, о прутике. Унёсся куда-то в сказочные выси. Вспомнил о колдунах, цыганах, суевериях, чудесах. И рассказал историю об одиночестве. О веке одиночества и странном городе Макондо, где окажется каждый"*.

Падчас чытання "Письма из Макондо" ў мяне склалася ўражанне ўласнай прысутнасці ў свеце, калісьці пабудаваным Маркесам і па-свойму адкрытым для нас А. Мальчэўскай. Бадай, гэта і ёсць прыкмета сапраўднай літаратуры.

# Шчасце нонканфармізму



Алена КАРП

Размовы пра прызначэнне паэзіі найчасцей становяцца бязважкімі і беспрадметнымі. "Яркі пыл сатрэ няспрытная рука", а матылёк вылыхне, сутнасць застанецца няўлоўнай.

Сцверджанне, што не ўсякі верш — паэзія, прыземленае, але куды больш надзейнае. Прасцей паверыць у аксіёму, чым у абстрактныя развагі на тэму. Дык вось, нізка Наталлі Пушкаровай "Як гарыць шкло" — паэзія. Гэта тэксты, якія дыхаюць. Тут можна паставіць кропку і апусціць няспрытныя рукі, але жанр вымагае аргументаў. Мусім высыпаць на газетную старонку жмені пылу з матыльковых крыльцаў.

Дазволіўшы сабе сціплую метафару "тэксты дыхаюць", папярэдзім: марна спрабаваць вымяраць частату дыхання, марна чакаць ад яго нормы. Пульс няроўны, рытмічная арганізацыя вершаў (тут мы не выракаемся ранейшага вердыкту — паэзія, але мусім жа неяк апеляваць да жанру) нязвыклая. Зрэшты, як і ідэйна-вобразная сістэма. Наконт рытмікі маем тлумачэнне: аўтар — бард, адпаведна тэксты часцей кладуцца на музыку, а не на паперу. Што ж датычыць ідэй, вобразаў, ладу мыслення і ўласнай філасофіі, то так, тут няма банальнасцей, паўтораў, хадоў, якія лёгка прадказаць наперад. Тут няма месца кананічнасці. І гэта доказ на карысць таго, што мы сапраўды маем справу з паэзіяй.

Кананічнасцю паэзія пагарджае, яна адкрывае свет нанова і нібы ўпершыню. Гэта не значыць, што ўсё старое адкінута, не, яно засвоена і ўвабрана ў сябе натуральна і цэласна. Праз гэтае набытае — праз літаратурныя, біблейскія, міфалагічныя алюзіі — фармулюецца ўласная карціна свету: *"У руках Фамы праязны білет / На цягнік ад турмы да сумы…"* Чэпкасць, парадаксальнасць і глыбіня мыслення ўражваюць: з гатовых, агульнавядомых фрагментаў складаецца абсалютна арыгінальная формула.

Зрэдчас парадаксальнасць згушчаецца, карані асацыятыўнасці хаваюцца занадта глыбока, і чытачу бывае няпроста знайсці жаданую празрыстасць. З другога боку, багатая метафарычнасць і, як вынік, пэўная завуаляванасць, зашыфраванасць сэнсаў настолькі арганічныя ў стылістыцы Н. Пушкаровай, што ўжо верш "Добры чалавек, не пашкадуй косткі…" выглядае ў кантэксце ўсёй нізкі занадта прамалінейным. Але калі разглядаць яго адасоблена, то відавочна, што менавіта ў такім пазбаўленым іншасказальнасці кантэксце магчыма, нібыта між іншым, прамовіць важнае, светапогляднае: "Я магу даваряць, мне не позна вучыцца…" і "Людзі больш за сабак нелюдзімыя…"

Уласныя каардынаты быцця ствараюцца не толькі на аснове назіранняў над знешнім светам, але і праз спасціжэнне ўнутранага. "Страшна прыслухацца да сябе", — запісаў М. Прышвін у "Дзённік" 1918 г. І той, хто хоць аднойчы адчуў гэтаксама, паверыць яго словам. Каб пераступаць свой страх, прыслухоўвацца, прыглядацца, а потым яшчэ і праўдзіва фіксаваць, трэба мужнасць, трэба незатуманены зрок, чуйны слых і чыстае сумленне. Н. Пушкарова свядома скіроўвае я-гераіню да самарэфлексіі, і тое, наколькі паслядоўна яна трымаецца гэтай лініі, дазваляе гаварыць не пра прыхамаць, а пра цвёрдую аўтарскую пазіцыю.

Самаўсведамленне адбываецца праз пошук свайго месца: *"Пчолы бароняць вуллі свае / А я не ведаю, дзе мой вулей…"* — і прызначэння: *"Я не Бог, каб узяць і зрабіць штосьці з нічога і нечага. / Я не салдат, каб ваяваць — толькі супраць сябе, калі ўсё адно пакалечана…"* Тут бы сказаць, што гераіня кволая і разгубленая, але не, яна сумленная перад сабой і дастаткова моцная, каб несці здаровы сэнс у нездаровыя рэчы:

*Я раўняю дзіцячым посудам*
*пасляваенныя рвы.*
*Я разбіраю зброю*
*і выстаўляю яе пад дождж.*
*Я спадзяюся, што будзе час,*
*калі нож перарэжа нож.*
*Я невядомы салдат*
*пасляваеннага шторму апошняй калоны.*
*Я не ведаю ў твар свайго ворага,*
*я памятаю твар мамы,*
*што чакае дома.*

Тое ж згладжванне супярэчнасцей (кволасць — сіла) і ў стасунках са светам: быццё спазнаецца праз боль, але гэта не замінае празе жыцця, якая выяўляецца і ў самаахвярнасці таксама.

Н. Пушкарова гаворыць ад першай асобы. Яе нячастае "мы" не ўсеахопнае, яно не казань і не запавет. Яе "мы" пакідае месца для іншага "мы", прытым пачцівае: "І кожны не такі, як мы, становіцца гуру". Яе гераіня адказвае за сябе: *"Мэа кульпа, што я са статку тых, / Хто не бароніць тое, што мае…"*, але тут прыходзіць у дзеянне той парадокс лірыкі, пра які пісала Л. Гінзбург. Суб'ектыўнае становіцца аб'ектыўным, агульным, асабісты досвед адлюстроўвае досвед пакалення. Таму працытаваныя радкі абавязкова будуць пачутыя, абавязкова адгукнуцца: "Мэа кульпа…"



Алег САЛТУК

## Скразнякі

*Адкарагодзіў лістапад,*
*Адлістападзіў.*
*Пустэчы гэткай сам не рад —*
*Дрыготка ў садзе.*

*Вісяць згалелыя сукі*
*Ледзьве жывыя.*
*Ды скразнякі, нібы ваўкі,*
*Галодна выюць.*

*А, ліхаманка вас бяры*
*З выццём звярыным.*
*Яшчэ ў дуброве пагарыць*
*Мая каліна.*

*Жанчына хутка прыбяжыць,*
*Спаўе рукамі…*
*А мне б да вечара дажыць*
*Пад скразнякамі.*

## Спас

*Пахла мятаю і мёдам.*
*Водар той з табой пілі.*
*І вясёлым карагодам*
*Ліпы дружныя цвілі.*

*Залатым бурштынам сонца*
*Асыпала шчодра нас.*
*І, здавалася, бясконцым*
*Будзе рукатворны Спас.*

*Ды віно ўзялося брагай.*
*Лета болей не заві,*
*Бо за яблычным сабратам*
*Спас пачаўся на крыві.*

*Ён — ад чырвані асінаў,*
*Марсіянскіх міражоў…*
*Восень зорку прыгасіла*
*З назвай вечнаю — Любоў.*

## Бяссонне

*Узыдзе поўня, хітра памаўчыць,*
*Пакуль не зарыпяць старыя дзверы…*
*У вырай падаліся зноў драчы*
*Ссутуленыя, як пенсіянеры.*

*Апошнім не заснуць, хоць ты памры:*
*Яны і ў забыцці кароткім бачаць*
*Сябе, малых, на матчыным двары*
*І доўга моўчкі па мінулым плачуць.*

*Па сіле, маладосці, па любві,*
*Па ўсім, што незваротна адлятае,*
*Што не вярнуць, заві ці не заві,*
*Бо вырай хуткі ўжо саміх чакае.*

## Вусціш

*Так часта дзічкі падаюць на дол,*
*Што аж дрыжаць спалохана асіны.*
*У небе месяц — малады арол*
*Цікуе за сузор'ямі арліна.*

*Прыпоўз вужом аднекуль лістапад*
*І ўлёгся на зямлі, нібыта дома.*
*Заснуў глыбока старасвецкі сад.*
*І ў горле слова стала горкім комам.*

*На поўдзень ціха лебедзі ляцяць,*
*Услед ім жураўлі свае галосяць.*
*А совы нават ноччу будуць спаць*
*У дуплах дзічак…*
*На зыходзе восень.*

## Невыказнае

*Не выказаць мне тое, што баліць,*
*Чаму баліць і як — слоў не хапае…*
*У вырай клін зажураны ляціць,*
*Лісток адзін другога даганяе.*

*І будзе ён агеньчыкам свяціць,*
*Загляне ў вокны маладзік бялёсы.*
*Збалелае раптоўна адбаліць*
*І панясецца з дымам у нябёсы.*

*Усё мяне благое абміне.*
*А добрага яшчэ, я веру, многа…*
*І дзень міне, і маладзік засне,*
*І Бог зірне з іконы вельмі строга.*



Даната ВАРАБЕЙ

***

*Ты — мой сонечны ранак,*
*Бязвоблачны дзень.*
*Навальніца мая і грымоты.*
*Мая светлая радасць, вяночак надзей,*
*І натхненне маё, і самота.*

*Маё зорнае неба*
*І месяц мой — ты.*
*Спеўны май і мяцель-завіруха.*
*І спяваюць пра гэта ўначы салаўі,*
*І вятры завываюць. Паслухай.*

*Ты — адчай мой, туга*
*Незямная мая.*
*Мой палон ты і мой паратунак.*
*Ты — мой сон і бяссонне, жывіцы бруя,*
*Самы лепшы ў жыцці падарунак.*

***

*Не завеш, не прыходзіш, маўчыш.*
*Можа, марыш, а можа, ужо спіш.*
*У свае летуценні і мроі*
*Ці паклічаш вячэрняй парою?*

*Не крыўдуй на мяне, не крыўдуй,*
*Лепш мяне замілуй, зацалуй.*
*Хай зайздросцяць нам месяц, і зоркі,*
*І лясы, і лугі, і пагоркі.*

*Не хачу я прачнуцца адной.*
*Я з табой… я з табой… я з табой…*

***

*Зараслі дзяцінства берагі,*
*Толькі ў сне салодкім адгукнуцца.*
*Я другая, ты цяпер другі.*
*Нам назад ніколі не вярнуцца.*



Фота Кастуся Дробава

*Не прабегчы полем басанож,*
*Не згуляць у хованкі ніколі.*
*Ты другі. І я другая. Што ж…*
*І на гэта ўсё не наша воля.*

*Зараслі юнацтва берагі,*
*Дзе да ранку ў нас былі сустрэчы,*
*Дзе цвілі рамонкі, васількі,*
*Дзе лагодзіў вецер нашы плечы,*

*Дзе так лёгка, вольна нам было,*
*Дзе сягалі мары да нябёсаў…*
*Як шкада, што гэта ўсё прайшло*
*І чужыя там блукаюць лёсы…*

*Не спяшай, пачуццяў непагодзь,*
*Не кружыся завірухай белай.*
*Затрымайся, рана не прыходзь,*
*Мы яшчэ не ўсё сказаць паспелі.*

***

*На сэрцы сумна ў тыя дні,*
*Калі дажджы ліюць навокал*
*І зоркі — вечнасці агні —*
*Не радуюць па звычцы вока.*
*Не хочацца нікуды йсці:*
*Туман захутаў ноч увішна,*
*І дрэмле ў ціхім забыцці*
*Табой пасаджаная вішня.*
*На дол лісты злятаюць з дрэў,*
*Іх вецер выстылы ганяе.*
*А клён ля хаты пастарэў*
*І дні былыя ўспамінае…*
*На сэрцы сумна без пары,*
*Калі дажджам няма спакою,*
*Калі на поўдзень журавы*
*Ляцяць над ціхаю ракою.*

***

*Заплятае восень залатыя косы,*
*Туманамі сцеле, дожджыкам імжыць.*
*Па траве мурожнай,*
*па сцяжынцы роснай*
*Павуцінкі вяжа, срэбрам зіхаціць.*

*Уладарыць восень. Клопатаў без меры.*
*І няма хвілінкі вольнай ні адной.*
*"Ўвосень работ восем", —*
*як тут не паверыць,*
*Як не захапіцца шчодрасцю зямной!..*

*Заплятае восень залатыя косы,*
*Дываны прыгожа тчэ у тры ніты.*
*Сонейка шчыруе, серабрацца росы —*
*Залатая восень, вечар залаты.*



Іван МОНЦІК

## З палону бязгрэшнага лістапада

I
*Шамацела жоўтае лісце,*
*Казала: "Ну, што ты?*
*Боль асіліш… Знойдзецца выйсце*
*З пакут адзіноты".*
*А памяць не тое казала*
*Бяссоннаму гаю:*
*Вузельчыкам боль завязала —*
*Пакуль я трываю.*
*Не знойдзецца выйсця, і здрады*
*Ніводнае ноты!*
*Лістапад мне дорыць парады*
*Ад слёз адзіноты.*
*Пакуль я жыву, — я трываю,*
*У бездань не кане*
*Мой боль, што я ў сэрцы трымаю*
*За слодыч кахання.*
*…Заблукаў я зноў, як калісьці,*
*Заранкам пад клёны.*
*Шамацела жоўтае лісце*
*Ля ног улюбёных.*

II
*Акрапіў далягляды на ўзлессі*
*Ліставей рабаціннем ажын…*
*За бурштын на кастры маіх песень*
*Адкажы, лістапад, адкажы.*
*За апад сіняву тваіх зораў,*
*За дваіх нас з табой адкажы,*
*Хто падманліва сыпле ў азёры*
*Крышталёў міражы, міражы?*
*Хто смугой апавіў саладжава*
*Збажыну, што паспела ўзрунець?*
*І пад клёнам хто ўзор маладжавы*
*Разаслаў, як чаканку на медзь?*
*…Запалаў ліставеем на ўзлессі*
*Ў пазалоце асенні апад.*
*Ці ж такі ліставей маіх песень?*
*Адкажы! Адкажы, лістапад!*

## Над Мышанкай

1
*Выцячэ многа з Мышанкі вады…*
*Ведаю толькі ўсё роўна я:*
*Будуць у сэрцы яны назаўжды,*
*Стрэчы з табою чароўныя.*
*Я адшукаю цябе праз гады*
*Дзесьці ў бязмежнасці просіні,*
*Разам з табой, — для цябе, — і тады*
*Фарбы пазычым у восені.*

2
*Вузельчык верасовае тугі*
*Мне восень ціха падарыла.*
*І клін гусей на лёгкіх крылах*
*У далеч павяла, дзе небакрай*
*Спавіты ў восеньскай самоце.*
*Дзе колісь быў яшчэ зялёны гай —*
*Бярозкі там у пазалоце.*
*У карагодзе, між красунь-сясцёр,*
*Нібы ў святочны час у танцы,*
*Палае клён — бурштынавы касцёр*
*Вясёлкай фарбаў на палянцы.*

3
*Прытаіўся ў асінніку вецер.*
*Павуцінка завісла на плоце…*
*Захістаў верасовым суквеццем*
*Клін жураўліны ў адлёце.*

*Залатою націнкай нясмела*
*Ля акна завітала прыкмета:*
*На кляновым лісточку прысела*
*Ястрабінкаю — бабіна лета!*

# Нечакана, ярка, весела

Напярэдадні "Каляднага дабрачыннага балю ў Год кнігі" асабліва хочацца верыць у цуды. А як не чакаць цудаў ад дзіцячай кнігі! Якім стаў гэты год для лідара на айчынным рынку выданняў для дзяцей — "Мастацкай літаратуры"? Якімі кнігамі яны ганарацца? Якія дыяменты хаваюць у рэдакцыйным партфелі? Пра гэта і многае іншае — наша гутарка з загадчыцай рэдакцыі дзіцячай літаратуры выдавецтва "Мастацкая літаратура" Аленай Масла.

**Марына ВЕСЯЛУХА,**
**фота Кастуся Дробава**

**— 2012-ы быў аб'яўлены ў нашай краіне Годам кнігі. Ці адчуваецца сёлета больш пільная ўвага да дзіцячай кнігі?**

— Я б сказала, што расстаўлены дадатковыя акцэнты на актуальнасці дзіцячай кнігі, бо яна — магутны сродак у адукацыйным, пазнавальным, педагагічна-выхаваўчым працэсе. Дзіцячая кніга — твор мастацтва, які фарміруе светапогляд, дапамагае самапазнанню маленькага чалавека… На шчасце, у краіне заўжды было шмат людзей, якія разумелі гэта і падтрымлівалі кнігу, працавалі над тым, каб данесці яе да чытача. І цікавасць да дзіцячай кнігі Годам кнігі, будзем спадзявацца, толькі замацуецца, але з яшчэ большай надзеяй скажу — не скончыцца.

**— Якія праекты выдавецтва "Мастацкая літаратура" вы назвалі б самымі яркімі і менавіта на іх звярнулі б увагу бацькоў, настаўнікаў, выхавальнікаў?**

— З таго, што выйшла ў "Мастацкай літаратуры" на працягу года, мне падаецца, актуальна ўсё. Праекты ад пачатку адбіраюцца так, каб быць цікавымі і для дзяцей пэўнай узроставай катэгорыі, а таксама для бацькоў, настаўнікаў, выхавальнікаў.

Пачнём з самых сціплых, на першы погляд, праектаў — кніжка-расфарбоўка з вершамі А. Церашковай і малюнкамі Ю. Малахоўскай. Расфарбовак на рынку — хоць гаць гаці, а беларускамоўных — дэфіцыт.

Вельмі запатрабаваны цяпер "тонкія" кніжкі — аднаго апавядання, казкі, верша. Мы працягваем серыю "Казка за казкай", а таксама выдалі кніжку-карцінку (вельмі папулярны жанр ва ўсім свеце) "Марцін і кацяня" У. Бубена (мастачка М. Крывальцэвіч), будзем і далей працаваць у гэтым кірунку.

У нас выйшла кніга народных песень, калыханак, прыказак і прымавак "Дзе Купала начавала" з цудоўнымі малюнкамі Г. Сілівончык і кніга гістарычнай прозы для падлеткаў А. Бензерука "Мячы Грунвальда, альбо Дванаццаць абаронцаў караля" (мастак У. Даўгяла). Гэтыя кнігі, а таксама зборнік вершаў "Я — чалавек" у афармленні М. Цімохавай — на мой погляд, узорныя выданні. Якасныя літаратурны твор, мастацкае аздабленне, паліграфічнае выкананне — такой і павінна быць сучасная кніга, каб не баяцца электронных канкурэнтаў: *арт-аб'ектам*.

Абавязкова трэба згадаць і кнігу І. Клімковіч "Калі адчыняюцца нябёсы" (мастак А. Каршакевіч) — пра беларускую міфалогію для дзяцей і падлеткаў, і нашу новую серыю "Маладзік" для падлеткаў і юнацтва, і "Азбукоўнік і лічыльку" (укладанне З. Куставай)…

**— "Пачатковая школа", "Народная асвета", "Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі", "Харвест" ды іншыя айчынныя выдавецтвы актыўна працуюць у сегменце дзіцячай кнігі. Ці адчуваеце вы з іх боку канкурэнцыю?**

— Калісьці ў выдавецтве "Юнацтва" толькі літаратурных рэдакцый было пяць, працавала блізу 50 чалавек. Гэта выдавецтва штогод выпускала 120 — 150 найменняў кніг для дзяцей і юнацтва вялізнымі накладамі… Колькі трэба сёння старацца, каб наблізіцца да "юнацкіх" аб'ёмаў і якасці! Я думаю, працы хопіць усім.

**— А з боку расійскіх выдавецтваў, якія таксама досыць шырока прадстаўлены на паліцах нашых кнігарняў?**

— Безумоўна, цяжка канкураваць з расійскімі выдаўцамі. У іх нашмат больш рынак збыту, таму непараўнальна большыя наклады. А гэта, безумоўна, адбіваецца на сабекошце кніжнай прадукцыі… Але ёсць сегмент рынку, які, апроч нас, не ў стане запоўніць ніякія іншыя кнігавыдаўцы. Гэта нацыянальная літаратура, літаратура на беларускай мове і літаратура — пазнавальная, гістарычная — пра Беларусь і беларусаў. Тут ужо ўсё залежыць ад нас. Наколькі мы самі паважаем сябе, сваю культуру, літаратуру, гісторыю, наколькі гатовыя выхоўваць сваіх дзяцей на спрадвечных беларускіх каштоўнасцях, наколькі нам самім цікава паказаць усяму свету тое, на што мы багатыя — і, адпаведна пералічаным складнікам, ствараць кнігі. Гэтую працу ў нас ніхто не адбярэ.



**— Калі казаць пра супрацоўніцтва ў міжнародным аспекце, наколькі добра прадстаўлена перакладная літаратура на рынку дзіцячай кнігі? Падаецца, што як і ў выпадку з кнігай дарослай, нам усё ж такі і тут не хапае якасных перакладаў…**

— Ну чаму ж. Згадаць хоць бы і інтэрнэт-часопіс перакладной літаратуры "Прайдзісвет" — якія цудоўныя пераклады яны падаюць! Бачу праблему ў іншым — нашы выдавецтвы чамусьці не хочуць вучыцца працаваць з замежнымі калегамі, выкупляць аўтарскія правы на выданні, якія будуць запатрабаваныя ў нас — хаця беларусы і ўдзельнічаюць у найбуйнейшых міжнародных кніжных кірмашах, бачаць прадстаўленыя на іх навінкі і літаратурную класіку.

За апошні час сярод дзяржаўных выдавецтваў выключэннем былі "Мастацкая літаратура" і "Літаратура і Мастацтва", якія выдалі кнігі шведскай пісьменніцы Юі Вісландэр. Дарэчы, на пачатку наступнага года ў "Мастацкай літаратуры" выходзіць кніга рускага пісьменніка Альберта Ліханава ў перакладзе на беларускую мову — "Трывожныя аповесці". Хацелася б, каб нашы выдаўцы і замежныя кнігавыдавецкія праекты везлі ў Беларусь, але і на сваіх аўтараў не забываліся — беларускім пісьменнікам таксама не зашкодзіць быць пазнавальнымі свету.

**— Зноў звернем увагу на міжнародны аспект справы. Ці ёсць штосьці ў замежным кнігавыданні, што хацелася б прадставіць і ў нас?**

— Належная павага да творчага чалавека, якая выяўляецца не ў апошнюю чаргу і праз аплату яго працы. Вы паглядзіце, колькі нашых выбітных мастакоў аздабляюць кнігі для выдавецтваў па ўсім свеце! З аднаго боку, можна парадавацца, што таленавітыя майстры запатрабаваныя, што зарабляюць за мяжой. Засмучае, што ўзровень нацыянальнай кніг ад гэтага не лепшае. Тое ж датычыць і стаўлення да працы пісьменніка. Літаратура — не забаўка, гэта карпатлівая праца. І калі, напісаўшы кнігу, вартую ўвагі, пісьменнік забяспечвае працай процьму людзей — кнігавыдаўцоў, ілюстратараў, бібліятэкараў, кнігагандаль і г. д. — ён мае права на вартую аплату сваёй працы. Асабліва ж гэта датычыць ганарарных ставак на творы для дзяцей. Цяпер схема такая — аб'ём тэксту (проза або паэзія) памнажаецца на невялікую ганарарную стаўку… Якія аб'ёмы ў кніг для самых маленькіх? Але ж напісаць для іх — задача зусім не простая. Думаю, гэта тэма асобнай сур'ёзнай размовы.

**— Кнігавыдаўцы розных краін свету ўсё часцей кажуць пра пагрозу поспеху друкаванай кнігі з боку кнігі электроннай. На вашу думку, ці закране гэтая, калі можна так казаць, рэвалюцыя кнігі дзіцячыя?**

— Дзіцячую ўсё ж такі не так моцна. І гэта добра разумеюць выдаўцы ва ўсім свеце — нездарма, відаць, і Франкфурцкі кніжны кірмаш у гэтым годзе быў прысвечаны літаратуры для дзяцей і падлеткаў.

**— Прыадкрыйце сакрэт, якія кнігі для дзяцей цяпер рыхтуюцца ў "Мастацкай літаратуры"?**

— Хутка выйдзе другая з серыі кніг пра Маму Му — "Мама Му прыбірае" Юі Вісландэр. Вось-вось друкарня аддасць наклад захапляльнай аповесці для падлеткаў Алены Паповай "Удивительные приключения Мальчика, который не называл своего имени". Выходзіць наступная кніга з серыі "Маладзік", падрыхтавана цудоўная кніга казак Пятра Сіняўскага "Зачараваная гаспадарка" (мастачка Марыя Каратаева). А які сюрпрыз рыхтуе нам мастачка Тамара Шэлест! Я зрабіла падборку беларускіх народных казак пра асілкаў — так, як сабе ўяўляў іх наш народ, а Тамара ўзялася ілюстраваць кнігу. Нечакана, ярка, весела — такое ўражанне ад тых фрагментаў кнігі, якія ў выдавецтве ўжо бачылі… А яшчэ — сакавітая і вясёлая паэтычная серыя "Журавінк@", кнігі для дзяцей ад 0 да 3 і шмат іншага…

Будзем старацца парадаваць аматараў беларускай кнігі і рабіць усё, што залежыць ад нас, каб Год кнігі доўжыўся бясконца.

## У падтрымку чытання

**Аксана БЯЗЛЕПКІНА,**
**кандыдат філалагічных навук,**
**выкладчык беларускай літаратуры**
**ў Інстытуце журналістыкі БДУ:**

### "ВЫХОЎВАЙЦЕГУСТ!"

— У дзяцінстве мне найбольш падабаліся кніжкі з запамінальнымі малюнкамі. Адна з такіх кніг — "Макс і Морыц" нямецкага пісьменніка Вільгельма Буша, які сам ілюстраваў свае творы. Гэта гісторыя пра двух гарэзаў, якіх за дрэнныя паводзіны пры канцы кнігі



змалолі ў муку. Некаторыя радкі памятаю і цяпер: "Ах, што робяць, ах, што твораць два гарэзы Макс і Морыц". Нам з братам вельмі падабалася гэтая кніга: мы таксама былі неслухамі, але да гэрояў кнігі нам, на шчасце, было далёка.

У нас дома, як мне тады здавалася, была проста неверагодная колькасць кніг, таму ў бібліятэку я хадзіла вельмі рэдка. На паліцах была класічная літаратура, замежная і айчынная, прыгодніцкія і фантастычныя кнігі. Цяжка асобна вылучыць нейкія творы, якія паўплывалі на маё сталенне, таму што ў той час было прачытана вельмі шмат. Я і брат чыталі з захапленнем, часам нават са спартыўным азартам — на хуткасць, адлічваючы секундамерам хвіліну, а потым лічылі колькасць слоў.

Мяне некалі вельмі ўразіла кніга — з тых рэдкіх бібліятэчных — Астрыд Ліндгрэн "Ронья, дачка разбойніка". Потым, ужо ў студэнцкія гады, я нават купіла сябе з першай стыпендыі гэтую дзіцячую кніжку. Некаторыя псіхолагі лічаць, што любімая кніга мае дачыненне да жыццёвага сцэнарыя чалавека. І калі тое праўда, дык менавіта з гераіняй гэтай кнігі ў мяне ёсць нейкае падабенства.

Для чытання запоем ідэальна пасавалі Аляксандр Дзюма, Жуль Верн і чамусьці Анарэ дэ Бальзак — і я чытала, сціраючы пазалоту з падпіснога збору твораў.

Цяпер большую цікавасць выклікае навуковая літаратура. З беларускай прозы — "цяжкой артылерыі" — рэкамендавала б Алену Брава (у яе сёлета выйшла кніга "Рай даўно перанаселены") і Андрэя Федарэнку (кнігі "Сечка" і "Ланцуг"). Хочацца пажадаць чытачам, каб выхоўвалі літаратурны густ: у нас часта актыўнасць аўтара і яго чалавечую прывабнасць пераносяць на ўспрыманне яго тэкстаў, якія могуць быць бездапаможнымі. Яшчэ я параіла б сачыць за літаратурным працэсам у інтэрнэце, дзе знаходзяцца тыя, хто пры неапраўдана захваленага аўтара асмельваюцца сказаць: "А кароль голы!"

**Запісала Ганна ПАЛЯКОВА**

# Паміж Мінскам і Нью-Дэлі

**Некалькі дзён таму ў сталіцы Індыі Нью-Дэлі завяршыў работу XXXII Індыйскі міжнародны гандлёвы кірмаш. Падчас гэтага прэстыжнага форуму Беларусь выступіла ў якасці краіны-партнёра. Але наш удзел у выстаўцы-кірмашы не абмежаваўся толькі эканамічнымі і навуковымі аспектамі. Падпісаны многія пагадненні, якія будуць садзейнічаць больш актыўнаму супрацоўніцтву Беларусі і Індыі, у тым ліку ў галіне друку, кнігавыдання і культурнага абмену. Але пра ўсё па парадку.**




*Калектыўны стэнд Беларусі на выстаўцы.*

## ДЗЕНЬ СЁННЯШНІ

У складзе Нацыянальнай экспазіцыі Рэспублікі Беларусь, якая разгарнулася на выстаўцы ў Індыі, былі прадстаўлены дасягненні нашай навукі і тэхнікі, лепшыя ўзоры тавараў айчыннай вытворчасці. Адметна і тое, што пра краіну высокім гасцям і простым наведвальнікам экспазіцыі распавядалі кнігі, змешчаныя на калектыўным стэндзе Міністэрства інфармацыі "Кнігі Рэспублікі Беларусь". Тут можна было пабачыць лепшыя ўзоры кніжнай прадукцыі вядучых айчынных выдавецтваў: "Беларусь", "Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі", "Вышэйшая школа", "Народная асвета", "Мастацкая літаратура", РВУ "Літаратура і Мастацтва".

Добрым падарункам гасцям сталі таксама кнігі: у дзень урачыстага адкрыцця выстаўкі прэм'ер-міністр Беларусі Міхаіл Мясніковіч уручыў міністру гандлю і прамысловасці Індыі Анаду Шарымэ фотаальбомы "Полацк. 1150" і "Земля силы. Беловежская пуща", што пабачылі свет у выдавецтве "БелЭн імя П. Броўкі". Таксама ў межах міжнароднага форуму прайшла прэзентацыя пілотнага беларуска-індыйскага выдавецкага праекта — дзіцячай кнігі "Рождественские сказки" на англійскай мове выдавецтва "Беларуская Энцыклапедыя імя П. Броўкі". Гэтае выданне пабачыла свет пры падтрымцы Пасольства Рэспублікі Індыя ў Беларусі і асабістым удзеле Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Індыі ў Беларусі спадара Маноджа Кумара Бхарці.

Удзел нашай краіны ў самым буйным і прэстыжным гандлёвым кірмашы ва ўсходнім рэгіёне будзе мець і іншыя вынікі. Так, у ходзе працы бізнес-форуму адбылося падпісанне Пагаднення аб супрацоўніцтве ў галіне друку і інфармацыі паміж Урадам Рэспублікі Беларусь і Урадам Індыі. Таксама ў межах удзелу дэлегацыі Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь у міжнародным кірмашы прайшла сустрэча з дырэктарам Нацыянальнага кніжнага фонду Індыі спадаром М. А. Сікандарам. Былі дасягнуты дамоўленасці пра партнёрскі ўдзел абедзвюх краін на парытэтных пачатках у міжнародных кніжных выстаўках — XX Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўцы-кірмашы і Міжнароднай кніжнай выстаўцы ў Нью-Дэлі.

Адметна і тое, што беларуска-індыйскае акадэмічнае і культурнае ўзаемадзеянне будуць развівацца і атрымаюць новыя імпульсы. Падчас адной з сустрэч у межах форуму было падпісана Генеральнае пагадненне аб супрацоўніцтве паміж выдавецтвам "БелЭн імя П. Броўкі" і Індыйскім інстытутам менеджменту і даследаванняў імя Шры Шарада. У адпаведнасці з гэтым дакументам будуць створаны Цэнтр беларуска-індыйскага культурнага абмену імя Індзіры Гандзі ў Мінску і Цэнтр беларуска-індыйскага культурнага абмену імя Янкі Купалы ў Нью-Дэлі.

## ДЗЕНЬ УЧАРАШНІ

Калі прыглядзецца больш пільна, то Беларусь і Індыя, размешчаныя досыць далёка ў геаграфічным плане, намнога больш блізкія ў плане культурным. Хто з нас не глядзеў хоць адзін індыйскі фільм? Хто не наведваў індыйскую выстаўку-кірмаш і не набываў там яркія хусткі-пярсцёнкі-завушніцы-тунікі-дываны? У апошнія гады назіраецца больш актыўнае збліжэнне культур і на афіцыйным узроўні.

У 2010 годзе Індыйская Рэспубліка ўпершыню ўзяла ўдзел у XIV міжнароднай спецыялізаванай выстаўцы "СМІ ў Беларусі". Як падкрэсліў тады падчас інтэрв'ю аташэ пасольства Індыі ў Беларусі Р. К. Шарма, "Беларусы цікавяцца індыйскай культурай, асабліва танцамі. Выстаўка ж дае магчымасць паказаць Індыю з іншага боку — праз прызму бачання сродкаў масавай інфармацыі". А ўжо ў наступным годзе мы маглі пазнаёміцца і з індыйскім кнігавыданнем — падчас XVIII Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу. Такую далёкую і зусім не знаёмую нам краіну прадстаўляў супрацоўнік самага старога выдавецтва Індыі *GBD Books* і індыйскага філіяла *Pigeon Books* Анкур Дахія. Анкур з'яўляецца яшчэ і пісьменнікам, аўтарам надзычай папулярнай у Індыі кнігі "20 And Still a Virgin?!!!" (Яшчэ цнатлівы ў 20?!!!). Тады ж малады празаік падпісаў мне сваю кнігу і пагадзіўся адказаць на некаторыя пытанні…

Потым — новы крок супрацоўніцтва: пераклад гэтага рамана на беларускую мову. У хуткім часе кніга пабачыць свет у Выдавецкім доме "Звязда". Раман распавядае пра жыццё простых хлопцаў, якія сябруюць з дзяцінства, называюць адзін аднаго братамі, разам ходзяць у школу, учыняюць маленькія "злачынствы", перажываюць першае каханне.

У адным з лістоў на маё пытанне, ці мог ён прадбачыць, што кніга будзе калісьці перакладзена на беларускую мову, Анкур адказаў: "Не. Думаю, усё таму, што мне пашанцавала трапіць на Мінскую міжнародную выстаўку-кірмаш, тады ж ты задала мне некалькі пытанняў пра маю кнігу. З гэтага ўсё і пачалося. Але незвычайнае ў жыцці — таксама заканамернасць. І я сапраўды з вялікай цікавасцю чакаю рэакцыі беларускіх чытачоў на кнігу".

Дарэчы, паездка змяніла светапогляд маладога аўтара, ён нават плануе напісаць кнігу пра падарожжа ў Беларусь. Цяпер жа знаёміцца з філасофскімі работамі выхадцаў з нашай краіны, а сёння надзвычай папулярных у Індыі аўтараў — Аляксандра і Дзмітрыя Ягоравых.

Спадзяюся, і падпісанне новых пагадненняў, і ўдзел Індыі ў культурным жыцці Беларусі (і наадварот) атрымаюць новыя плён. Нашы краіны будуць яшчэ бліжэй і, нягледзячы на вялікую адлегласць, ментальныя, рэлігійныя адрозненні, стануць добрымі сябрамі.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

# Адпачыць душой... на выстаўцы!

**З 20 па 30 кастрычніка ў Бялградзе (Рэспубліка Сербія) прайшла 57-я Міжнародная кніжная выстаўка, дзе прысутнічалі і прадстаўнікі беларускіх выдавецтваў: РВУ "Літаратура і Мастацтва" і "Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі". Асноўнай мэтай было прадстаўленне кніжнай прадукцыі Беларусі ў Сербіі, ды атрымалася нават больш, чым планавалі.**

**Тацяна СІВЕЦ, фота Кастуся Дробава**

На пачатку трэба адзначыць, што Міжнародная кніжная выстаўка ў Бялградзе — найбуйнейшая ў рэгіёне, а па ацэнках экспертаў наогул з'яўляецца другой па маштабе і колькасці наведвальнікаў у свеце пасля Франкфурцкай кніжнай выстаўкі-кірмашу. Сёлета на плошчы больш як 27 000 кв. м. было прадстаўлена каля 500 экспанентаў з 23 краін: Сербіі, Вялікабрытаніі, Францыі, Галандыі, Германіі, Аўстрыі, Італіі, Іспаніі, Грэцыі, Японіі, Кітая, Беларусі, Бразіліі і інш. Ганаровым госцем стала Венгрыя. Выстаўка працавала восем дзён з дзевяці раніцы да дзевяці вечара — і цікавасць наведвальнікаў не памяншалася з кожным днём, як і іх колькасць.

Адметнасць бялградскай выстаўкі яшчэ і ў вызначэнні адзінай тэмы — сёлета яна была акрэслена як "Знакі будучыні" і скіраваная на пераасэнсаванне змен, што адбываюцца ў свеце. Акрамя таго, удзельнікаў выстаўкі хвалявалі і сучасныя тэндэнцыі ў літаратуры ды выдавецкай справе Балканскага рэгіёна, культурныя сувязі Сербіі з іншымі краінамі, праблемы электронных выданняў, культурная палітыка ў галіне літаратуры ў Еўрапейскім кантэксце, спосабы заахвочвання перакладчыкаў, стан і роля коміксаў ды г. д.

Нашу краіну прадставілі найлепшыя ўзоры кніжнай прадукцыі выдавецтваў "Беларусь", "Беларуская Энцыклапедыя імя П. Броўкі", "Вышэйшая школа", "Мастацкая літаратура", "Народная асвета", РВУ "Літаратура і Мастацтва". Экспазіцыя "Кнігі Рэспублікі Беларусь" (плошчай 8 кв. м.) была прэзентавана ў дзень афіцыйнага адкрыцця выстаўкі. Госці змаглі пазнаёміцца са знакавымі праектамі Года кнігі: фотаальбомам "Полацк. 1150", выданнем "Сучасная геральдыка Беларусі", а таксама кнігамі сербскіх пісьменнікаў, выдадзенымі ў РВУ "Літаратура і Мастацтва". Не дзіўна, што беларускі стэнд карыстаўся папулярнасцю: за час працы выстаўкі яго наведалі Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Беларусь у Рэспубліцы Сербія Уладзімір Чушаў, Міністр культуры і інфармацыі Рэспублікі Сербія Братыслаў Петкавіч, Патрыярх Сербскай праваслаўнай царквы Ірыней, намеснік старшыні Камісіі па міжнародных справах Парламента Сербіі Гойка Радавіч, а таксама прадстаўнікі пасольстваў, вядомыя сербскія пісьменнікі і перакладчыкі.



*Намеснік дырэктара РВУ "Выдавецкі дом "Звязда" Ала Корбут расказвае гасцям з Сербіі пра кніжныя навінкі.*

Дзякуючы дапамозе Пасольства Беларусі ў Сербіі беларускія госці змаглі наведаць выдавецкае таварыства "Здравко Гойковіч", а таксама Нацыянальную бібліятэку Сербіі. У межах сустрэчы з кіраўніцтвам выдавецкага таварыства абмяркоўваліся магчымасці рэалізацыі сумесных праектаў: выпуск навукова-папулярнага выдання, прысвечанага Беларусі ў Сербіі і Сербіі ў Беларусі, падрыхтоўка "Анталогіі беларускай і сербскай паэзіі" ды выпуск беларускіх дзіцячых кніг у перакладзе на сербскую мову. Дырэктар Нацыянальнай бібліятэкі Сербіі Дзеян Рысціч выказаў шчырую зацікаўленасць ва ўдзеле ў XX Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўцы-кірмашы. Да таго ж, беларускім ілюстратарам было прапанавана ўзяць удзел у XXIV Міжнародным конкурсе арыгінальных кніжных ілюстрацый для дзяцей і моладзі, які адбудзецца ў наступным годзе, а студэнты Бялградскага ўніверсітэта атрымаюць магчымасць пабачыць свае публікацыі на старонках "ЛіМа" і "Маладосці". Пасля заканчэння выстаўкі ўсе кнігі былі перададзены філалагічнаму факультэту Бялградскага ўніверсітэта, а таксама Пасольству Рэспублікі Беларусь у Сербіі.

Аднак супрацоўніцтва насамрэч толькі пачалося! Днямі ў РВУ "Выдавецкі дом "Звязда" завіталі прадстаўнікі сербскага Каралеўскага ордэна віцязяў на чале з заснавальнікам і кіраўніком — Хаджы Зоранам Мрджэнавічам. Нагодай стала цікавасць да беларускай дзіцячай літаратуры, якой выдавецтва надае асаблівую ўвагу. Аднак, калі госці пабачылі фотаальбом "Палескія былі ў творах Івана Супрунчыка", пагарталі прыродазнаўчыя нататкі Андрэя Міраслававіча, пачыталі вершы Слабадана Вукавіча, усміхнуліся напаміну пра дзяцінства са старонак "Піянеры" і доўга не выпускалі з рук кнігу Наталлі Ігнаценкі "Казачныя падарожжы з прыгодамі", было вырашана не абмяжоўвацца толькі дзіцячай тэматыкай. Тым больш што сам Ордэн паяднаў розныя віды дзейнасці: рэканструктарскую, арганізатарскую, выдавецкую, асветніцкую і нават паломніцкую, бо галоўнай місіяй яго члены лічаць адраджэнне ў сучасным свеце шляхетнага духу старадаўніх віцязяў праз духоўнасць, культуру, мастацтва, спорт і гуманітарную дзейнасць, а гэта значыць, што яны дбаюць пра захаванне найлепшых узораў пісьменніцкага слова для дзяцей, на якіх сёння абрынулася амерыканская масавая культура, імкнуцца паяднаць прадстаўнікоў розных краін і грамадскіх плыняў — ад акадэмікаў да кіназорак, ад палітыкаў да філасофаў. "Усё, што мы робім, мы робім для дзяцей, для будучыні, — адзначыў Хаджы Зоран Мрджэнавіч. — Часы мяняюцца, але трэба не ленавацца, рабіць добрыя праекты і не спыняцца. Мы дакладна ведаем, што будзе цікава, але ніколі не бярэмся за чыста камерцыйныя рэчы — нашы выданні робяцца бестселерамі, бо інакш проста не можа быць!"

Такім чынам, да бліжэйшай сустрэчы на кніжнай выстаўцы ў Мінску прадстаўнікі РВУ Выдавецкі дом "Звязда" і сербскага Каралеўскага ордэна віцязяў вырашылі засяродзіцца на наступных кірунках: азнаямляльная літаратура пра Сербію і Беларусь, рэлігійныя і дзіцячыя кнігі. Пакуль жа ёсць час больш даведацца адно пра аднаго. Тым больш, як аказалася, Беларусь і Сербію звязваюць не толькі выдавецкія справы — жонка спадара Мрджэнавіча родам з... Ліды. А пакуль сербскія госці выправіліся ў Маскву, скрушна ўздыхнуўшы на развітанне: "Мы занадта хутка жывём — увесь час спяшаемся. Адпачываем душою толькі на кніжных выстаўках..."

# Гульні розуму і пачуццяў

Новыя кнігі выдавецтва "Харвест" прыемна здзівілі разнастайнасцю нават у адным толькі рэчышчы — фантастычным. А яшчэ скардзяцца, што літаратура стала тыповая! Бедная на ўяўленне! Хворая на беспрынцыпнасць! Непатрабавальная да зместу — маўляў, усё з'ядуць! Усё не ядуць, тым больш цяпер, так што і пісьменнікі, і выдаўцы шчыра клапоцяцца пра якасць прэзентуемых тэкстаў, іх змястоўнасць, тэматычную і стылістычную неардынарнасць.

**Таццяна СТУДЗЕНКА**

## АДШУКАЦЬ ПРАВЕДНІКА



Адпаведна аднаму з талмудычных паданняў (старажытных гісторый, запісаных Майсеем са слоў Бога), на Зямлі заўсёды будуць жыць 36 праведнікаў. Яны ахоўваюць і будуць ахоўваць свет — калі, зразумела, самі захаваюць жыццё. Дарэчы, яны не ведаюць пра сваё абранне — тым больш рызыкі дзеля іх і дзеля свету. На гэтым угрунтаваны захапляльны сюжэт рамана **А. Й. Казінскага "Последний праведник"**, чытання не толькі цікавага, але і сур'ёзнага ў падтэкставай наяўнасці "адвечных пытанняў". Часта яны нават правакатыўныя. Ці ёсць праведнікі ў наш час? І каго лічыць імі цяпер? Гэта медыкі, выратавальнікі, валанцёры, ахоўнікі прыроднага свету — адным словам, "людзі добрай волі"? Ці не толькі? І як перасцерагчы іх? Такая мэта стаіць перад супрацоўнікам капенгагенскай паліцыі, якая атрымала паведамленне з Інтэрпола пра шэраг ахвяр "з адным назоўнікам" і пра тое, што хваля забойстваў дасягнула Даніі. Крымінальная аснова не замінае прысутнасці ў рамане шырокага культуралагічнага кантэксту. Гісторыі з Торы і Талмуда, звесткі па гісторыі рэлігіі, загадкавы свет матэматыкі, скандынаўскія паданні, таямніцы будызму... У выніку атрымліваецца фантастычны трылер інтэлектуальнага і псіхалагічнага кшталту.

## ПРАЗ НЯБЕСНЫЯ КАНЦЫЛЯРЫІ

Загадкавы праект **Zотов®** **(Георгій Зотаў)** выклікае шмат спрэчак наконт сваёй ідэнтычнасці. Што гэта: назва калектыву "літаратурных неграў", псеўданім кагосьці з вядомых пісьменнікаў або іншых знакамітых асоб? Між тым, Г. Зотаў — рэальны чалавек з прапіскай і пашпартам, проста не любіць "свяціцца" (прыкладам, як Патрык Зюскінд). З таго нешматлікага, што ён паведамляе пра сябе ў сеціве, можна зразумець, што гэта актыўны вандроўнік з арыгінальнымі прыярытэтамі і досыць адукаваны чалавек у тым, што датычыць гуманітарнай сферы. Раман **"Минус ангел"** — фантастычны блокбастар у стылі добра вядомых чытачу "Ад & Рай", "Апокалипсис welcome", "Москоу" і інш.: апакаліптычна-містычныя "рэаліі", пераасэнсаваныя ў рэчышчы чорнага гумару. Гэта відавочна адпавядае сучаснаму прагматызаванаму ўспрыманню "боскіх" рэчаў, таму, відаць, нягледзячы на відавочную разумовую гульню, перад намі тэкст-выклік "антыбоскай" свядомасці. Такое традыцыйнае, з часоў маркіза де Сада, накананванне чорнага гумару: рабіць сур'ёзнае смешным (варыянт: пачварнае — натуральным) з той прычыны, што сур'ёзныя рэчы ў сур'ёзным стане часцяком увогуле ў разлік не бяруцца. Адсюль у рэчышчы містычнага сюжэта пра знікненне анёлаў з Раю — шэраг хвалюючых пытанняў. Калі суадносіны жыхароў Раю і Апраметнай — прыкладна 1:99, то чаго чакаць у перспектыве, улічваючы, што супрацьлеглыя "інстанцыі" вымушаныя шукаць кампраміс, каб увогуле захавацца? Што будзе ўяўляць сабой такі кампраміс? Чаму і Рай, і Апраметная да болю нагадваюць знакамітыя антыўтопіі Оруэла і Хакслі? Надзвычай цікавым, хоць і рызыкоўным, выглядае эпізод, дзе чытачу прапанавана плынь свядомасці… самога Усявышняга (у рамане — Голасу). Нягледзячы на эксцэнтрычнасць такога ходу, нават артадаксальныя вернікі не павінны крыўдзіцца, паколькі ў першую чаргу "Голас" трывожыць стэрэатыпізацыя сэнсаў рэлігійных першакрыніц — трывожыць чысціня веры. Можа, таму і знікаюць анёлы?..



## ПА СЛЯДАХ РЫМСКІХ ЛЕГІЯНЕРАЎ



**"Завещание императора" Аляксандра Старшынава** — чацвёртая частка гістарычна-фантастычнага цыкла пісьменніка пра пераможныя паходы Вялікага Рыма. Раней чытачы мелі магчымасць пазнаёміцца з раманамі "Легионер", "Центурион Трояна", "Наследник императора". Усе творы грунтуюцца вакол каларытных постацей імператара Траяна і яго вернага паплечніка Гая Прыска — калісьці навабранца рымскай арміі і аднаго з яе, так бы мовіць, "спецназаўцаў". У вайне за золата Дакіі (поўнач Балканскага паўвострава) Гай Прыск дасягнуў статусу цэнтурыёна і нарэшце рады адпачыць у багатым доме разам з прыгожай жонкай і дзецьмі, але неўгамонны Траян зноў склікае паход. Новую вайну імператар збіраецца весці з Парфіяй — вялікай краінай на ўзбярэжжы рэк Тыгр і Еўфрат. Але ці пашанцуе Рыму і гэтым разам? Калі прыняць пад увагу час дзеяння — пачатак II ст. н. э., пачынаеш сумнявацца. Нават чалавек са школьнай адукацыяй ведае, што хутка пераможная Імперыя будзе перажываць заняпад. Ці не цяпер ён і пачнецца?.. Аўтар запрашае нас у зацікаўленыя сведкі паходу, так што прыкладзеныя да рамана карты тагачаснага свету будуць якраз дарэчы.

## S.T.A.L.K.E.R.

**"Дар монолита" Сяргея Клачкова** — фантастычны трылер непрафесійнага аўтара — настаўнікам біялогіі і геаграфіі. Стаўшы пераможцам конкурсу, арганізаванага праектам "Lit. STALKER" (раман "Лунь", 2010), С. Клачкоў хутка стварыў яшчэ два: "Фреон" і "Дар монолита". Усе кнігі аб'ядноўвае цікавасць аўтара да ўнікальнага свету ЗОНЫ — альтэрнатыўнай рэальнасці, якая спасцігаецца чалавекам у момант адчужэння, перадусім у дзікіх, бязлюдных месцах накшталт лесу, закінутай будоўлі і г.д. Чалавек, для якога Зона — найбольш пажаданая і прыяльная стыхія, завецца сталкерам. Часта гэта аматар гэтак званага індустрыяльнага турызму. "Раптам звыклы свет па недаступных розуму прычынах становіцца чужым. Быццам закінутым. Разумееш, што гэта не проста цішыня. Гэта смерць. Страх. Жах. Абвостраныя пачуцці ўспрымаюць рэчы, на якія раней не звяртаў увагі. Рухомае паветра… Мроіва… Нешта не так з лужынай на дарозе — вада не можа так блішчэць… Гэта болей не твой свет. Ён жыве па іншых, невытлумачальных законах, якія не дадзена зразумець, але можна адчуць душой. І калі ты чуеш рытмы Зоны, Яе пагрозу, ты — Сталкер". Раман С. Клачкова — нібы "тэст" для чытача: а ты — Сталкер? Я — магчыма: атмасфернасць, узноўленая аўтарам, падалася мне нібыта не зусім незнаёмай. Я нават ведаю цэлы "горад-прывід" з пакінутай індустрыяй — ва ўлюбёным часопісам "Планета" апакаліптычным стылі. Калі рэдакцыя замовіць, магла б даслаць матэрыял.



## ВЯРНУЦЬ ЗЯМЛЮ НА МЕСЦА



**Вадзім Папоў** — журналіст, пісьменнік-фантаст, які ў адносна сталым узросце (у 33 гады) пачаў вывучаць шаманскія тэхнікі. Што ж, заканамерны крок у жыцці па прынцыпе: "Жыву так, каб хацелася яшчэ" (з аўтарахарактарыстыкі пісьменніка). Вынікам захаплення шаманствам стала вострасюжэтная фантастычная кніга **"Шаман: Охотник за планетами"** — пра міжпланетныя войны. Герой — грамадзянін Яранскай рэспублікі Яр Грыднёў, адзін з магутных шаманаў космасу. Дакладней, былы грамадзянін, таму што планеты Яр, дзе ён выхаваны, і планеты Тэра (Terra), дзе ён нарадзіўся, больш не існуе. Яны зніклі ў выніку сусветнай катастрофы. Нягледзячы на тое, што афіцыйнае расследаванне засакрэчана і СМІ маўчаць, Яр не збіраецца сядзець склаўшы рукі. "Если планеты исчезают, кто-то должен ответить за это", — такая рухомая сіла яго намаганняў. Але якая будзе цана ісціны?..

## СПАДКАЕМЦЫ

Фантастычна-псіхалагічны трылер з этычным падтэкстам — так можна ахарактарызаваць раман **"Слишком глубоко" Джуд Уотсан**. Бабуля чатырнаццацігадовай Эмі завяшчала кожнаму з іх сям'і зрабіць выбар: забраць мільён долараў або далучыцца да авантурнага пошуку "трыццаці дзевяці ключоў", якія прынясуць уладу над усім светам. Эмі і яе малодшы брат абралі апошняе, тым больш, што ўпэўненыя: бабуля жадала б перамогі менавіта ім. Хаця раман Д. Уотсан маркіраваны "для сярэдняга школьнага ўзросту", ён будзе цікавы не толькі падлеткам, але і дарослым чытачам, якія часта ўжо не толькі па кнігах ведаюць, што значыць штодзённа жыць "як на вулкане", "у гонцы", у пастаянным напружанні маральных і фізічных сіл. Для такіх ёсць магчымасць "перадыхнуць" за чытаннем, а для падлеткаў — вырашыць, што найбольш каштоўна: мільён долараў, сусветнае панаванне або шчырыя, неазмрочаныя карысцю, падазронасцю, інтрыгамі адносіны з бацькамі і сваякамі.



## ВЯРТАННЕДЗЮНЫ

**"Дюна: Пауль" Брайана Герберта, Кевіна Андерсана.** "Дюна" — адзін з самых вядомых навукова-фантастычных раманаў XX стагоддзя. Яшчэ ў 1960-я гады Фрэнк Герберт (бацька Брайана Герберта) узняў шмат палітычных, экалагічных праблем, якія паўстануць з асаблівай вастрынёй толькі ў наш час, і, перадусім, праблему захавання ўласна чалавечай рэальнасці насуперак татальнай віртуалізацыі сусветнай прасторы. Свет Дзюны пазбаўлены машын, робатаў, камп'ютараў, іншай тэхнікі і ўгрунтаваны выключна на мысленчых здольнасцях людзей. Мэта, якая стаіць перад імі, — удасканаленне сваёй псіхалагічнай, эмацыянальнай, інтуітыўнай сферы дзеля таго, каб яна была вартая канкураваць з перманентна ўдасканальваемай машынерыяй. "Пол с Дюны" — непасрэдны працяг арыгінальнага рамана Фрэнка Герберта — распавядае пра спробы героя аб'яднаць асобныя сілы Імперыі Дзюна і пэўным чынам пераўсталяваць, удасканаліць яе лад.



# Калядныя цуды...

Зусім хутка ў Доме Масквы пры падтрымцы Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, а таксама Федэральнага агенцтва па друку і масавых камунікацыях Расійскай Федэрацыі будзе праходзіць VI Міжнародная канферэнцыя выдаўцоў, паліграфістаў і распаўсюджвальнікаў друку "Рынак друкаванай прадукцыі ва ўмовах трансфармацыі эканамічных адносін Беларусі, Расіі і Казахстана". У межах канферэнцыі ўпершыню плануецца правядзенне "Каляднага дабрачыннага балю кнігі ў Год кнігі", дзе вядучыя выдавецтвы краіны прадставяць лепшыя праекты, рэалізаваныя цягам гэтага года. Напярэдадні канферэнцыі і Балю калектыў "Кніжнага свету" вырашыў зазірнуць у будучыню і прадказаць магчымыя варыянты самых лепшых выданняў года ад вядучых дзяржаўных выдавецтваў. І пазнаёміць з імі нашых чытачоў.

**Марына ВЕСЯЛУХА,**
**Дзяніс МАРЦІНОВІЧ**

## ПОЛАЦКУ ПРЫСВЯЧАЕЦЦА




Выдавецтва **"Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі"** сёлета, як і штогод, вылучаецца яркімі і маштабнымі праектамі, смелымі дызайнерскімі рашэннямі, шырынёй задумак і таленавітасцю іх рэалізацыі. Так, цягам гэтага года на паліцах кнігарняў з'явіліся новыя кнігі шыкоўных серый "Энцыклапедыя рарытэтаў", "Сучаснае беларускае мастацтва. XXI стагоддзе", а таксама працяг дзіцячага праекта "Маленькі прафесар".

Але самі выдаўцы адной з найбольш значных падзей года называюць выхад альбома **"Полацк. 1150"**. Яго аб'ём — больш як 500 старонак. Тут у выглядзе тэкстаў і фотаздымкаў занатаваны мінуўшчына і сучаснасць самага старажытнага горада краіны. Альбом уключае тэксты, падрыхтаваныя супрацоўнікамі Інстытута гісторыі, Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя К. Крапівы, Інстытута мовы і літаратуры імя Я. Коласа і Я. Купалы НАН Беларусі, а таксама Полацкага нацыянальнага гісторыка-культурнага музея-запаведніка. Усе матэрыялы, што ўвайшлі ў выданне, па-мастацку апрацаваныя вядомым пісьменнікам, палачанінам Навумам Гальпяровічам, а фотаздымкі для праекта зробленыя вядучымі фотамастакамі з Мінска і Полацка. У сваіх тэкстах аўтары звяртаюць увагу на адметныя моманты мінуўшчыны Полацка, пачынаючы з першых пасяленцаў на берагах Палаты, утварэння Полацкага княства, знаходжання гэтых земель у складзе Вялікага Княства Літоўскага, становішча ў рэгіёне ў часы розных войнаў. Завяршаецца расповед ужо нашымі днямі. Падаюцца і спробы акрэсліць перспектывы развіцця горада як гістарычнага і турыстычнага цэнтра.

Перад намі не проста фотаальбом, у якім можна разглядаць здымкі, захапляцца іх прыгажосцю і ў думках шпацыраваць па старых вуліцах горада. Змест гэтай кнігі своеасаблівы. Тут можна прачытаць "Жыціе Еўфрасінні Полацкай", упершыню перакладзенае на сучасныя рускую і беларускую мовы даследчыкам даўняй літаратуры, доктарам філалагічных навук пісьменнікам Іванам Саверчанкам.

## 13 ТАМОЎ ЗА 16 ГАДОЎ




Выдавецкі дом **"Беларуская навука"** можна смела віншаваць з паспяховым завяршэннем надзвычай істотнага праекта. Гэта выданне **Збору твораў Максіма Танка ў 13 тамах**. Яго падрыхтоўкай з 1996 года займаліся супрацоўнікі Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі. Адметна тое, што апошні том Збору твораў пабачыў свет акурат да 100-гадовага юбілею класіка. Апроч вядомых твораў паэта тут ёсць і першапублікацыі: упершыню ўведзены ў тамы шматлікія архіўныя дакументы з фонду М. Танка ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва, іншых архіваў Польшчы, Літвы, Расіі.

Збор твораў знаёміць чытача з лістамі класіка, уведзены ў кніжнае выданне дзённікі Максіма Танка, пераклады, выступленні, артыкулы, якія раней друкаваліся ў перыёдыцы. Храналогія тамоў выглядае наступным чынам: тамы 1 — 6 — вершы, 7-ы том — паэмы, 8-ы — празаічныя творы, артыкулы, выступленні і інш., 9-ы — "Лісткі календара" і частка дзённікаў, 10-ы — дзённікі, 11-ы — пераклады, 12-ы — лісты і 13-ы, дададзены ўжо ў працэсе непасрэднай працы над матэрыялам, — артыкулы і выступленні.

Гэты Збор твораў, хоць яго яшчэ нельга назваць поўным, уключае шматлікія новыя матэрыялы, якія трапілі да тэксталагічнай групы з розных крыніц. Чарнавыя і белавыя аўтографы, машынапісы выступленняў, якія ніколі не публікаваліся і ўведзены ў Збор твораў упершыню; лісты з перапіскі Максіма Танка з жонкай (налічвае 150 лістоў, сярод якіх каля дзесяці былі надрукаваны раней, астатнія прадстаўлены ўпершыню). Унікальнай можна лічыць знаходку лістоў Максіма Танка да Уладзіміра Калесніка (у чатырох варыянтах: рукапісныя і машынапісныя з аўтарскімі праўкамі) і адказ У. Калесніка на заўвагі М. Танка. У цэлым жа сярод 844 лістоў каля 90 працэнтаў апублікавана ўпершыню.

## НАЙПЕРШ — МАСТАЦТВА




Зачараванымі Полацкам можна назваць і аўтараў кнігі **"Полацк. Гонар вякоў"** кандыдата гістарычных навук, дацэнта кафедры паліталогіі і гуманітарных дысцыплін Інстытута парламентарызму і прадпрымальніцтва Сяргея Тарасава і фотамастака Ігара Супрунёнка. Гэты яркі праект быў рэалізаваны сёлета ў выдавецтве **"Беларусь"**. У цэлым жа самае старое выдавецтва краіны застаецца верным сваім традыцыям і працягвае працу па выданні кніг, прысвечаных выяўленчаму мастацтву і жывапісу, а таксама па выпуску альбомаў, дзякуючы якім можна падарожнічаць па гарадах і знакавых мясцінах Беларусі. Таму ў ліку творчых дасягненняў калектыва можна назваць два "мастацкія" праекты.

Першы сёлета быў завершаны і ўжо атрымаў станоўчыя водгукі аматараў мастацтва, спецыялістаў, выкладчыкаў. Так, фінальным акордам праекта сталася выданне **"Гісторыя сусветнага мастацтва. Рускае і беларускае мастацтва XIX — пачатку XX стагоддзя"** — трэцяе з задуманай серыі даследаванняў, прысвечаных тэме развіцця сусветнага мастацтва. Аўтар усіх трох кніг — Барыс Лазука, кандыдат мастацтвазнаўства, дырэктар Музея старажытнабеларускай культуры Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя К. Крапівы НАН Беларусі. Выданні, у якіх аўтар яшчэ раней распавёў пра развіццё мастацтва ад старажытнасці да канца XVI ст. і пра асаблівасці станаўлення мастацкага светапогляду ў XVII і XVIII стагоддзях, мелі сапраўдны поспех. Барыс Андрэевіч стаў лаўрэатам спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь дзеячам культуры і мастацтва, а кнігі атрымалі дыплом II ступені конкурсу "Мастацтва кнігі-2012" у намінацыі "Арт-кніга".

Другі яркі праект сёлета толькі распачаўся, але ўжо гучна заявіў пра сябе. Гэта серыя кніг, што выдаюцца "Беларуссю" сумесна з Нацыянальным мастацкім музеем Рэспублікі Беларусь **"Славутыя мастакі Беларусі"**. Дырэктар музея Уладзімір Пракапцоў выступае ў якасці яе куратара. Першая кніга праекта, прысвечаная творчасці Івана Хруцкага, выйшла ў лютым і адразу ж засведчыла перспектыўнасць задумкі: тыраж разышоўся літаральна за месяц. Пасля былі кнігі, што прадстаўлялі творчасць Валенція Ваньковіча, Вітольда Бялыніцкага-Бірулі, Язэпа Драздовіча, і яны паўтарылі камерцыйны поспех першага выдання серыі. Надзея выдаўцоў апраўдалася, бо стаўка на добрую якасць ілюстрацый, зручны фармат, параўнальна нізкі кошт была зроблена правільна. Таму няма сумневаў, што і новыя кнігі серыі будуць цвёрда трымацца ў рэйтынгах самых папулярных выданняў.




## ДЗЕЦЯМ — ПРА КАРАЛЕЎСКІ ГОРАД




За гэты год на паліцах кнігарняў з'явілася шмат цікавых выданняў, што распавядаюць пра вытокі беларускай дзяржаўнасці, лёс нашага народа на працягу стагоддзяў, знакамітых беларусаў. Гэтыя кнігі разлічаны на рознага чытача — спецыяліста, навукоўца, турыста. Адметнае месца займаюць праекты выдавецтва **"Пачатковая школа"**, бо іх патэнцыяльныя чытачы — вучні пачатковых і сярэдніх класаў, якія толькі пачынаюць знаёмства з гісторыяй. Таму для аўтараў такіх кніг асабліва важна не напалохаць, не перагрузіць тэкст датамі і гістарычнымі фактамі, а гісторыю распавесці цікава, займальна, захапляльна.

Думаецца, што пісьменнікі і журналісты, якія працавалі над выданнямі ў межах адметнага праекта выдавецтва **"Гарады і гістарычныя мясціны Беларусі"**, з гэтай задачай справіліся на ўсе 100. Заканамерна, што серыя распачалася з самага старажытнага горада краіны — Полацка, затым аўтары звярнулі ўвагу на сталіцу дзяржавы — Мінск. Цяпер жа ў кнізе **"Гродна. На заходняй мяжы Айчыны"** Навум Гальпяровіч і Наталля Ваніна распавядаюць маленькім беларусам пра наш адзіны каралеўскі горад.

Гартаючы старонкі выдання, чытачы нібыта шпацыруюць па ўзбярэжжы Нёмана, заходзяць у Стары і Новы замкі, дзе наведваюць экспазіцыю Гродзенскага дзяржаўнага гісторыка-археалагічнага музея, а таксама абласную бібліятэку імя Я. Карскага, знаёмяцца з асобамі Стафана Баторыя, Вітаўта Вялікага, Давыда Гарадзенскага, іншых слаўных дзеячаў, якія зрабілі значны ўнёсак у развіццё горада. Кніга, як і астатнія выданні серыі, багата ілюстраваная, аформленая фотаздымкамі, выявамі археалагічных знаходак, а таксама дзіцячымі малюнкамі. Да таго ж, да кожнага раздзела тэксту пададзены пытанні, на якія чытачы павінны адказаць, каб паўтарыць і замацаваць у памяці звесткі пра гісторыю краю.

Такім чынам, гэтае выданне носіць адначасова і літаратурны, забаўляльны і ў нейкім сэнсе метадычны, вучэбны характар. Спядзяёмся, што ў хуткім часе "Пачатковая школа" парадуе маленькіх чытачоў, іх бацькоў і настаўнікаў захапляльнымі расповедамі пра іншыя гарады і гістарычныя мясціны нашага краю.

# ...і падарункі на Балі

## НАШ АДКАЗ «МИРУ ЖИВОТНЫХ»




Больш як чатыры дзесяцігоддзі на экранах тэлебачання з'яўляецца перадача "В мире животных". Яе вядучы Мікалай Драздоў расказвае ўжо не аднаму пакаленню слухачоў пра асаблівасці жывёльнага свету. Магчыма, праз пэўны час такую ж папулярнасць будзе мець серыя **"Рассказы Деда Природоведа"**, заснаваная ў 2007 годзе выдавецтвам **"Народная асвета"**. Менавіта тады з'явілася першая кніга — "Берёзовый алфавит". Яе аўтарамі сталі Галіна і Сяргей Трафімавы. Серыя, адрасаваная чытачам малодшага школьнага ўзросту, расказвае ім пра цуды і таямніцы прыроды. Паколькі яна хутка стала запатрабаванай сярод чытачоў, неўзабаве з'явіліся наступныя кнігі.

У 2008 годзе выйшлі два выданні: "Малышам о чудо-липучках" і "Про мешки с сюрпризами". У 2009-м — таксама два: "Ёлочкины секреты" і "Сколько тайн у дождика". У 2010-м — ужо чатыры. Дарэчы, заўважу, што асобныя кнігі серыі былі перавыдадзеныя. Мінулы год прынёс чытачам ажно 12 адпаведных выданняў!

Усе "Рассказы Деда Природоведа" напісаныя і аформленыя па адным і тым жа прынцыпе. Іх памер — ад 50 да 60 старонак. Кожная кніга пачынаецца аўтарскім уступам, у якім вядзецца гаворка пра актуальнасць выдання. Прычым робіцца спроба заінтрыгаваць чытачоў і падштурхнуць іх да знаёмства з аповедамі Дзеда. Арыгінальным чынам пабудаваны змест. Ён уяўляе сабой… пытанні, на якія можна знайсці адказы пры канцы кнігі.

Каб чытач меў лепшае ўяўленне пра серыю, звернемся да аднаго з сёлетніх выданняў, якое мае назву "Оранжевое диво". Тэма зразумелая з назвы: гаворка ідзе пра аранжавыя цуды прыроды. На першы погляд, такія выданні могуць быць карысныя толькі дзецям. Але як класічны гуманітарый, які цярпець не мог у школе біялогію, прызнаюся: са старонак "Оранжевого дива" даведаўся надзвычай шмат новага і цікавага.

Напрыклад, хто такія аранжавыя карлікі? (Зоркі, маса якіх менш за масу Сонца, а свяцільнасць звычайна не дасягае і паловы.) Хто глядзіць на свет скрозь аранжавыя акуляры? (Плашчаносная яшчарка, якая жыве ў Аўстраліі і на поўдні Новай Гвінеі. У сятчатцы яе вока шмат тлушчавых кропель, афарбаваных у аранжавы колер. Гэтыя кроплі дзейнічаюць як сэтрафільтры, і яшчарка глядзіць на свет нібы праз аранжавыя акуляры.) Чаму на ствалах дубоў з'яўляецца аранжавы налёт? (На ствалах пасялілася водарасць трэнцэполія.) І дзе цячэ Аранжавая рака? (У паўднёвай Афрыцы.) Таксама на старонках кнігі чытачы могуць даведацца пра таямніцы грэйпфрута і морквы, апельсіна, хурмы і соку чыстацела. А ў завяршэнне Дзед Прыродазнаўца прапануе сваім чытачам гульню, у якой зашыфраваны назвы пяці герояў.

Калі аўтары раскрываюць столькі сакрэтаў на старонках толькі адной кнігі, можна здагадвацца, якія цуды чакаюць чытачоў у іншых выданнях серыі.

## ДЭТЭКТЫЎ? ТРЫЛЕР? КАЗКА!




Бадай, у кожнага з чытачоў засталося з часоў дзяцінства некалькі фраз, якія выклікаюць устойлівую алергію. Напрыклад: "Ты вучыў урокі?", "Пакажы дзённік!" або "Мне тэлефанавала твой класны кіраўнік…" Але ў мяне такую рэакцыю доўгі час выклікала словазлучэнне "народная казка". Справа ў тым, што курс літаратуры ледзь не ў кожным годзе пачынаўся з вывучэння вуснай народнай творчасці. І калі кожны верасень даводзілася чуць пра творы, што перадаваліся з пакалення ў пакаленне…

Але прайшоў час. Занудныя фармулёўкі падручнікаў забыліся, а народныя казкі пачалі ўспрымацца як натуральная частка айчыннай культуры. Прыемна, што такога ж стаўлення да народных казак прытрымліваецца і грамадскасць. Сёлета Беларускі саюз жанчын і Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь пры падтрымцы Дзіцячага Фонду ААН (ЮНІСЭФ) у Беларусі задумалі акцыю **"Маміна казка"**. У яе рамках кожны выхаванец дзіцячага дома мусіў атрымаць у падарунак адпаведную кнігу (складальнік — пісьменнік, намеснік дырэктара РВУ "Выдавецкі дом «Звязда»" — галоўны рэдактар часопіса "Нёман" Алесь Бадак), што выйшла ў **РВУ "Літаратура і мастацтва"**.

У зборнік увайшло больш як 20 вядомых беларускіх і рускіх народных казак, на якіх вырасла не адно пакаленне дзяцей. З беларускіх казак гэта "Зайкава хата", "Каток — залаты лабок", "Не сілай, дык розумам", "Пшанічны каласок", "З рога ўсяго многа", "Сынок-з-кулачок"… З рускіх — "Курочка Ряба", "Морозко", "Пастушья дудочка", "Гуси-лебеди", "Василиса Прекрасная"…

Калі глядзець на іх з вышыні ўзросту, кожны твор можа ўспрымацца як сучасны, актуальны. Напрыклад, возьмем сюжэт казкі "Гуси-лебеди". Згодна з ім, бацька і маці з'ехалі на кірмаш і пакінулі дома маленькага. Яго старэйшая сястра, якой даручылі сачыць за братам, загулялася і пакінула яго аднаго. Малога знеслі гусі-лебедзі. Сястра накіроўваецца ў пагоню…

Такім чынам, што перад намі? Дэтэктыў? (Першапачаткова мы дакладна не ведаем, ці ў Бабы Ягі знаходзіцца малы?) Трылер? Але перш за ўсё, выхаваўчы твор. Бо казка вучыць дзяцей слухацца старэйшых (калі б дзяўчынка сачыла за братам, трагедыі б не адбылося), не капрызіць (як толькі гераіня дапамагае печцы, рэчцы і яблыньцы, у яе ўсё пачынае атрымлівацца) і шанаваць прыроду (менавіта яе сілы ўступаюцца за дзяцей).

Акцыя "Маміна казка" пачалася ў жніўні ў Радашковіцкім дзіцячым доме. Другое мерапрыемства адбылося ў кастрычніку ў Бабруйскай школе-інтэрнаце для дзяцей-сірот і дзяцей, што засталіся без апекі бацькоў. Трэцяе — у лістападзе ў Ждановіцкім спецыяльным дашкольным дзіцячым доме. Зрэшты, на гэтым акцыя не заканчваецца. Яна будзе працягвацца да таго часу, пакуль у ёй не возьмуць удзел усе дзіцячыя дамы Беларусі.

## ГОРАД — ГЕРОЙ ДАСЛЕДАВАННЯ?




Якая тэма можа стаць асновай навуковага даследавання? Біяграфія вядомай асобы (напрыклад, Тадэвуша Касцюшкі). З'ява, што паўплывала на лёс краіны (кшталту калектывізацыі). Развіццё пэўнай галіны прамысловасці за выбраны перыяд (напрыклад, цяжкой прамысловасці пасля Вялікай Айчыннай вайны)…

Але ці можна ў межах аднаго выдання расказаць пра гісторыю… аднаго горада? Раней у лепшым выпадку аб'ектам даследавання станавіўся населены пункт за пэўны непрацяглы перыяд. Аднак выдавецтва "Вышэйшая школа" даказала: усё немагчымае — магчыма.

Ідэя стварыць даследаванне, прысвечанае гісторыі Пінска, з'явілася ў навукоўцаў у 2007 годзе падчас святкавання 910-годдзя горада. Ініцыятыву падтрымала кіраўніцтва гарвыканкама, якое дапамагло з фінансаваннем праекта і… аб'явіла на яго тэндар.

Тут варта ўдакладніць, што ў **"Вышэйшай школы"** быў назапашаны значны вопыт працы з Піншчынай. Пачынаючы з 2002 года ў выдавецтве выйшла некалькі альбомаў ("Пінск", "Пінск — чароўная казка Палесся", "Палессе. Ад Буга да Убарці", "Пінск і яго ваколіцы"), прысвечаных гэтаму маляўнічаму кутку Беларусі. У выніку "Вышэйшая школа"змагла прад'явіць найбольш важкія аргументы і выйграць тэндар.

Вынікам супольнай працы выдавецтва і калектыву Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі стала даследаванне **"Гісторыя Пінска ад старажытнасці да сучаснасці"**, прымеркаванае да 915-годдзя першай згадкі горада ў летапісе.

У даследаванні, што мае грыф НАН, падрабязна апісана гісторыя горада. Упершыню на велізарным дакументальным матэрыяле са шматлікіх айчынных і замежных архіваў даследуецца гістарычнае аблічча горада на Піне. У кнізе знайшлі адлюстраванне як новыя факты, звязаныя з археалогіяй горада (у Пінску рэгулярна ладзяцца раскопкі), так і планіроўка, архітэктура, структура кіравання, паўсядзённае жыццё насельніцтва на розных этапах гісторыі.

Дагэтуль аналагічнае выданне было толькі пра Мінск. Айчынныя гісторыкі ўпэўнены, што такія кнігі павінны быць прысвечаны кожнаму гораду. Але пакуль яны ёсць толькі ў дзвюх сталіцах: Беларусі і Палесся. Чакаем працягу?

## ПАЎЛЕНКАЎ. ГОРКІ. «МАСТАЦКАЯ».




Калі спытаць у чытачоў са стажам, якія асацыяцыі выклікае ў іх словазлучэнне "Жыццё знакамітых людзей", можна пачуць як мінімум два адказы. Па-першае, гэта серыя біяграфічных і мастацка-біяграфічных выданняў, якія выпускаліся ў дарэвалюцыйнай Расіі выдавецтвам Фларэнція Паўленкава (усяго выйшла каля 200 кніг). Па-другое, гэта аднайменная серыя, заснаваная ў 1933 годзе па ініцыятыве Максіма Горкага. ЖЗЛ стала адной з самых знакамітых серый савецкага часу.

Але ў айчынных чытачоў цяпер ёсць свая асацыяцыя з ЖЗЛ. Толькі абрэвіятура павялічана на адну літару. Гаворка пра серыю **"Жыццё знакамітых людзей Беларусі", што выходзіць у выдавецтве "Мастацкая літаратура"** з 2004 года. З таго часу ў ЖЗЛБ выйшла больш як дзясятак кніг, вельмі розных па будове, памеры, канцэпцыі ўкладання.

Аналіз серыі дазваляе вылучыць у ёй некалькі падыходаў. Першы з іх увасоблены ў томе, дзе сабраныя ўспаміны пра героя кнігі, артыкулы пра яго дзейнасць, прыводзяцца архіўныя дакументы (дарэчы, часцей за ўсё падобныя выданні пра пісьменнікаў). Менавіта па такім прынцыпе "пабудаваныя" кнігі, прысвечаныя У. Караткевічу, І. Шамякіну, М. Танку, М. Багдановічу, У. Мулявіну…

У межах другога падыходу пад вокладкай серыі друкуюцца рукапісы, створаныя некалькімі аўтарамі. Або самім героем (успаміны сцэнографа Я. Чамадурава і алімпійскага чэмпіёна А. Мядзведзя), або даследчыкамі яго творчасці (тэатральна-дэтэктыўная гісторыя пра акцёра Р. Янкоўскага, напісаная Т. Арловай і А. Карэліным; кніга пра мастака Л. Шчамялёва — аўтар Б. Крэпак).

Нарэшце, трэці падыход уяўляе сабой змяшаны варыянт, у якім могуць спалучацца ўспаміны саміх герояў, даследаванні ўкладальніка кнігі і ўспаміны сучаснікаў. Ён прадстаўлены ў выданнях пра дырыжора М. Фінберга, кінарэжысёра М. Пташука і пісьменніка М. Чаргінца.

На маю думку, адна з галоўных падзей гэтага года — з'яўленне ў серыі кнігі "Янка Купала. Мне сняцца сны аб Беларусі" (укладанне Г. Шаблінскай). 700-старонкавы фаліянт змяшчае як дастаткова вядомыя тэксты, так і матэрыялы, што не перавыдаваліся дзесяцігоддзямі. А некаторыя (як тры раздзелы з манаграфіі першага біёграфа паэта Льва Клейнбарта) наогул друкуюцца ўпершыню.

Выданню ўласцівы рысы, характэрныя для лепшых кніг серыі: яно раскрывае перад намі невядомыя старонкі з жыцця Янкі Купалы і сведчыць пра ўсю веліч яго таленту.

Маладзічок

# «Рукі цягнуцца да звычайнай кнігі…»

Не паверыце — гэта кажуць падлеткі. Тыя, каго мы часцей за ўсё ўяўляем безнадзейна зацягнутымі ў віртуальную прастору. Вядома, яны чытаюць і электронныя кнігі, але прызнаюцца ў любові Кнізе сапраўднай, жывой. Такія прызнанні — справа ўсё ж інтымная! — прагучалі дзякуючы газеце "Переходный возраст" і праекту "О! Да — Книге".

**Таццяна СТУДЗЕНКА**

## ЧЫТАЕМ, СТВАРАЕМ, ГУЛЯЕМ — ЖЫВЁМ!..

Гэта творчы конкурс, на які з 1 лютага падлеткі дасылалі "оды" высакароднай ролі кнігі. Мэты акцыі як нельга больш актуальныя: папулярызацыя кнігі сярод юных чытачоў, стымуляванне іх цікавасці да лепшых твораў сусветнай і айчыннай літаратуры, далучэнне школьнай моладзі да творчасці. Я, дарэчы, звярнула ўвагу на тое, што конкурсныя работы прапаноўвалася дасылаць разам з настаўнікам ("кіраўніком"), — вядома ж, не ў тым сэнсе, каб пісаць пад яго дыктоўку, але каб вучань меў магчымасць непасрэднага кантакту са старэйшым сябрам, раздзяляўшы з ім цёплае пачуццё любові і ўдзячнасці да Кнігі.

Зрэшты, немагчыма выхаваць любоў да чытання без настаўніцтва — хто б ім ні быў, бацькі ці школьныя ўрокі літаратуры. Кранула прызнанне адной дзяўчынкі ў тым, як яна знайшла сябра і суразмоўцу ў асобе… Максіма Багдановіча. Гэта адбылося дзякуючы пранікнёнаму чытанню настаўніцай радкоў паэта — чытанню, узнёсламу настолькі, што дзяўчынка раптам "выплыла" на паверхню са сваёй звычайнай абыякавасці да літаратуры. Былі прызнанні і іншым аўтарам ды кнігам: Дж. К. Сэлінджэру, В. Каверыну, нават прызнанне А. С. Грыбаедаву (наконт шчырасці апошняга я, праўда, яшчэ не вызначылася). Некаторыя, праўда, аддаюць перавагу аўтарам кшталту Я. Вішнеўскага і П. Каэльа…

Амаль усе ўдзельнікі трывала ўсведамляюць каштоўнасць чытання рэальнай кнігі, той, якая пахне тыпаграфскай фарбай — пакуль новая, а калі не — то захоўвае гісторыю чытання папяровымі рукамі. І ты чытаеш яе не адзін. Зрэшты, той, хто чытае, — ніколі не адзін. Хтосьці адзначаў непаўторную аўру Бібліятэкі, своеасаблівага Сусвету, куды пры жаданні магчыма ўвайсці, але варта памятаць, што гэта — як і лёс — назаўжды… Хтосьці ўзгадаў непаўторнае дзіцячае спатканне з кнігай, агучанай родным голасам матулі: такое чытанне — сімвал любові і клопату роднага чалавека, нібы залог непарыўнай сувязі з ім… Хіба магчыма параўнаць з гэтым заглыбленасць маленькага неспрактыкаванага чытача ў прыгоды незразумелых істот "кіслотных фарбаў"? Досыць мудрыя разважанні юных удзельнікаў праекта, ці не так? Нездарма яны сябруюць з літаратурай.



Шкада, што іншыя чытачы выдання пакінулі не шмат каментарыяў на сайце, дзе прэзентаваныя лепшыя тэксты. Хіба ўсе аматары кнігі выказаліся на конкурсе? Тады можна абменьвацца чытацкімі ўражаннямі — мяркую, што і такая "мэта" перадумоўлівалася арганізатарамі. Няхай бы падтрымалі адзін другога і самі ўдзельнікі. Можа, праект атрымае працяг у раздзеле накшталт "Чытацкага клуба" або "Чытацкай гасцёўні"?..

Пераможцы з ліку прадстаўленых у газеце і на сайце фіналістаў вызначацца з дня на дзень.

## ВАНДРОЎНІКІ

"Пачытаем!" — акцыя пад такой назвай, распачатая рэдакцыяй "Переходного возраста" яшчэ напярэдадні Года кнігі, адразу была падхопленая ўстановамі адукацыі Мінска, якія размясцілі на сваіх сайтах адпаведныя прэс-рэлізы. У аснове акцыі — папулярная ў свеце гульня "Буккросінг" (Bookcrossing), кніжны кругазварот. "Кругазварот" ажыццяўляецца такім чынам: нехта пакідае ў выпадковым месцы кнігу, зарэгістраваную на спецыяльным сайце, — кнігу, якую ён прачытаў. Той, хто яе знайшоў, таксама чытае, пакідае заметку на сайце і зноў адпраўляе кнігу ў шлях.

Дзякуючы такому кругазвароту свет у перспектыве здольны ператварыцца ў адну вялізную бібліятэку.

"Флэшмоб" (іншая назва кругазвароту кнігі), распачаты газетай "Переходны ўзрост", адрозніваецца ад "класічнай" гульні тым, што сабраныя дабрачынна кнігі перадаюцца юнкорамі выдання ў дзіцячыя дамы сямейнага тыпу. Сабрана больш як тры тысячы кніг і ўжо дваццаць дзіцячых дамоў маюць уласныя бібліятэчкі. Да таго ж, "рытуал" перадачы кніг суправаджаецца цэлым святам: "хвілінкі чытання", літаратурныя віктарыны, творчыя сустрэчы, чытацкае абмеркаванне, знаёмства юных чытачоў з навінкамі беларускіх выдавецтваў. Вы яшчэ не ўпэўненыя ў тым, што кнігу можна чытаць з сябрамі, весела, святочна? Рабіцеся буккросерамі "Пераходнага ўзросту"! Не хавайце і не "кансервуйце" кнігу — яна павінна жыць.

# Пухавіччына — коласаўскае Болдзіна!




Апавяданні Браніслава Зубкоўскага "Сцяжынкамі Якуба Коласа", што нядаўна выйшлі ў РВУ "Літаратура і Мастацтва", не могуць не выклікаць супярэчлівую рэакцыю. Чаму? Загадзя прадбачу рэакцыю асобных чытачоў сталага ўзросту. У іх кнігі для маленькіх дзяцей, што прысвечаны пэўнай вядомай асобе, яшчэ з савецкіх часоў асацыіруюцца з правільнасцю. Маўляў, няўжо нельга паказаць сапраўднага, жывога Коласа, а не забранзавелага класіка?

Але ўсё не так проста, як здаецца на першы погляд. Перш за ўсё, Якуб Колас бясспрэчна з'яўляецца адной з фігур, якія яднаюць беларускую нацыю. Яго геніяльнасць прызнаецца ўсімі — і прыхільнікамі, і крытыкамі беларускай літаратуры. А вось што датычыць аўдыторыі… Напэўна, усё ж такі рана адразу паглыбляць малодшых і сярэдніх школьнікаў у трагічны і супярэчлівы свет беларускай гісторыі. А вось закласці ім з дзяцінства любоў да Коласа проста неабходна.

Браніслаў Зубкоўскі запрашае чытачоў у вандроўку па Пухавіччыне. Чым выкліканы такі геаграфічны выбар? Няўжо толькі добрым веданнем краю, у якім аўтар доўгія гады працаваў настаўнікам? Але ўсё куды прасцей. Як піша ў прадмове да кнігі пісьменнік Алесь Карлюкевіч, "Пухавіччына — тая старонка, якая моцна натхняла народнага паэта Беларусі Якуба Коласа. Так склалася, што пачынаючы з першай паловы 30-х гадоў XX ст., ён па-сапраўднаму парадніўся з гэтым краем. Станцыя Талька, вёскі Загібелька, Вусце, Беразянка, Балачанка, Падбярэжжа сталі своеасаблівай з'явай у жыцці і творчасці пісьменніка".

Калі параўнаць Коласа з Пушкіным, дык для Песняра Пухавіччына стала своеасаблівым Болдзінам. Бо, як піша А. Карлюкевіч, "прыязджаючы штолета з сям'ёй у якую-небудзь з вёсак, Канстанцін Міхайлавіч не толькі адпачываў, купаўся, вадзіў рыбу ў рэчках Балачанка, Талька, Свіслач, хадзіў у лес за баравікамі, падасінавікамі, рыжыкамі, але і шмат пісаў".

Вы не супраць перанесціся на машыне часу на Пухавіччыну 1930-х гадоў? Прыемнага падарожжа!

**Дзяніс МАРЦІНОВІЧ**

# Каб неба не маркоцілася

Увосень, калі ідуць частыя і доўгія дажджы, калі імжа затушоўвае абрысы краявідаў, калі перад зімовым заміраннем усё жывое на зямлі ахоплівае шчымлівы неспакой, часта кажуць: гэта неба маркоціцца. Каб пазбавіцца такога непрыемнага стану і вярнуць добры настрой, варта выпіць кубак гарачай гарбаты, сесці каля цёплай батарэі і… згадаць іншыя поры года — яркую вясну, сонечнае лета, шчодры пачатак восені.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

А дапамогуць у гэтым кнігі Андрэя Міраслававіча "Вясна", "Лета", "Восень", што пабачылі свет у РВУ "Літаратура і Мастацтва" ў межах выдавецкай серыі "Поры года". Думаецца, гэты праект прыйдзецца даспадобы як самім маленькім чытачам, так і іх бацькам, выхавальнікам, настаўнікам.

Апроч прыгожых малюнкаў, вершаў класікаў, прысвечаных кожнай з пор года, у гэтых маленечкіх кніжачках можна знайсці шмат цікавай і карыснай інфармацыі. Так, **"Вясна"** распавядзе, чаму Бярэзіна з'яўляецца ракой-сімвалам Беларусі. І не толькі таму, што на яе беразе адбылася лёсавызначальная бітва ў Айчыннай вайне 1812 года. Па тэрыторыі нашай краіны працякае некалькі вялікіх рэк, чыя працягласць большая як 500 кіламетраў. Гэта Вілія, Сож, Дняпро, Заходняя Дзвіна, Нёман, Прыпяць. Але ўсе яны пачынаюць ці заканчваюць свой шлях за межамі краіны. Толькі Бярэзіна цалкам належыць Беларусі.

Адкажа кніга і на пытанне, чаму назва трэцяга месяца вясны *травень* з цягам часу замянілася на *май*. А адбылося ўсё вось чаму: доўгі час на беларускіх землях месяц меў назву *травень*. Гэтая старажытнаславянская назва дакладна ілюструе стан прыроды, буйны росквіт раслін. Аднак на нашай тэрыторыі паступова адбывалася пашырэнне назвы *май* — напачатку праз касцёл, дзе імша вялася на польскай мове (праз набажэнствы і канцылярскія паперы ўваходзіла ў побыт), а з канца XVIII да пачатку XX ст., калі беларускія землі знаходзіліся ў складзе Расійскай імперыі, — праз афіцыйныя дакументы і дзяржаўную службу.

**"Лета"** таксама дае адказы на многія пытанні. Чаму навальнічныя ночы называюцца рабінавымі ці вераб'інымі? Андрэй Міраслававіч тлумачыць усё проста: паводле павер'яў, у другой палове лета ноччу адбываецца змаганне прыродных стыхій з рознай нечысцю. Нячысцікі збіраюцца з цёмных зямных закуткоў, з пекла на свае гадавое гульбішча, каб павесяліцца і застрашыць люд. Тады ўсю ноч ідзе дождж, бліскаюць маланкі, жахліва грыміць, віхурыць, без перапынку неба асвятляюць яркія бліскавіцы. Рабіна ж у народзе лічыцца дрэвам, якое адганяе чарцей і злых духаў. А вераб'інымі такія ночы называюць, бо гэтыя птушкі больш трывалыя, кажуць нават, што яны маюць сувязь з ліхімі сіламі.




Распавядае аўтар і правілы паводзін падчас навальніцы (пагадзіцеся, карысная інфармацыя для настаўнікаў). А таксама пра вясёлку. Калісьці людзі лічылі, што вясёлка злучае зямлю з небам, нібы дарога да раю. Некаторыя прымалі вясёлку за лук Перуна, з якога ён пасылае маланкі на зямлю. Іншыя меркавалі, што па вясёлцы вада зноў паступае на неба, у аблокі ці перапампоўваецца з аднаго месца ў другое.

Кніга **"Восень"**, адпаведна, распавядае пра адметнасці асенніх месяцаў, разгадвае іх загадкі і раскрывае таямніцы.

Зусім хутка ў свае правы ўступіць наступная пара года — зіма, таму, як абяцаюць выдаўцы, кніга з такой назвай не прымусіць сябе чакаць.

# Трэцяе вока

## РЭСПУБЛІКАНСКАЯ ВЫСТАЎКА “ФЭСТ КНІГІ” Ў ПАЛАЦЫ МАСТАЦТВА

У сучасным свеце ўсеагульнага змяшэння выяўленчы сінтэз мастацтва кніжнай ілюстрацыі — найбольш арганічны. Змест кнігі вымагае ўяўлення, уяўленне — увасаблення, увасабленне — гранічна багатай фантазіі, якая можа рэалізавацца ў множстве тэхнік і множстве варыянтаў іх спалучэння. У апошняе дзесяцігоддзе — усё часцей у змешанай, “аўтарскай”, тэхніцы.
На выстаўцы сабраныя розныя па жанрах, тэмах, аўтарстве, нацыянальнай прыналежнасці кнігі і ілюстрацыі да іх. Побач з Коласам, зразумела, Купала, але побач з Купалам і Коласам — Эразм Ратэрдамскі, Э. Т. А. Гофман, “Уладар пярсцёнкаў” і шмат чаго яшчэ. Уявіце сабе гэты карагод — і вас таксама падхопіць вір фарбаў, рытмаў, сэнсаў.



*Вячаслаў Капынец. З серыі ілюстрацый да кнігі Д. Р. Р. Толкіна “Уладар пярсцёнкаў”.*

### СПАЧАТКУ БЫЛА КНІГА...

Усё часцей можна чуць пра крызіс феномена кнігі. Яго “цісне” зрокавая культура, чытач лянуецца самастойна чытацьуяўляць, а той, хто яшчэ чытаў бы, сам прыціснуты напружаным рэгламентам жыцця. Тым часам, мастацтва кніжнай выявы — у лепшым сэнсе медыум, пасрэднік, які здольны выканаць місію ўзаемапаразумення, зацікаўленага суразмоўніцтва (у ідэале — суаўтарства) паміж пісьменнікам і чытачом. Магчыма, гэта і ёсць той самы цуд, які ўрэшце выратуе чытача — дзіцячага і дарослага — ад пасіўнай заглыбленасці ў гатовыя, рафінаваныя сэнсы “тэлеілюстрацый”. Таленавіта ілюстраваная кніга надасць фантазіі, уяўлення, аптымізму, увогуле прагі глядзець і думаць, глядзець і спрачацца — неабавязкова ж, што бачанне зместу кнігі мастаком і чытачом павінна супадаць.



*Павел Татарнікаў. Ілюстрацыя да кітайскага міфа “Нябесны імператар і дзесяць сонцаў”.*

Зрэшты, адданы, вытанчаны, сапраўды адукаваны чытачглядач у душы таксама прагне — і “ангажавання” чымсьці, што пераўзыходзіць яго звыклы, спецыялізаваны свет, і камунікацыі з “да сябе падобнымі”, такімі ж духоўна вытанчанымі асобамі — у дадзеным выпадку з мастакамі. Таго ж прагнуць і мастакі, і, зразумела, пісьменнікі, творы якіх мастакі ілюструюць. Татальнае кола цікавасці і зацікаўленасці — ці не крызіс гэтых рэчаў спараджае ўвогуле ўсякі крызіс?

Памятаеце героя, які набыў адасоблены дом дзесьці у парыжскім прадмесці, каб там без перашкод, у адзіноце атрымліваць насалоду ад заглыблення ў Прыгажосць самага рознага кшталту? Калі не памятаеце, паверце на слова — быў такі знакаміты раман і не менш знакаміты герой. Амаль першае, што ён пачаў рабіць у сваёй дэкадэнцкай роспачы ад масавай безгустоўнасці і бездухоўнасці, гэта... афармляць “самвыдат”. Кнігі або вершы, якія яму асабліва падабаліся, ён друкаваў на заказ або перапісваў сам на шыкоўнай веленевай паперы, рупліва падбіраў шрыфты, малюнкі, вокладку, потым спецыяльна прызначаў ім месца ў сваім “доме-музеі”. Такім чынам ён “ратаваў” улюбёныя творы ад пошасці ўсярэдненага густу і ад вульгарызацыі “масавага” выдання. Але ж ёсць больш пачэсны шлях — падзяліцца з блізкім разуменнем і густам. Такі шлях абіраюць мастакі-ілюстратары.

### УВАСОБЛЕНАЯ ГІСТОРЫЯ

Гістарычнасці на выстаўцы, сапраўды, шмат — і не толькі ў малюнках. Так, гістарычная тэма вельмі папулярная ў мастакоўілюстратараў: кніга “Гедымін — кароль Літвы і Русі” А. Карцэвіча, аздобленая вытанчаным афармленнем Ігара Гардзіёнка, выявы Уладзіміра Даўгяллы да кнігі А. Бензерука “Мячы Грунвальда”. Я б аднесла да гістарычнай тэмы і раманэсэ А. Лойкі “Як агонь — як вада” пра жыццё Янкі Купалы, у малюнках Мікалая Селешчука: гісторыя айчыннай літаратуры — частка нацыянальнай гісторыі. Мяркую, не будзе недаравальнай вольнасцю разглядаць у гістарычным ракурсе выданне паэтычнага зборніка Францішкі Уршулі Радзівіл — праўда, вершы нясвіжскай княгіні створаныя нібы сёння. Ілюстрацыі мастачкі Ганны Ціханавай (“золата на чорным”) вельмі пасуюць гэтай інтымнай лірыцы, вытанчанай настолькі, што яна можа лічыцца адпаведнасцю класічнага, шылераўскага, паняцця эратызму, зразуметага як духоўнасць фізічнага кахання.



*Раман Сустаў. “Майстра лілеі”. Ілюстрацыя да кнігі А. Вотсуса “Вогненная лілея”.*

На пачэсным месцы таксама казкі. Усе мастакі былі дзецьмі, большасць мае дзяцей і большасць гатовая паставіць сябе на месца дзяцей, якія, чытаючы (слухаючы) казку, можа, у першы раз чуюць пра адпаведныя “рэаліі”. Зразумела, гледзячы на мастацкае аздабленне казак, я імкнулася выклікаць у сябе дзіцячае ўспрыманне. Можа, тут больш дарэчы быў бы псіхалагічна-метадычны нарыс, але ж нельга быць усёведам. Рызыкну тады выказацца за пэўнае сучаснае дзіця. *“Мне падабаюцца малюнкі выразныя і простыя* (дарослы сказаў бы — пластычнарэалістычныя), *такія, дзе можна разглядзець героя, яго твар, адзенне, пазнаць рысачкі характару, а таксама яго дом ці што там яго акаляе* (“мастацкую прастору”). *Я маленькі яшчэ, але ўважлівы чытач, таму люблю, каб малявалі героя такім, які ён у кнізе* (дарма, што камусьці з дарослых гэта падасца “лубком” або праявай кансерватызму). *Люблю, каб былі намаляваныя цэлыя гісторыі. Вось чаму мне падабаюцца “Мушка-зелянушка” Валянціны Сідаравай, “Вужыная каралева” Валерыя Славука, а яшчэ “Прынцэса ў падземным царстве” Паўла Татарнікава.*

Падзякуем маленькаму чытачу, а ад сябе падзялюся ўражаннем ад ілюстрацый Мікалая Казлова да казак Гофмана. Можа, каб у свой час маё выданне іх было аздобленае не горш, я б не пакутавала з-за неабходнасці чытаць аўтара, надзвычай адмысловага ў сваім неверагодна саркастычным успрыманні соцыуму. Вельмі слушным падалося каляровае графічнае ўвасабленне самаўлюбёных філістараў на “паленым” фоне — перафразуючы слыннага майстра В. Фаворскага, “паветра паленай паперы” нібы наканоўвае гэтым псеўдагероям лёс ахвяр Апраметнай. Кранулі таксама малюнкі Ю. Алісевіча да кнігі В. Кастручына “Оленье спасибо”, хутчэй за ўсё таму, што я неабыякавая да каляровай адэкватнасці выяў, а ў дадзеным выпадку навідавоку іх адпаведнасць зялёна-блакітнай шэрані рэгіёна Паўночнай Расіі.

Творы класічнай беларускай літаратуры — яшчэ адзін гістарычны зрэз выстаўкі. Якуб Колас, Янка Купала, Максім Багдановіч, Уладзімір Караткевіч — іх мастацкі свет адноўлены ў такой жа непаўторнай манеры кожнага з мастакоў (Пятра Драчова, Анатоля Волкава, Віктара Александровіча, Міхаіла Басалыгі, Юрыя Хілько, Арлена Кашкурэвіча). Выявы П. Драчова да “Чорнага замка Альшанскага” сталіся прыемнай нечаканасцю — ізноў-такі ў мяне было іншае выданне. Рэдка сустрэнеш у кнізе сапраўдныя жывапісныя палотны. Аформленыя чатырохсторчатымі ўклейкамі, яны ўрачыста прапускаюць чытача ў загадкавамістычны свет Замка.



*Юрый Алісевіч. Ілюстрацыя да кнігі В. Кастручына “Оленье спасибо”.*

Мастакоўская манера, дарэчы, непарыўна звязаная не толькі з індывідуальнасцю творцы, але і з часам творчасці. Выстаўка дае ўнікальную магчымасць прасачыць развіццё айчыннай ілюстрацыі на працягу апошніх пяці дзесяцігоддзяў. Дзякуй арганізатарам, што яны не сталі педантычна пільнавацца храналогіі, размясціўшы А. Кашкурэвіча — першым, М. Басалыгу — другім і г. д., а перад усімі, ля самага парога — першадрукара Ф. Скарыны. Усе разумеюць і так, што аўтары прэзентаваных прац — удзячныя спадкаемцы асветніцкай традыцыі Ф. Скарыны. Глядач, нават не прафесійны, сам вызначыць лаканічную суровасць выяў 1960-х гг., пачатку станаўлення беларускага мастацтва кнігі, калі прыходзяць першыя выпускнікі аддзялення графікі Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута. Наведвальнік убачыць таксама больш вольны і разнастайны падыход ілюстравання ў 1970-я гг., заўважыць відавочны падчас 1980-х — пачатку 1990-х гг. уздым настрою нацыянальнага адраджэння, увасоблены з яшчэ большым разняволеннем мастацкай фантазіі.

### ТРЭЦЯЕ ТЫСЯЧАГОДДЗЕ

Перыяд 1980-х — сярэдзіны 1990-х гг. аднадушна прызнаецца найвышэйшым росквітам беларускай кніжнай ілюстрацыі. Падалося парадаксальным, што, адзначаючы гэты росквіт, аўтарытэтны спецыяліст у адпаведнай галіне М. Баразна характарызуе сярэдзіну 1990-х і наступныя гады як немінучы заняпад ілюстравання (“Беларуская кніжная графіка 1960-х — 1990-х гадоў”, 2001). Парушылася, мауляў, выдавецкая практыка савецкіх часоў з яе грунтоўным падыходам доўгатэрміновага планавання, найноўшыя выдавецтвы прагнуць хутчэй выдаць “прадукт”, таму не зацікаўленыя ў яго эстэтычным аздабленні і г. д. Але што гэта? На выстаўцы “ФЭСТ кнігі” мы бачым цэлы каскад арыгінальных прац, датаваных сярэдзінай 1990-х! Бачым і тую самую, доўгатэрмінова спланаваную, вытанчана аздобленую кніжную “прадукцыю” айчынных выдавецтваў. Цікава, што і ў наступнай грунтоўнай працы “Мастацтва кнігі Беларусі ХХ стагоддзя” (2007) — дарэчы, таксама прэзентаванай на выстаўцы, — аўтар нечакана абрывае тэарэтычны агляд на 1980-х гг., пакідаючы, праўда, месца больш познім артэфактам у ілюстрацыйным раздзеле. Нічым іншым, акрамя кансерватыўнага рыгарызму, нельга патлумачыць такую “канцэпцыю”, бо ў 2007 г. відавочныя былі менш “савецкія”, але не менш грунтоўныя і эфектыўныя практыкі кнігавыдання. Так, менш “масавыя”, але ж размова вялася не пра заняпад тыражоў!

Ці маглі раптам у 1990-я гг. знікнуць мастакі, чыё станаўленне ці росквіт прыйшліся якраз на самабытныя 1980-я? Ці маглі “заняпасці” яшчэ поўныя сіл патрыярхі кніжнай ілюстрацыі? Ці мог раптам спасцігнуць крызіс вучняў гэтых майстроў? Не кажучы пра тое, што цяжкасці не нішчаць мастацтва, але загартоўваюць.

Цяпер, на пачатку 2000-х гг., стаіць таксама шмат пытанняў у галіне кніжнай ілюстрацыі, але іх актыўнае абмеркаванне спецыялістамі і самімі мастакамі сведчыць не столькі пра крызіс, колькі пра мноства спосабаў выйсця з крытычных сітуацый. Такой, напрыклад, праблемы тэхналагічнага мастацтва, як надыход эпохі лічбавай тэхнікі і, адпаведна, прагрэсіравання камп’ютэрнай графікі і фотаграфікі. Шмат хто лічыць, што новыя тэхналогіі замінаюць развіццю і выяўленню духоўнага патэнцыялу мастака, але ёсць і тыя, хто ўпэўнены: “Сам твор важнейшы, чым тое, якім спосабам ён зроблены” (Ул. Савіч). Працы такіх мастакоў, як Ігар Гардзіёнак і Павел Татарнікаў, — найбольш яскравае таму пацвярджэнне.

Вось і праявілася маё “трэцяе вока”, якое знайшло на выстаўцы сваіх герояў...

**Таццяна СТУДЗЕНКА,**
**фота Кастуся Дробава**

Teenbook

# Дорасти до классики

Я недавно вывела своё собственное определение подростковой литературы. Книги для подростков — это книги, написанные для тех, кто уже вырос из детской литературы, но ещё не стал взрослым читателем. Подростковая литература — это мостик от Винни-Пуха к Толстому. Редко кому удаётся в школе оценить и полюбить классическую литературу, ребята к ней совершенно не готовы, она кажется им нудной и неинтересной. И неудивительно, ведь "Преступление и наказание" и "Война и мир" рассчитаны на взрослого читателя. Дайте ребятам шанс полюбить книгу! Пусть они читают то, что им близко. Глядишь, и до классики дорастут.

**Евгения ПАСТЕРНАК**

*Жан-Клод Мурлева. Горе мёртвого короля. — Москва: Самокат, 2012.*



Маленький остров — Малая земля. Маленький остров, где даже небо невелико. Чудесный остров, где правит справедливый и честный король Холунд, а главная ценность — библиотека. Огромная библиотека, по заданию которой, чтобы добраться до нужной книжки, нужно ехать на специальной вагонетке.

Там живёт небольшой, но гордый и трудолюбивый народ. Семья Йохансcонов — мать, отец и братья-близнецы — Алекс и Бриско. Неразлучные братья, проказники и задиры. Они не расстаются ни на секунду, они как будто единое целое. И как бы замечательно сложилась их жизнь, если бы не амбиции Герольфа! Когда-то он претендовал на трон Малой земли, был с позором изгнан и многие годы вынашивал планы мести. Он хочет стать всеобщим правителем. Он собирает армию. Он развязывает войну. У Мурлева война не победоносная и не красивая, у него она настоящая. Грязь, вши и безнадёга.

Дезертирство и расстрелы за дезертирство. Героизм тех, кто защищается, и отчаяние тех, кто нападает.

А наши братья-близнецы, оказывается, и не братья. Не родные братья. Судьба разрывает их, чтобы потом столкнуть при совершенно невыносимых обстоятельствах.

В самом начале книги король Холунд произносит странное пророчество, говорит, обращаясь к Бриско:

— Берегись огня. Огня, который сжигает!

Что же хуже? Огонь войны? Огонь жестокости? Огонь предательства? Или огонь раскаяния? Что приятно, в книге нет ответов, в ней сплошные вопросы. Только одно понятно: нельзя изменять себе. Однажды предав себя, ты уже не сможешь остановиться. Ты никогда не станешь таким как прежде. А сохранив верность себе, даже среди войны, среди боли и крови, среди грязи и смерти, ты найдёшь, ты разглядишь свою Великую любовь и сможешь её сохранить.



*Кристине Нёстлингер. Само собой и вообще. — Москва: Самокат, 2008.*

И ещё раз про развод родителей. Почему когда родители разводятся, то не спрашивают разрешения у детей? Это ведь нечестно, они тоже имеют право голоса!

В семье Поппельбауэр детей трое. Главы написаны попеременно от лица всех троих — Ани, Шустрика и Карли. Карли (Каролине) 15 лет, Ани — 13-летний любитель чтения, Шустрик — семилетний "домомучитель".

С одной стороны, дети оказываются гораздо старше, чем кажется, они размышляют как взрослые. Они вполне способны понять и простить. Но с другой стороны, они не прекращают верить в чудеса и до последнего надеются на лучшее. "Пусть разводятся мама и папа, они имеют на это право. Но мы-то совершенно не хотим разводиться!" — думают они.

Они прекрасно понимают, что очень трудно жить в атмосфере вранья и раздражения. "Честные ответы в доме вообще редкость. Папа и мама предпочитают хранить свои проблемы под покровом тайны. Но в этом покрове очень много дырок, и через них так и несёт проблемами". Но они не понимают, почему бы родителям не взять и не помириться. Кончается всё модным ныне хэппи-эндом, когда все, включая новых жён и мужей, становятся большой семьей.

Я думаю, что это даёт надежду на то, что можно жить не вместе, но сохранить хорошие отношения и не воевать.

А моё любимое место в книге — это разговор мамы и учителя глазами подростка. Знаете, из тех разговоров, когда вначале назревает скандал, а заканчивается он полным умиротворением и уверениями в безграничной признательности и уважении. Я прекрасно понимаю маму, которая уладила конфликт. А Ани видит, что "она говорит подхалимски льстиво, будто у неё напрочь отсутствует чувство собственного достоинства".

"Если я пытался вернуть обсуждение к сути дела, то мама всякий раз тотчас прерывала меня и заверяла, что я имею в виду не то, что говорю, поскольку нахожусь в переходном возрасте, когда подростков на некоторое время привлекают грубоватые выражения и «революционные» взгляды и они отрицают любой авторитет, даже «положительный». Мама гордится своим разговором, а Ани считает её лживой и нечестной подхалимкой.

Вуци считает, что и мы, став взрослыми, вряд ли будем другими. К этому выводу он пришёл, прочитав дневник своей мамы. Очень старый дневник, который она вела ещё девчонкой. Вуци говорит, что если бы его мать и сегодня сохранила те же мысли и взгляды, которых она — с массой орфографических ошибок — придерживалась в своём дневнике, то он бы её на руках носил!

"Хуже всего, — сказал Вуци, — что мать просто рассмеялась, когда перечитала этот дневник. Если б она хоть заплакала! Может, тогда, по крайней мере, поняла бы, что её душа с годами стала жалкой и ничтожной!"

С одной стороны, это социально ориентированная литература. Литература в помощь психологу. Если у вас в школе есть интегрированные классы, если среди ваших друзей есть инвалиды и если у подростков есть проблемы в их восприятии, то эта книжка очень поможет. Да, бывает так, что болезнь сковывает тело, но не разум. И каково это — жить, понимая абсолютно всё, соображая лучше других, не контролировать своё тело, не уметь говорить? Редко кто об этом задумывается.



Честно говорю, что я к детским книгам о сиротстве и болезнях в последнее время отношусь с предубеждением. Уже надоело, уже хочется и о здоровых почитать. И начало "Привет, давай поговорим" мне показалось скучным, показалось, что я уже знаю, чем всё кончится, и расстроилась, потому что очень люблю серию "Вот это книга!" "Розового жирафа" и мне бы не хотелось, чтобы в ней оказалась банальная история.

Но какова же была моя радость, когда я поняла, что не угадала с концовкой. Что слащавости и банальностей не будет. И хэппи-энда не будет. И здоровые дети остались здоровыми, а больные — больными. И как это ни противно, но в такое развитие событий я верю. Так что, с другой стороны, — это качественная художественная литература, потому что сюжет хороший, почти непредсказуемый, героиня живая и настоящая.

*Шэрон Дрейпер. Привет, давай поговорим. — Москва: Розовый жираф, 2012.*

И уже понятно, что красивыми словами не отделаешься, что до того, чтобы "особых" детей воспринимали на равных, не сюсюкали с ними, не прибегали с ними фотографироваться во время благотворительных вечеров, довольно далеко. Как только стало понятно, что Мелони во многом заткнёт за пояс здоровых детей, симпатии к ней со стороны этих самых детей заметно поубавилось.

Ведь так просто пожалеть убогую и так сложно признать, что она умнее тебя, несмотря на то, что даже поесть сама не может. Да что там дети (они же дети), даже учителя (которые вроде как дипломированные специалисты), даже врачи не в состоянии адекватно оценить возможности Мелони. Ей всё время приходится доказывать окружающим, что она не пустое место, что у неё есть чувства, желания, мысли.

На взрослых в книжке злишься гораздо больше, чем на детей, тем более что Мелони нужно не так много. Не тупые мультики, а новые аудиокниги, не алфавит в сотый раз, а новые слова, не снисхождение, а разговор. Ей больше всего на свете хочется быть обычной девочкой. Чтобы болтать на переменках, ходить в кино и на дни рождения, шутить и обсуждать наряды. Ей не нужны новые джинсы. Но они важны для неё. Для неё пару слов, которые нам ничего не стоят, — целое событие. А новая коляска и персональный компьютер выводят её жизнь на новый уровень. Нам, здоровым, не понять. Наверное, это можно сравнить с тем, что у нас вдруг появится возможность летать. Или видеть в темноте.

Искала в сети обложку, и на сайте *http://bfcf.ru/privet-davaj-pogovorim/* нашла отчёт об акции, которую проводил благотворительный фонд "Центр филантропии". Здоровым детям завязывали глаза, и они пробовали налить себе чай или надевали наушники и пытались общаться, не слыша. А ещё им давали покататься на инвалидной коляске.

Интересно, что же сказали после этого здоровые дети?

"В нашей школе не учатся дети с особыми потребностями. Я вообще редко вижу людей в колясках". "Если бы я был президентом, я бы сделал так, чтобы везде были пандусы — в школах, поликлиниках, кафе и музеях". "Я не понимаю, как слепой человек может ходить по нашему городу — он ведь легко попадёт под машину даже на "зебре", машины часто нарушают правила". "Мне кажется, самое важное — дружить с такими детьми. Не только помогать им передвигаться или что-то делать".

Умные у нас дети, правда? Интересно, когда же взрослые до них дорастут?

Анкета «ЛіМа»

# Прафесія і прызванне

**1. Ваша асноўная спецыяльнасць і яе сумяшчэнне з творчасцю?**
**2. Перашкаджае ці дапамагае работа творчасці?**
**3. Што першаснае ў агульнажыццёвым?**
**4. Як распараджаецеся ганарарамі?**
**5. Якую б прафесію выбралі, каб не жыццёвыя абставіны?**
**6. Стаўленне сваякоў, сяброў, знаёмых да работы і да творчасці?**
**7. Дзе больш паспяхова рэалізуецеся?**



**Паэтэса Аліна ЛЕГАСТАЕВА:**

1. Мая галоўная прафесія — настаўнік хіміі і біялогіі. А найпершая — кінамеханік перасоўнай кінаўстановы. Сёння гэта анахранізм мінулага стагоддзя.

Вазіць кіно па вёсках мне не давялося, але ўсе навыкі для гэтага мела. Па жыцці ж даводзілася працаваць і ў іншых месцах. Асабліва пры пераездах. Была і выхавальнікам у дзіцячым садку, і інжынерам-эканамістам (на будаўніцтве БАМа), і настаўніцай. Вядома ж — мамай і хатняй гаспадыняй.

2. Жыццё без творчасці — гэта толькі колькасць, пералік: дзён, месяцаў, гадоў, што прайшлі. Прыкладна як на заводзе штампоўка. Уключыў станок — і ён выдае: гузікі, кнопкі, пляшкі… А чалавек — не гузік і не кнопка. Ужо па прызначэнні чалавек павінен быць творцам. Асабліва калі ты настаўнік.

3. Першасным у агульнажыццёвым лічу пачуцці. Без іх наша жыццё нагадвае расліннае існаванне. Хто чалавек без веры, сяброўства, кахання, сумлення, адданасці Радзіме, свайму прызванню? Нешта аморфнае...

На жаль, у высокатэхналагічным грамадстве з чалавека выціскаецца яго сапраўдная сутнасць, эмоцыі і пачуцці, а рэальная карціна жыцця падмяняецца віртуальнай.

Камп'ютар кахаць нельга і ён не адкажа вам узаемнасцю. Нездарма мы яшчэ ходзім у тэатры, на выстаўкі, у кіно, слухаем музыку і чытаем вершы.

4. Першы, дарэчы, і апошні ў такім памеры ганарар я атрымала за кнігу вершаў "На вертикали сердца", якая ўбачыла свет у 1999 г. На той час у вымярэнні у. а. ён складаў прыкладна каля шасцідзесяці долараў.

Адразу набыла білет і з кнігамі паехала ў Вільнюс. Незабыўныя дваццаць гадоў жыцця ў гэтым горадзе моцна трымалі мяне. Там нарадзіліся дзеці, засталіся сябры і знаёмыя.

Эмоцыі і пачуцці — ў аснове маёй першай кнігі. Мяне падтрымалі ў Саюзе пісьменнікаў Беларусі. Наступныя кнігі я выдавала ўжо на ўласныя сродкі, таму ганарараў быць і не магло.

5. Доўгі час верыла і думала, што я сама гаспадыня свайго лёсу. А калі вернешся назад, аналізуеш, разумееш — нехта такі карэкціруе. Разумееш гэта на мяжы паміж жыццём і смерцю. А вось калі б давялося пражыць жыццё наноў, абрала б музыку і песню.

6. З кожным годам сяброў становіцца менш. На жаль, наша жыццё — гэта рахунак не толькі набыткаў, але і страт. Лепшыя сябры — чытачы.

7. Найлепшыя хвіліны — калі па слоўку да слова складаеш у верш і нясеш яго як на споведзь чытачу.



Валерый ГАПЕЕЎ

# На канале

## *Апавяданне*

Мы сустрэліся абодва маладыя: я — малады аўтар, а ён — проста малады чалавек. Ён сядзеў у зале чакання і чытаў кнігу. Ля яго было вольнае месца, я падсеў, крадком зазірнуў, што ён чытае. Аказалася, гэта таўшчэзная кніга ў яго руках мела назву "Эстэтыка і літаратурная крытыка" Пятра Вяземскага. Але чытаў ён (я быў упэўнены — нудотнае чытво) з такой цікавасцю, такой прагай у вачах, што я не вытрымаў і ветліва запытаўся:

— Выбачайце, няўжо цікава? Гэта ж мінулае стагоддзе…

— Канечне, канечне, цікава, — пераканаўча загаварыў ён. Потым усміхнуўся і дадаў спакайней: — Я хачу стаць крытыкам, літаратурным. Таму для мяне ўсё гэта — надзвычай цікава. І, трэба сказаць, яно мне проста неабходна.

— Дык вы пачынаючы крытык? — пацікавіўся я. — Вельмі прыемна: пачынаючы аўтар…

Так мы і пазнаёміліся. Мяне здзівіла тады тое, як ён ставіўся да свайго будучага занятку: з такой адказнасцю выхаваная жанчына рыхтуецца стаць маці. Як ён мне сам прызнаваўся, за дзень ён абавязкова прачытвае адну кнігу. Чытае крытыку і мастацкую прозу — каб зразумець: чаму так, а не інакай напісаў крытык, чым абгрунтоўвае, на што спасылаецца. Ён ведаў пра літаратуру, яе тэорыю столькі, што мне стала вельмі няўтульна — постмадэрнізм, напрыклад, быў для мяне зразумелым не больш, чым тэорыя Эйнштэйна, а слова "экзістэнцыялізм" нават крышку напружвала.

Але перад пасадкай у свае цягнікі парукаліся мы амаль сябрамі.

Наступны раз сустрэліся толькі праз сем гадоў.

Не ведаю, ці помніў ён мяне ў гэты час, але я сачыў за ўсімі яго публікацыямі, мне было прыемна чытаць яго насамрэч глыбокія, абгрунтаваныя артыкулы. І хоць яны з'яўляліся не так часта і ў самых розных выданнях, але адчувалася: з яго атрымаецца крытык.

Гэтым разам сустрэліся мы не выпадкова — перамовіліся праз "Фэйсбук", я сказаў, што прыязджаю ў сталіцу. Вось тады ён нечакана і папрасіў: давай сустрэнемся. Менавіта папрасіў, і ў гэтай просьбе гучала трывога.

Сустрэліся мы ў невялікім кафэ, людзей там амаль не было, зайшлі ў самы зацішны куток, замовілі кавы.

— Здаецца, я не казаў табе раней, — пачаў ён. — Акрамя літаратуры ёсць у мяне яшчэ рыбалка. І гэта не проста адпачынак. Забрацца падалей, туды, куды на машыне прабіраешся паўзком, асцярожненька, спыніцца на беразе якога невядомага старога канала, агледзецца. Вось дзе прыволле: цішыня, вакол — ні аднаго рыбака. Выглядзець пралысіну чыстай вады, рыхтаваць вуды і пазіраць у гэтае спакойнае люстэрка, убачыць, як адзін за адным кругі па ім разыходзяцца — і даць сэрцу забіцца часцей у радаснай узрушанасці. Закінуць і чакаць першага варушэння паплаўка.

Сонца яшчэ толькі ўзыходзіць, вялікае, чырвонае — добра на яго глядзець.

Добра, калі бярэ рыба. Але і калі не бярэ, таксама добра. Тады я ўспамінаю новыя прачытаныя ў тоўстых часопісах, кнігах аповеды, аповесці і раманы і пішу — у думках, вядома — крытычныя матэрыялы.

Помніш, там, на вакзале, я казаў табе, што мару стаць ім — вядомым, уплывовым, аўтарытэтным крытыкам? Мне здаецца, я ім і стаў. Ды, думаеш, лёгка мне цяпер? Пяць гадоў публікацый у розных часопісах, газетах, інтэрнэт-выданнях, а ворагаў у мяне — што карасёў у тым канале. Як толькі мяне не абзываюць, чым толькі не пагражаюць, у якія толькі суды не абяцаюць пацягнуць. Але, папраўдзе, сам-насам са мной усе мілыя і пачцівыя. За пяць гадоў я сабе імя зрабіў. І цяпер кожны чытач, кожны выдавец ведае: калі ўжо я пра аўтара і яго творы адгукнуўся добра — яны таго вартыя. Таму сяброў у мяне ўсё ж больш. Гэта я табе зусім не затым кажу, каб пахваліцца. Прымем гэта як факт.

Рыбалка — гэта амаль казка. Калі набліжаецца поўдзень і ў сагрэтым яркім сонцам канале гультаяватыя карасі засынаюць, калі паплавок замірае на вадзе і ніводнай самай маленькай хвалькі на бліскучай паверхні вады няма, калі толькі конікі трашчаць — я адкідваюся на пакатым беразе спінай, закідваю рукі пад галаву і гляджу ў неба.

Тады такія думкі чыстыя і ясныя, тады так выпукла бачныя ўсе агрэхі і ўсе поспехі таго, што прачытаў на тыдні…

Ты не крыўдуй, я зараз не зусім прыемную рэч пра тваіх калег скажу. Дык вось, пісьменнікі — вельмі розныя. І сярод іх больш як палова папросту ненармальныя. Асабліва цёткі. У мяне ў адным куце кватэры вялікі стос іх кніг: бездапаможных, бляклых, убогіх. І цёткі мне тэлефануюць (я тры разы ўжо змяніў СІМ-карту), пішуць (скрыню мяняю кожны месяц), лезуць у Скайп, зафлуджваюць любы запіс у "ЖЧ" ці "Фэйсбуку".

Ім, збольшага, трэба так мала: каб я прачытаў і сказаў: нармалёва. І яны панясуць гэта маё "нармалёва", як сцяг, стукаючыся з ім ва ўсе дзверы і беручы штурмам усякія рэдакцыі.

Але я не магу сказаць так. Таму што прачытаць нават не магу іх кнігі. Мяне ўсяго літаральна паралізуе ад графаманства, выварочвае. Далібог, рэальна пачынае падванітоўваць.

А яны мне пішуць і пішуць. І якія лісты! Пачытала бы мая Люда… Хоць, павінна разумець, не першы месяц замужам…

Дык вось, у той дзень я забраўся далей звычайнага: усё берагам, берагам, паварочваў, не памятаю ўжо колькі разоў, пакуль не апынуўся ў сапраўднай глухмені.

Мабыць, я уцякаў ад учарашняга. Люда позна вечарам раптам папрасіла: паехалі на возера купацца. І так настойліва. Як быццам забылася, што для мяне рыбалка, забылася, што я увесь тыдзень трызніў гэтай суботай. Вядома, я псіханув. А яна раніцай нават галавы не падняла — быццам спіць. Пакрыўдзілася. А чаго? Вось мне і хацелася ад усяго далей. Ад людзей. Ад зносін усякіх. Ад канфліктаў любых і размоў. Стомленасць ад гэтага самая страшная. І лечыцца толькі адным — адзінотай.

Брала рыба слаба. А думалася, як заўсёды, добра. І сонца ўзышло хораша: чысценькае ў чысцюткім небе. Увогуле, усё выдатна было. І тут чую над самым вухам:

— Дзядзька, прывяжыце мне, калі ласка, кручок.

Я падскочыў.

Паверыш: у кроку ад мяне стаіць дзяўчынка, гадоў дзесяці. Трымае простае арэхавае вудзільна. І цягне да мяне канец лёскі і бліскучы маленькі гаплік на далоньцы.

— Ты адкуль узялася? — пытаю як мага спакайней.

— Прыйшла.

Прывязаў гаплік, паглядзеў уважлівей. Звычайная дзяўчынка. Трошкі хударлявы тварык з акуратным носікам, русыя валасы ў хвосцік сабраныя. На ёй — сукеначка простая, белая у сінія, трошкі лінялыя кветкі, чысценькая. Сандалікі на загарэлых ножках.

— Трымай, не адвяжацца.

— Дзякуй. Няхай вам пашанцуе.

Паднялася на грэбень канала, прыглядзелася ў далёкія кусты — відаць, туды ішла.

І раптам павярнулася да мяне і кажа:

— Яна плача.

— Хто… плача? — ашаломлена пытаю я.

— Яна плача, — паўтарыла дзяўчынка. — Адна дома і плача.

І пайшла.

Бачу бакавым зрокам — у мяне абодва паплаўкі, як вар'яты, заскакалі ў розныя бакі. Схапіў вуды — позна. Азірнуўся — няма дзяўчынкі.

Вось ты ўяві гэтую сітуацыю… Хто плача? Чаго плача? Ды ну яе…

І тут, ведаеш, мне як вочы адкрыла — успомніў: Люда ўчора зайшла ў пакой, абняла мяне ззаду, а я якраз пошту праглядаў. Вызваліўся з абдымкаў, падняўся пакурыць… А калі Люда той ліст незнарок прачытала? Той, які я якраз адкрыў на ўвесь манітор? Там жа адна паэтка мне амаль што ў каханні прызнавалася, у госці клікала, абяцала і намякала… ды ўспомніць страшна!

Вось жа чорт!!! Люда што падумала? На якую я рыбалку паехаў?

Што тут табе распавядаць… Выбраўся я з таго балота, не шкадуючы машыну, прыляцеў дадому. Добра, сістэма старых каналаў недалёка ад горада.

Паверыш: Люда і праўда плакала.

Я яе ў бярэмя ўсю сабраў і ў машыну. І на той жа бераг прывёз, дзе нават вуды пакінуў быў. І мы ўдваіх лавілі рыбу… Сам разумееш, якая там у нас рыбалка была… самая светлая мая рыбалка… Калі такая дзікая прыгажосць, такая глухая ціша вакол, а побач — каханы чалавек. І вада. І сонца. І неба ў белых аблоках, на якія з такім замілаваннем можна бясконца глядзець, калі ляжаць шчака да шчакі на плячы адно ў аднаго.

Але пра кнігі я ўсё роўна падумаў…

І вось што далей было. У наступны панядзелак атрымаў замову на матэрыял: рэцэнзія на кнігу аднаго аўтара. Прачытаў кнігу. Дзве аповесці. Адна — нешта такое жыццёвае, з прэтэнзіяй на вострасацыяльны канфлікт. Але ўсё нежывое, усё штучнае. Вобразаў няма, руху няма, размовы, размовы… Ніякая проза. Ні-я-ка-я. А вось фантастыка дык быццам і нічога. Ідэя арыгінальная, рэалізацыя на ўзроўні. Мовай аўтар валодае. Але фантастыка — гэта не маё. Я ў рэальных жанрах працую. Падрыхтаваў рэцэнзію, настрой быў, дык і вельмі востра атрымалася, з'едліва. І з гумарам.

Вось цяпер і нічым патлумачыць не магу, але ў наступную суботу паперла мяне на то самае месца, хоць звычайна два разы запар на адзін і той жа канал не езджу. Але паехаў, як цягнуў хто машыну і круціў за мяне стырно. Хочаш вер, хочаш — не, але яшчэ толькі апошні паварот зрабіў, гляджу: акурат там жа, дзе я ў мінулую нядзелю зрабіў першы закід і сустрэў дзяўчынку, яна цяпер сядзіць на кукішках.

Уяўляеш? Наўрад ці… З канала выпаўзае густая смуга ранішняга туману, прама ля яе ног варушыцца. І далей уздоўж канала — туман, густы. І неба шэрае, ледзь прабіваецца праз гэтую шэрасць бляклa-чырвоны дыск сонца.

І яна, дзяўчынка — сярод шэрай пустэчы. Адкуль? Што? Як?

Па праўдзе кажучы, мне вусцішна стала. Заглушыў машыну, выйшаў.

— Ізноў гаплік адчапіўся? — пытаюся як мага бадзёрай.

Яна толькі галавой ледзь кіўнула. І глядзіць на ваду пад коўдрай смугі.

Прахалодна ёй, мусіць — на ёй тонкая кофтачка, запэцканая ў зеляніне, старэнькія джынсы, выцертыя. Валасы ў хвост не сабраныя, не прычасаныя.

Павярнулася да мяне, мяне аж скаланула недзе ўсярэдзіне — тварык зусім худзенькі, вочы велізарныя, сум у іх ну зусім не дзіцячы.

— Вуда ў мяне зламалася.

А голас гэткі… слабы зусім, ледзь кажа.

— Я табе сваю дам… І ў мяне тэрмас, гарбата гарачая, налью табе, з бутэрбродам. Будзеш?

Яна толькі кіўнула і прыкрыла свае вялікія вочы.

Ну, я хутчэй бутэрброды дастаў, гарбату гарачую (Людмілка мне збірала).

Дзяўчынка гарбату п'е, кусае ад бутэрброда — котка за раз больш укусіла б.

Адышоўся ад яе на крокі тры, каб яна сябе вальней пачувала. Стаю, не ведаю, што рабіць, што думаць. Вось ты б пра што думаў? Во, так і я…

Прысеў, запаліў. Вуды побач ляжаць, не разбіраю.

— Ты дзе жывеш, малеча? З кім прыйшла? — пытаю строга.

— А ён у ложку кнігі піша, — раптам недарэчна адказвае дзяўчынка. — Ляжыць і нагаворвае на дыктафон. Тады яго маці нясе запіс на раздрукоўку.

Я маўчу. Чакаю, таму што адчуваю — гэта яшчэ не ўсё.

— Ён траўму атрымаў, калі пяць класаў школы скончыў. І ад таго часу ляжыць. Сёння яму трыццаць тры. А жывуць яны ў кватэры з маці. Бацька іх кінуў. У іх нікога няма. А гарбата вельмі смачная. Яна вас кахае, вельмі-вельмі кахае.

Калі дзяўчынка адразу ж пасля гэтых слоў паднялася і пайшла, я ні слова не сказаў. Паверыш: як сядзеў, так і застаўся сядзець як здзервянелы. Не мог і не ведаў, што казаць. І за ёй не пайшоў.

Праз гадзіну шэрань разагнала. Лавіў я да абеду. Быццам і добра бралася рыба, ды мне больш хацелася падумаць. І думаў я пра таго інваліда. Ты ж пішаш, сам павінен зразумець: вось чаму ў яго рэальнай аповесці няма жыцця: не ведае ён жыцця. Не бачыць. І не можа бачыць. І вось чаму яго фантастычны свет такі жывы, такі рэальны…

Ведаеш, першы раз са мной такое было: перапісаў я сваю рэцэнзію. Мімаходзь прайшоўся па недахопах аповесці, адзначыў, што яна не атрымалася. А ў фантастыцы знайшоў яшчэ больш добрага, калі перачытаў яе другім разам. Добрая фантастыка, свежая, не заезджаная тэма, арыгінальныя хады. І, галоўнае, свой, асабісты, арыгінальны погляд на многае вядомае праз сродкі фантастычнага.

Вось… Давай яшчэ па кубачку кавы возьмем, нейкія кубкі тут… маленькія зусім. Ты не спяшаешся? Ды ўжо амаль усё расказаў, яшчэ трошкі…. Два тыдні на каналы я не патрапіў. Адна субота дажджлівая была вельмі, пахаладала нешта, потым — да цешчы на лецішча, у яе там толькі пакажыся, работы на трох дурняў, а не на аднаго зяця. Дык вось… Не буду і казаць, што паехаў я на тое самае месца, што і першыя два разы. Так, яна там была, нібыта чакала мяне, хоць і не паглядзела, як я пад'ехаў, як да яе падышоў.

Яна была ў строгім чорным гарнітурчыку: штонікі са стрэлачкамі, белая кашулька і чорны, аксамітны пінжачок. Зусім як вучаніца-выдатніца, толькі што з-за сваёй звыклай парты занесеная сюды незразумелай сілай. Валосікі акуратна ўкладзеныя і заплеценыя ў коску, а тая — у вузельчыку на патыліцы.

Тварык бледны і строгі. Павітаўся з ёй.

— Ён не сам піша, — ціха, але цвёрда адказала дзяўчынка на маё "Добрай раніцы".

— Я ведаю, — сказаў я.

— І кніга дрэнная.

Я прысеў каля яе, выцягнуў цыгарэты, ды прыпыніўся, не стаў запальваць — дзіця ж побач.

— Ведаю, што дрэнная, — стомлена пачаў я. — Але ты зразумей: гэта вельмі сур'ёзны праект! Яго трэба раскруціць. Так робяцца справы ў дарослых людзей. Мне прапанавалі ўдзел у гэтай справе, у якую ўкладзена ўжо гэтулькі грошай, што падумаць страшна! Не напішу я — напіша іншы, не менш аўтарытэтны. І атрымае такі ганарар, што мне і не сніўся. А я апынуся за бортам, яшчэ буду дзесяць гадоў збіраць на кватэру. Ты казала, што Люда кахае мяне, яна ж і дзіця ад мяне чакае. Дзе нам жыць? І там такія людзі — яны мне перакрыюць кісларод па ўсіх каналах, калі я адмоўлюся цяпер.

А дзяўчынка нічога не адказвае.

— І ў мяне дамова адназначная: адна рэцэнзія. Адна! Зразумей, усяго толькі адна рэцэнзія, — адчайна прагаварыў я.

Сказаў, а сам, павер, напужаўся. Не ведаю чаму. І тут…

— Я памру, — ціха сказала дзяўчынка, паднялася і пайшла.

Уздоўж канала, які сыходзіў далёка ў затуманеную лагчыну.

Гэта было ўчора. І вось… сёння — нядзеля. Артыкул мной падрыхтаваны яшчэ на мінулым тыдні. У панядзелак мне трэба… здаць яго. Я ведаю, ты мне не паверыш. Але...

# Любоў зямлі, у ёй ёсць душа

Цудоўная музыка Мадэста Мусаргскага і Георгія Свірыдава — вакальныя цыклы і рамансы — гучалі ў Камернай зале імя Л. П. Александроўскай Вялікага тэатра оперы і балета ў выкананні салісткі тэатра, лаўрэата міжнароднага конкурсу Наталлі Акінінай (мецца-сапрана). Пра праграму канцэрта “Любоў зямлі, у ёй ёсць душа” і тое, што натхніла спявачку спыніць свой выбар менавіта на творчай спадчыне гэтых аўтараў, расказвае сама Наталля Акініна.

**Таццяна АЛЯКСАНДРАВА,**
**Вольга НІКАЛАЕЎСКАЯ**
**фота прадастаўлена НАВТ оперы і балета РБ**

**— Для свайго сольнага канцэрта вы абралі вельмі нетрывіяльны склад аўтараў, музыку якіх будзеце выконваць. Раскажыце, калі ласка, як склалася такая праграма.**

— Думка правесці гэты канцэрт выспела даволі даўно. У мяне было жаданне выканаць “Песні і скокі смерці” Мадэста Мусаргскага. Аднак перада мной паўстала вялікая праблема: вельмі складана падабраць да гэтага кампазітара “пару”, аўтара, творчасць якога будзе ў “згодзе” са спадчынай Мусаргскага. Але ў пэўны момант, калі я пачала чытаць матэрыялы пра жыццё і творчасць Мусаргскага, усё часцей у навуковых і крытычных артыкулах згадвалася пра тое, што Свірыдаў з'яўляецца непасрэдным прадаўжальнікам ідэй, якія закладзены ў музыцы Мадэста Пятровіча. У яго працах, як і ў творчасці Мусаргскага, вялікае месца займае народнасць, песеннасць, духоўнасць рускага народа. Свірыдаў як ніхто іншы звяртаў на гэтае ўвагу, быў сапраўдным падзвіжнікам. Ён быў не толькі выбітным кампазітарам, але і філосафам, мысляром, які ў сваіх працах паказваў, наколькі глыбокія, чыстыя, моцныя карані жывяць рускую музыку. Такім чынам, першае аддзяленне гэтай праграмы было прысвечана творчасці Мусаргскага, другое — Свірыдава.

Вакальны цыкл “Песні і скокі смерці” стаў асновай праграмы і яе пачаткам. Гэта зусім не гімн смерці, а нейкая прапанова не забывацца на тое, што смерць заўсёды ходзіць побач і трэба разумець, што ў нашым жыцці заўсёды ёсць нешта нам непадуладнае. Таксама ў спадчыне Мусаргскага нямала рамансаў, якія даволі рэдка выконваюцца. Кожны з іх — як маленькая мініяцюра, жанравая сцэна, невялікае апавяданне пра жыццё чалавека. Свірыдаў жа — гэта спявак рускай зямлі. Ён напісаў шмат хвалююча прыгожых рамансаў, выконваць якія — неверагодная асалода. У канцэрце прагучалі яго вакальны цыкл “Отчалившая Русь” і некалькі рамансаў на вершы Сяргея Ясеніна.

**— Аднак была і харавая музыка ў выкананні вакальнага ансамбля “Благавест” пад кіраўніцтвам Сяргея Аграновіча...**

— Так, у Свірыдава шмат і вельмі прыгожай харавой музыкі, якую так сама хацелася прадставіць. Мне здаецца, гэта цудоўная яркая фарба для вакальнага канцэрта. Тым больш што для слухача даволі складана на працягу цэлага вечара слухаць і ўспрымаць толькі аднаго вакаліста. Таму я лічу, што калектыў “Благавест” вельмі добра ўпісаўся ў праграму канцэрта. Дарэчы, за фартэпіяна ў гэты вечар была лаўрэат міжнароднага конкурсу Святлана Колас-Іванова. Вось такі своеасаблівы трыумвірат у нас атрымаўся.



Часта сольны канцэрт у жыцці саліста — гэта зборная салянка: узгадваеш свой рэпертуар і кампануеш праграму. Аднак шмат сапраўды прыгожай музыкі, як правіла, рэдка выконваецца, таму што патрэбна нямала часу, каб яе знайсці і вывучыць. Але гэта і каштоўна — знаходзіць цікавыя музычныя творы і адкрываць іх для слухача, таму што больш нідзе не пачуеш гэтую музыку. Я знаходзіла цудоўныя запісы такіх спевакоў, як Алена Абразцова, Ірына Архіпава, Дзмітрый Хварастоўскі. У мяне ўжо ўзнікла нейкая прафесійная зайздрасць, з'явілася жаданне таксама дакрануцца да гэтых унікальных твораў. Прычым, не проста выканаць іх самой, але ў першую чаргу падараваць радасць публіцы, даць ёй магчымасць пачуць гэтыя рамансы і вакальныя цыклы сёння і цяпер.

“Песні і скокі смерці” — адзін з найглыбейшых, па-філасофску насычаных і складаных твораў у сваім жанры. Вобраз смерці ў розных абліччах пададзены з хвалюючай сілай. Мусаргскі ненавідзеў смерць, якая забрала яго сяброў. Ён зваў яе “катам”, “бясталентнай дурніцай, якая косіць, не разважаючы пра тое, ці ёсць патрэба ў яе праклятым візіце”. І вось яна стала цэнтральнай ідэяй вакальнага цыкла. Вельмі пранікнёна пісаў пра гэта Георгій Свірыдаў: “Смерць у Мусаргскага не зло і не дабро. Яна — стыхія, як і жыццё. У ёй няма ніякага зла, насупраць, яна нясе сон, супакой, збаўленне ад пакут. У ёй адсутнічае які-небудзь сацыяльны элемент, дзіця, п'яны мужычок, салдат або маладая дзяўчына — усе роўныя перад ёю. Смерць — дабро. Смерць — стыхія ночы, начная стыхія ў процівагу жыцця, дзённага, дзейнага. Уначы паміраe дзіця; смерць перад ім нястрашная, у вобразе няньчкі, якая люляе яго, пазбаўляючы ад пакут. Дзяўчыне, якая хварэе на сухоты, яна з'яўляецца ў вобразе цудоўнага маладога рыцара, што спявае ёй серэнаду... Яна памірае ў яго абдымках, напоўненая знямогай вясны і любоўным трапятаннем...”

# Запрашэнне ў свет музыкі

**Павел САПОЦЬКА**

Аматары музыкі нядаўна сталі сведкамі незвычайнай падзеі — цудоўнага канцэрта “Пока я помню, я живу...” лаўрэата ўсерасійскіх і міжнародных конкурсаў Уладзіміра Александровіча, нашага земляка, які цяпер жыве ў Санкт-Пецярбургу і ўслаўляе сваёй творчасцю родны горад і любімую Беларусь.



“Мелодыя”, “Загадай жаданне”, “Накцюрн”... Гэтымі і іншымі песнямі, якія любяць і ведаюць на памяць, радаваў спявак сваіх гледачоў. А музыка ў выкананні сімфанічнага аркестра Маладзечанскага дзяржаўнага музычнага каледжа імя М. К. Агінскага пад кіраўніцтвам Рыгора Сарокі з кінастужак “Крёстный отец” і “Мой ласковый и нежный зверь” асабліва зачароўвала яшчэ і таму, што нагадвала вядомыя сюжэты фільмаў.

У канцэрце бралі ўдзел вядомы расійскі піяніст Алег Вайнштэйн, танцоры міжнароднага класа па спартыўна-бальных танцах з Ніжняга Ноўгарада, Санкт-Пецярбургскі балет “Бизе Лизу”. Прыехаў падтрымаць свайго сябра і знакаміты кампазітар, заслужаны дзеяч мастацтва Рэспублікі Мардовія Сяргей Цэрханаў, які падарыў усім выдатную песню “Как признаться музыке в любви”.

Гэтым разам канцэрт можна было ўмоўна падзяліць на дзве часткі: да фінальнай песні і пасля. Захопленыя гледачы не дазволілі артыстам скончыць вечар, і зноў загучалі песні. Магчыма, гэта той выпадак, калі міжвольнае парушэнне законаў драматургіі пайшло на карысць і было ацэнена слухачамі, сярод якіх нямала вядомых беларускіх дзеячаў культуры: прафесар Міхаіл Солапаў, пісьменнік Анатоль Бутэвіч, старшыня Беларускага фонду культуры Уладзімір Гілеп, галоўны дырыжор Канцэртнага аркестра “Нямiга” Аляксандр Сасноўскі, кампазітары Алег Залётнеў і Алег Хадоска ды іншыя.

У канцы вечара прагучала мноства добрых слоў у адрас і дырыжора, і спевака, і вядучай... Скончыўся канцэрт кранальна прыгожа: артысты разам з гледачамі стоячы выканалі песню “Подмосковные вечера”, зрабіўшы прыемны падарунак расійскім гасцям, якія ў гэты дзень у культурным цэнтры Мінскай вобласці было нямала. Рыгор Сямёнавіч гэтым разам дырыжыраваў не толькі аркестрам...

Думаецца, што, выходзячы з залы, многія ўспомнілі словы з выкананай Сяргеем Цэрханавым песні: “Свет музыки, спасибо, что доступен и велик!..”

# Ліхтары ў тумане Тржэбіча

У мінскай галерэі “Універсітэт культуры” прайшла фотавыстаўка сына Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Чэшскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь Іржы Караса. У наведвальнікаў была цудоўная магчымасць пазнаёміцца з Чэхіяй, якую можна адкрыць толькі збочыўшы з накатаных турыстычных маршрутаў. Іржы Карас-малодшы вельмі патрабавальны да сваёй творчасці, таму доўга выбіраў работы для экспазіцыі. Спыніць ваганні дапамагла куратар культурных праектаў пасольства Аксана Аракчэева, якой удзячны аўтар выказаў добрыя словы падчас урачыстага адкрыцця выстаўкі.



*Іржы Карас-малодшы “Атамкрыж”.*

Фотавыстаўка “Тржэбіч” — гэта магчымасць прагуляцца па горадзе старажытных помнікаў з чалавекам, які тут нарадзіўся. Менавіта таму галоўнымі “героямі” работ Іржы Караса будуць не архітэктурныя “разынкі” сярэднявечча, а нечаканасці, спыненыя аб'ектывам рамантычнага філосафа. Яркія ліхтары над вячэрнім мостам, на якім людскія постаці здаюцца прывідамі. Чарапічныя дахі з вышыні птушынага палёту. Першыя вестуны вясны — травінкі на гарадскіх вуліцах, фонам для якіх служыць архітэктурны помнік далёкай мінуўшчыны. Выкліча ўсмешку пазнавання “трусятня” — шматпавярховы тыповы панэльны дом, які ў нас завуць “хрушчоўкай”. Ажурны крыж на фоне ТЭЦ — таксама гарадская прыкмета.

Помнікі горада: манастырская хрысціянская базіліка XIII стагоддзя, пабудаваная ў раманскім стылі, старажытныя яўрэйскія могілкі, сінагогі, сучасныя дэталі гарадскога пейзажу — аднолькава дарагія фотамастаку, як і ўсё, знаёмае з дзяцінства, што абядноўваецца ў паняцце “родны кут”.

Апрача 24 здымкаў Тржэбіча наведвальнікі галерэі ўбачаць і шэсць здымкаў з цыкла “Майстэрня”. У мінулым годзе Іржы Карас-малодшы пазнаёміўся з Мінскам і наведаў майстэрні славутых беларускіх мастакоў Арлена Кашкурэвіча, Георгія Паплаўскага, Барыса Аракчэева, Леаніда Дударэнкі.

Выстаўка ў галерэі “Універсітэт культуры” — адзін са шматлікіх праектаў культурнага дыялогу паміж Беларуссю і Чэхіяй. Словы павагі і ўдзячнасці спадару Іржы Карасу за тое, што дыялог гэты насычаны і цікавы, выказалі прадстаўнікі Беларускага саюза мастакоў.

**Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА**

# Пасляваенны Мінск у карцінах Анатоля Наліваева

У Доме-музеі І з'езда РСДРП да 6 студзеня будзе праходзіць выстаўка "Пасляваенны Мінск у карцінах Анатоля Наліваева". Асаблівая каштоўнасць твораў мастака ў тым, што яны з фатаграфічнай дакладнасцю ўзнаўляюць панарамы разбураных жылых дамоў, культавых пабудоў, помнікаў яўрэйскай культуры, старых кварталаў сталіцы. Выстаўка арганізавана пры садзейнічанні яўрэйскай абшчыны Беларусі.

**Алеся АРЫЦКАЯ**

Анатоль Наліваеў (Абрам Налівай) вядомы не толькі як мастак, але і як рэстаўратар, музыкант, кантар, тэатральны акцёр, збіральнік і выканаўца яўрэйскай кантарскай музыкі, галоўны герой фільма "Вытокі" (рэжысёр Юрый Гарулёў), першы дырэктар музея "Літаратурна-мастацкая гасцёўня імя У. Галубка". Нарадзіўся мастак у Рагачове за колькі год да пачатку Другой Сусветнай вайны, потым з сям'ёй апынуўся ў Мінску, з якога атрымалася збегчы з маці ў 1941 годзе. З дзяцінства Наліваеў адрозніваўся фатаграфічнай памяццю, што дазволіла яму ўжо з 14 гадоў, пасля вяртання дадому, тайна маляваць разбураную сталіцу (у 1940 — 1950-я гг. фатаграфаваць і замалёўваць Мінск было забаронена).

На жаль, сам мастак не змог патрапіць на адкрыццё выстаўкі, таму наведвальнікаў сустракаў Сяргей Саманенка, малодшы навуковы супрацоўнік Дома-музея І з'езда РСДРП. Ён адзначыў, што тыя краявіды Мінска, якія Анатоль Наліваеў маляваў у 1945 — 1947 гг. у тэхніцы акварэлі, цяпер не экспануюцца. Аднак у 60 — 70-я гг. мінулага стагоддзя мастак аднавіў вышэйназваныя работы, і менавіта іх можна пабачыць на выстаўцы.

— Дзякуючы карцінам мастака, — распавядае Сяргей Саманенка, — сёння можна пабачыць краявіды пасляваеннага Мінска сярэдзіны 40-х, 50-х, 60-х гг.: Верхні горад, Траецкае прадмесце, Татарскую слабаду з мячэццю, татарскія агароды, касцёл былога кляштара дамініканцаў і іншыя віды цэнтральнай часткі горада, якія затым былі разбураныя або змененыя да непазнавальнасці. Будучы яўрэем, асноўную частку работ Наліваеў прысвяціў раёнам Мінска, звязаным з яўрэйскім жыццём: выявіў дзясяткі сінагог, кварталы, вуліцы і дамы, помнікі яўрэйскай культуры. Напрыклад, на адной з карцін мастака бачна, як выглядала Харальная сінагога, у будынку якой цяпер месціцца Нацыя-нальны акадэмічны драматычны тэатр імя М. Горкага. Тут можна паглядзець на культавыя збудаванні, жылыя дамы, нейкія памятныя месцы, якіх не знойдзеш у сённяшнім Мінску; адкрыць для сябе горад, які сучаснае пакаленне моладзі ўжо не заспела; уявіць, якім ён быў.


*Мінск. Вуліца Берсана. 1947 год.*


*Былыя татарскія агароды. Від з плошчы Свабоды на вуліцу Замкавую. 1947 год.*

На выстаўцы адразу кідаецца ў вочы тое, што першая частка выставачнай залы аформлена ў цёплых тонах, больш светлая і ўтульная. Другая частка, наадварот, халодная. Супрацоўнікі музея спецыяльна размясцілі экспазіцыю так, каб летнія пейзажы плаўна пераходзілі ў зімовыя. Да таго ж, выстаўка "Пасляваенны Мінск у карцінах Анатоля Наліваева" добра пасуе да адной з асноўных экспазіцый музея — калажаў Вадзіма Качана "Губернскі Мінск канца XIX — пачатку XX стагоддзя": ты нібы трапляеш з Мінска губернскага ў Мінск пасляваенны.

# Плакатная акцыя

**Дзіяна КАРОЛЬ**

Мастацкая Галерэя TUT.BY да 14 снежня запрашае на выстаўку плакатаў "Родчанка 120". У гэтым праекце сабраныя работы 20 лепшых сучасных расійскіх мастакоў плаката, а таксама нашага земляка Сяргея Саркісава. Усе творцы бралі ўдзел у намінацыі "Русский авангард" на Х Міжнароднай біенале графічнага дызайну "Золотая пчела". Праект быў паспяхова паказаны і ў шматлікіх іншых краінах свету.

Міжнародная біенале графічнага дызайну "Золотая пчела" — гэта некамерцыйны культурна-асветніцкі праект, які садзейнічае развіццю сучаснай візуальнай культуры і павышэнню творчага ўзроўню графічнага дызайну ў Расіі і свеце, уключэнню расійскага графічнага дызайну ў міжнародную культурную прастору.

Біенале збірае ў сваіх экспазіцыях найлепшыя дасягненні ў галіне графічнага дызайну. У ёй бяруць удзел дызайнеры-графікі з 60 краін свету. Праводзіцца фестываль аб'яднанымі намаганнямі прафесійнага дызайнерскага грамадства і шэрагу грамадскіх арганізацый, дзяржаўных устаноў і прыватных кампаній.


*Сяргей Саркісаў "Родчанка 120".*

Паводле арганізатараў выстаўкі плакатаў "Родчанка 120", яна "дазваляе ўбачыць гісторыю дызайну вачыма майстроў. У той жа час з яе дапамогай можна скласці ўяўленне пра сучасны расійскі плакат". Выстаўка прысвечана 120-годдзю з дня нараджэння знакамітага мастака-авангардыста Аляксандра Родчанкі.

Гэта вядомы расійскі мастак, графічны дызайнер, які працаваў у жанры плаката, фатаграфіі, рэкламы. Яго асоба неабсяжная і грандыёзная. Як канструктывіст Родчанка распрацаваў прынцыпы новага мастацтва для людзей будучыні. З яго імем звязаны пачатак эры футурызму. Пры жыцці Родчанка заваяваў вялікую любоў на Захадзе — яго імя стала сінонімам савецкага дызайну. У той жа час з самога СССР авангард быў выцеснены.

Як адзначыла куратар выстаўкі Анастасія Кулажэнка, Х Міжнародная біенале графічнага дызайну "Золотая пчела" сталася вельмі маштабнай, у ёй узялі ўдзел выхадцы з больш як 50 краін свету, было прагледжана каля 10 тысяч работ. Беларусь не засталася ўбаку: нашы землякі ў складзе 34 чалавек прадставілі 181 работу. У шорт-лісты біенале ўвайшлі плакаты чатырох дызайнераў з Беларусі — Анастасіі Кулажэнкі, Веры Рэшты, Сяргея Саркісава і Юрыя Тарэева, аднак былі краіны, якія ў гэтым годзе наогул засталіся без прадстаўнікоў.

Гэта ўжо другая выстаўка такога кшталту ў мастацкай Галерэі TUT.BY. Увесну бягучага года прыхільнікі графічнага дызайну мелі магчымасць пабачыць 100 лепшых плакатаў Міжнароднай трыенале экалагічнага плаката "4-ы блок", прысвечаных 26-й гадавіне Чарнобыльскай трагедыі і ядзернай праблематыцы ў цэлым з'яўляўся напамін пра праблемы, выкліканыя катастрофай на Чарнобыльскай АЭС.

# Сумная вестка са Стоўбцаў



Грамадскасць Стаўбцоўшчыны, шматлікія сябры і калегі назаўсёды развіталіся з сапраўдным Чалавекам, творчай Асобай, шчырым Патрыётам, былым начальнікам аддзела культуры Стаўбцоўскага райвыканкама, старшынёй дабрачыннага савета музея Якуба Коласа Анатолем Васільевічам Грэкавым.

Яго не стала 20 лістапада, а было яму крыху больш як 63. Роўна чвэрць стагоддзя Анатоль Васільевіч шчыра і самааддана ўрабляў культурную ніву Стаўбцоўшчыны і меў добры ўраджай. Ён быў ініцыятарам шматлікіх творчых праектаў, якія з дапамогай аднадумцаў і калег паспяхова ажыццяўляў у сябе ў раёне. Вось толькі нямногія з іх, якія даўно ўжо сталі візіткай Стаўбцоўшчыны і нават Міншчыны: рэгіянальны фестываль юных музыкантаў "Сымон-музыка", рэгіянальны пленэр юных мастакоў "Дзе льецца Нёман срэбраводны", раённы фестываль дзіцячага тэатра "Казкі жыцця", раённае свята народнай творчасці "Красуй, Беларусь!", раённы фестываль беларускай песні "Альбуцкая крынічка", дзіцячы фестываль рамёстваў "Сядзіба навазямельцаў", фестываль народных і ўзорных калектываў Стаўбцоўшчыны "З музыкай да Коласа". А яшчэ яго рупнасцю былі заснаваны кніжныя серыі "Мне сонцам свеціць Наднямонне", у якой пабачыла свет дзесяць кніг, аўтарамі якіх з'яўляюцца паэты і пісьменнікі, ураджэнцы Стаўбцоўшчыны, і "Землякі", пачатак якой паклала кніга М. Маляўкі пра шматгадовага загадчыка філіяла Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа Мікалая Семяняку. Таксама Анатоль Васільевіч клапаціўся пра гістарычную мінуўшчыну Наднёманскай зямлі, яго дбаннямі былі ўстаноўлены мемарыяльныя знакі ў многіх вёсках Стаўбцоўшчыны, дзе жылі і тварылі вядомыя паэты і пісьменнікі Уладзіслаў Сыракомля, Адам Плуг, Янка Лучына, Улад Ініцкі, Карусь Каганец, навукоўцы Язэп Лёсік і Павел Дзямідовіч, па яго прапанове імёны гэтых людзей былі прысвоены новым вуліцам г. Стоўбцы.

Ведала культурная грамадскасць Беларусі Анатоля Васільевіча і як натхняльніка і таленавітага рэжысёра рэспубліканскага літаратурна-мастацкага свята "Каласавіны", ініцыятара і суаўтара мастацка-мемарыяльнай кампазіцыі драўляных скульптур "Шлях Коласа", створанай у родным куце народнага Песняра па матывах яго творчасці.

Вымушаны пайсці на пенсію, А.В. Грэкаў не паў духам, узначаліў Дабрачынны савет Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа і да апошніх сваіх дзён рупіўся на Коласавай ніве.

Дзякуючы яго ініцыятыве закладзены сквер "Дрэва жыцця" на мемарыяльнай сядзібе Смольня. А.В. Грэкаў ініцыяваў шэраг новых цікавых праектаў: "Пад нёманаўскім сонцам" (сустрэчы са славутымі землякамі Стабцоўшчыны), акцыі па зборы сродкаў для стварэння і ўстаноўкі скульптурнай кампазіцыі "Якуб Колас. Роздум" на сядзібе музея і інш. Анатоль Васільевіч быў і заўзятым калекцыянерам, меў шматлікія калекцыі, многія з якіх дэманстраваліся ў музеі: аўтографы, манеты, спортінвентар, мастацкія лялькі і інш.

Лепшай узнагародай яму заўсёды былі вынікі яго нястомнай руплівай працы і простая людская ўдзячнасць за ўсё, што ён рабіў для ўсёй Стаўбцоўшчыны.

**З. М. Камароўская, калектыў музея Якуба Коласа, А. В. Антонаў, М. І. Мушынскі, Н. П. Аўдзеева, Г. А. Дзягілева, З. Л. Кучар, А. Р. Ляшковіч, Т. Э. Шэляговіч, Л. В. Макарэвіч, С. А. Галоўка, А. А. Лукашанец, М. П. Пазнякоў, Д. М. Дземідовіч, М. А. Маляўка, А. А. Марціновіч, А. М. Карлюкевіч, У. В. Уродніч, В. І. Акуневіч, Г. Б. Чарказян, У. І. Пракапцоў, У. А. Гілеп.**

# Акцёрскае шчасце



Аляксандр Палазкоў у ролі Філімона Пупкіна.

II Нацыянальная тэатральная прэмія за "Лепшую мужчынскую ролю" ўручана акцёру Беларускага рэспубліканскага тэатра юнага гледача Аляксандру Палазкову за ролю Філімона Пупкіна ў спектаклі "Пан міністар" Францішка Аляхновіча (рэжысёр-пастаноўшчык — Уладзімір Савіцкі).

Жана ЛАШКЕВІЧ

Акцёру Аляксандру Палазкову крыху за пяцьдзясят. Ён гнуткі, падцягнуты, рухавы і штодня заняты на сцэне. Калі не пакліканы служыць роднаму Тэатру юнага гледача (больш як дваццаць пяць гадоў!), дык з'яўляецца ў антрэпрызных пастаноўках. Адну такую — "Камедыю…" У. Рудава паводле К. Марашэўскага і Ф. Аляхновіча, — публіка шануе цягам дваццаці гадоў, а жартаўнікі цытуюць Аляксандравага персанажа Давідку: "Дзёма, калі аддасі?" І паколькі гаворка ідзе пра грошы, выняткa з Давідкі, мовім так, не губляе вастрыні і надзённасці…

У сцэнічным спісе Аляксандра больш як пяцьдзесят роляў. На пяцідзясятай ролі ягоныя персанажы пачалі разважаць пра каханне. А Філімон Пупкін з "Пана міністра" Францішка Аляхновіча закахаўся, не разважаючы. У паненку Любачку: Любачцы гатовы прысвяціць усё жыццё сваё і ў міністры выбіцца. Хоць і не дужа адукаваны, не надта выхаваны, не зусім прыстойны і зусім не сумленны: "Добры чалавек, хоць і вялікі паскуднік". А душэўная нявыхаванасць хіба чыю кар'еру папсавала? Ды і хто ж яе заўважыць? Хто яе зразумее? Каханне заахвочвае, талент вымагае дзеянняў, і Філя апынаецца таленавітым, здольным, здатным! Дыхтоўная акцёрская работа Аляксандра Палазкова не пакідае сумневу, што Філя свайго даўмеецца... насуперак самому драматургу, а рэжысёр дапамагае фарсаваму Філю творча асвойтацца з днём сённяшнім: Нацыянальную тэатральную прэмію ў сведкі бяру! Між тым мацнее перакананне, што да яе Палазкоў мэтанакіравана праставаў.

…Ад "Марных намаганняў кахання " У. Шэкспіра (2006 г., рэжысёр Мікалай Шыйко) Палазкову давялося вызваляць дзівака-гішпанца дона Адрыяна дэ Армада, які даў волю высокаму платанічнаму пачуццю, расквеціў яго песнямі ды вершамі, да нябёс узносячы кабету, якая зусім не здатная адчуваць. Што б там ні было. Палазкоў падводзіў гледачоў да спачувальнага разумення: дону Адрыяна неабходна пачувацца закаханым — гэтаксама як дыхаць. На такую смешную жарсць яго асудзіла кніжная вучонасць, гаманец і модная палітыка, якую прыдумаў Шэкспір.

Актавіё са спектакля "Дурнічка" Лопэ дэ Вэгі (2006 г., рэжысёр Святлана Навуменка) — бацька двух дачок-нявестаў. У аднае — цудоўны пасаг, але бацька носіцца з ей, як дурань з дзвярыма, калі ўсе астатнія ўпэўнена называюць яе дурнічкай. Акцёр Палазкоў надаў свайму персанажу фанатычнай бацькоўскай веры у таленты свайго дзіцяці. Актавіё цярпліва чакаў перамен і рыхтаваўся да любой нечаканасці, час-почас выказваючы бацькоўскую паздрослівасць да жаніхоў. Дурнічка тым часам знаходзіла ў сабе здаровы розум, а потым і зусім ператваралася ў разумніцу. Актавіё гэта зусім не дзівіла: ён шчыра святкаваў перамогу сваёй рацыі!

"Мешчанін у шляхецтве" Ж. Б. Мальера (2007 г., рэжысёр Валянцін Варэцкі) вымаг з акцёра дзве гадзіны сцэнічных звадаў у ролі графа Даранта, які праз спадара Журдэна дамагаўся шлюбу з графіняй Дарымэнай. Намаганнямі Аляксандра Палазкова адметны звяднік Дарант зрабіўся натхнёным акцёрам, які стаміўся ад свецкага жыцця; Дарант абсалютна верыць у сваю хлусню, пакуль хлусіць Дарымэне пра каханне, паспявае сам закахацца ў яе і прымусіць закахацца добрую частку глядзельнае залы.

"Лускун (Шчаўкунчык)" Э. Т. А. Гофмана (2007 г., рэжысёр Наталля Башава-Іванова) якраз на Каляды адарыў Аляксандра Палазкова роляю спадара Дросельмаера, гадзіншчыка, механіка, пазалотніка, спадара судовага радцы і сапраўднага чараўніка. Роля мела на ўвазе раздваенне: Дросельмаер — дзівак-хросны Мары Штальбаўм, які майструе цацкі і расказвае казкі; ён — той чалавек, які адказвае за Мары перад самім Богам, таму і мусіць выпрабаваць яе на душэўную сталасць, узмацніць яе духоўны гарт! Дросельмаер рухаецца хутка, гаворыць порстка, а цудоўную прыгоду Мары з Лускуном задумвае і ўвасабляе на глядацкіх вачах, а потым сумленна тлумачыць гледачам, як часта шляхі дарослых вызначаюцца ў дзяцінстве і як саўладаць з лёсам можна толькі ў каханні.



Сцэна са спектакля "Пан міністар".

Філосаф Ксанф, уладальнік раба Эзопа і муж красуні Клеі ў спектаклі "Ліса і вінаград" Г. Фігейрэду (2009 г., рэжысёр Генадзь Мушперт), трактаваны Палазковым як грамадзянін, заклапочаны выключна прыбыткамі і прыхільнасцю грамадскага меркавання. Прэстыж грамадзяніна падтрымлівае дом, прэстыж мужчыны — жонка, прэстыж філосафа мусіць падтрымаць разумны раб, але перад Эзопам Ксанфавы досціпы бляknуць, а вучонасць сыходзіць на нішто. Драму Ксанфа (сапраўдную!) Палазкоў падае з гумарам і спачуваннем да персанажа, бо сапраўдны раб у спектаклі — гэта ён, Ксанф, не дурны, не бедны і не агідны... балбатун, скупянда, зайздроснік і шараговы сафіст.

"Шытая лялька Рэгедзі Эн" (2009 г., рэжысёр Генадзь Мушперт), адметны дзіцячы спектакль, выявіў акцёрскую асобу Палазкова праз ролю Генерала, які ў спектаклі называе сябе "Генерал Зэт". Генерал — засяроджанне падсвядомых страхаў дзяўчынкі Марсэлы. Перамагчы або абхітрыць Генерала — значыць, перамагчы хваробу. Перамагчы Зло. Неадназначнасць свайго персанажа Аляксандр Палазкоў высвятляў паступова: Генерал то шчыры служака, то фанатык, то цынічны філосаф збройнага чыну, стомлены бясконцым аднаўленнем жыццёвых формаў. Зло — катэгорыя абстрактная, а генеральскі пераслед дзяўчынкі Марсэлы залежыць ад таго, як Генерал паразумеецца сам з сабою, што сам сабе закамандуе. І паколькі глядацкі давер вымагае асаблівай, выключнай акцёрскай шчырасці, змаганне Генерала з лялькай Рэгедзі Эн апавядае не толькі і не столькі пра тое, як перамагчы хваробу. Перадусім спектакль — пра досвед чалавечага сталення, якое адбываецца цяжка, доўга, хваравіта. І якое робіцца цяжэйшым, даўжэйшым і проста балючым, калі чалавеку няма куды падзець сэрца. Калі ў чалавека няма дома. Як у Генерала...

…І, бадай што, фінал. Не пафасны. Пра тое, што Аляксандр Палазкоў, акцёр Тэатра юнага гледача, заняты ад рання да змяркання… там, дзе патрабуецца ягонае абаянне, абазнанасць і талент. А што такое акцёрскае шчасце? Запатрабаванасць ды занятасць. Трэцяга проста няма…

# Вялікі тэатр рыхтуе оперу для самых маленькіх

2 снежня Вялікі тэатр оперы і балета запрашае дзетак і іх бацькоў на прэм'еру спектакля "Віні-Пух і ўсе, усе, усе…". Святочны падарунак для маленькіх прыхільнікаў мастацтва рыхтуюць рэжысёр Вольга Бураўлёва, дырыжор Андрэй Іваноў і мастак Аляксандр Касцючэнка.

Вольга НІКАЛАЕЎСКАЯ

Традыцыйна ў снежні і студзені беларуская тэатральная прастора ажыўляецца: на афішах амаль усіх тэатральна-відовішчных устаноў можна ўбачыць назвы спектакляў і музычных праграм навагодняй тэматыкі. Некаторыя з гэтых пастановак трымаюцца ў рэпертуары некалькі сезонаў, аднак часцей за ўсё, з'явіўшыся на зімовыя святы, знікаюць хутка і назаўсёды. Але пастаноўка, пра якую пойдзе размова, хоць і ўбачыць свет у снежні, у звычайны час правядзення святочных "ёлак", будзе актуальнай і цікавай не толькі падчас калядных вакацый. Таксама яе нельга аднесці да спектакляў-аднадзёнак. Па-першае, таму, што прэм'еры опер для дзяцей — з'ява davолі рэдкая ў айчынным тэатральным свеце і кожная падобная падзея становіцца доўгачаканай. Па-другое, таму, што будучы спектакль ствараецца творчымі рэсурсамі Вялікага тэатра оперы і балета, а гэта значыць, да працы запрошаны цікавыя пастаноўшчыкі і яркія зоркі сучаснай беларускай опернай сцэны. Па-трэцяе, сама гісторыя, расказаная ў спектаклі, любімая шматлікімі пакаленнямі маленькіх гледачоў.

Музычны спектакль "Віні-Пух і ўсе, усе, усе…" быў створаны па матывах знакамітай казкі Алана Мілна расійскімі кампазітарамі Вольгай Пятровай і аўтарам лібрэта Вольгай Цахнавіцэр. Яны палюбілі персанажаў гэтай цудоўнай казкі яшчэ ў юнацтве і перанеслі сваё захапленне ў дарослае жыццё. Дзякуючы ім Віні-Пух, Пятачок, Трус, Вослік, Сава і Тыгра выйшлі на оперную сцэну і заспявалі! А дзякуючы беларускім пастаноўшчыкам героі музычнай казкі не будуць падобныя да звыклых вобразаў з мультфільмаў, атрымаюць арыгінальныя аблічча. Што да музыкі і сюжэта спектакля, яны будуць зразумелыя без падказак дарослых і цікавыя нават самым маленькім. Увасобяць галоўнага героя музычнай казкі — добрага і абаяльнага мядзведзіка Віні-Пуха — салісткі оперы Марына Аксёнцава, Наталля Акініна, Крысценція Стасенка і Алена Сало, а яго лепшым сябрам Пятачком стануць Дзіяна Трыфанава, Алена Таболіч і Ганна Гур'ева.

Магчыма, для многіх юных гледачоў, якія завітаюць на прэм'еру спектакля 2 снежня (а ў новым годзе — 5 студзеня), сустрэча з Віні-Пухам і яго сябрамі распачне падарожжа ў свет оперы.



Малюнак Анікі Нядзелькі.

# Шрыфт, які дапамагае бачыць

Людзі са здаровымі вачыма не бачаць у чытанні ніякіх праблем. Галоўнае — знайсці для яго час. А вось для асоб, што маюць праблемы са зрокам, сітуацыя няпростая. Якім чынам знаёміцца з кнігамі? Дзе знайсці патрэбныя выданні? дказы на гэтыя і шэраг іншых пытанняў можна знайсці ў Спецыяльнай гарадской бібліятэцы для сляпых. Пра дзейнасць адзінай такой установы ў сталіцы расказвае бібліятэкар Ірына Савуткіна.

**Дзяніс МАРЦІНОВІЧ,**
**фота Кастуся Дробава**

— У 1988 годзе было створана "Беларускае таварыства інвалідаў", а ў якасці аднаго з падраздзяленняў — бібліятэка. У 2004-м яе ўключылі ў Цэнтралізаваную сістэму дзяржаўных публічных бібліятэк Мінска ў якасці філіяла.

У фондзе прадстаўлены як выданні для наведвальнікаў, што абслугоўваюцца ў нас па месцы жыхарства, так і прадукцыя, разлічаная на чытачоў, што маюць праблемы са зрокам. Усяго ў нас каля 32 тысяч друкаваных і аўдыёдакументаў. Кнігавыдача за першыя дзесяць месяцаў гэтага года — крыху больш як 37 тысяч (у тым ліку для дзяцей — 1,1 тысячы). Што датычыць чытачоў, за гэты ж перыяд да нас завіталі 2020 чалавек, у тым ліку 720 звычайных наведвальнікаў, 1215 чалавек, якія маюць праблемы са зрокам, і 85 дзяцей.

**— Пагаворым больш падрабязна пра дзве апошнія катэгорыі чытачоў.**

— Іх можна падзяліць на некалькі груп. Перш за ўсё, гэта жыхары сталіцы, якія прыходзяць да нас самі. Другая група — "надомнікі". Гэта мінчукі, якія па стане здароўя не могуць завітаць да нас. Існуюць спецыяльныя дні, калі бібліятэкары прыязджаюць да іх асабіста.

Трэцяя група — "завочны абанемент". У ідэале ў кожным абласным цэнтры мусіць працаваць установа, адпаведная нашай. Ведаю пра дзейнасць спецыяльных бібліятэк-філіялаў для інвалідаў па зроку, што існуюць у бібліятэчных сістэмах Брэста і Гродна. А вось у Віцебску такой установы няма, таму даводзіцца адпраўляць кнігі поштай (дарэчы, перасылка бясплатная). Згадзіцеся, гэта не так зручна і хутка. Зразумела, улічваем як пажаданні чытачоў, так і іх густы. Напрыклад, глядзім у картках, літаратуру якіх жанраў яны заказвалі раней, і імкнёмся падбіраць ім нешта падобнае.

Таксама абслугоўваем чытачоў з сярэдняй агульнаадукацыйнай школы № 188 для дзяцей з парушэннямі зроку (актыўна супрацоўнічаем з настаўнікамі і супрацоўнікамі бібліятэкі гэтага калектыву); у пункце выдачы, які знаходзіцца на прадпрыемстве "Светлаприбор" "БелЦІЗ"; на сходах першасна-тэрытарыяльных арганізацый інвалідаў па зроку.

**— Якія магчымасці для знаёмства з кнігай маюць людзі з праблемамі зроку?**

— Фактычна, існуе два варыянты: аўдыёкніга і рэльефна-кропкавы шрыфт Брайля. Апошні, што склаўся раней, прыдумаў француз, які стаў сляпым у трохгадовым узросце. Для перадачы літар выкарыстоўваецца шэсць кропак, размешчаных у два слупкі. Спярша тэкст чытаецца справа налева, а потым, калі старонка перагортваецца, злева направа. Але з шрыфтам Брайля ёсць пэўныя цяжкасці. Калі дзеці маюць праблемы са зрокам пры нараджэнні або такі дыягназ ставіцца ў дзяцінстве, іх вучаць карыстацца шрыфтам ў школе. А вось сталыя людзі, у якіх пагаршаецца зрок, маюць праблемы. Ім цяжка навучыцца чытаць па такой сістэме. Акрамя таго, адчувальнасць іх пальцаў не такая, як у маладосці.

Раней адпаведная літаратура ішла да нас з Санкт-Пецярбурга. Цяпер яе выпускаюць у Мінску. Зразумела, такія кнігі — дарагія, таму дзяржава яшчэ не выйшла на савецкі ўзровень па магчымасцях іх друкавання. Нашыя чытачы больш цікавяцца мастацкай літаратурай (у тым ліку беларускамоўнай), якая пераважае ў фондзе. Нядаўна да нас трапілі раман "Каласы пад сярпом тваім" Уладзіміра Караткевіча



Загадчык бібліятэкі Л. Фярковіч, бібліятэкар І. Савуткіна, тэхнік гуказапісу А. Адзінцова.

і камедыя "Хто смяецца апошнім" Кандрата Крапівы. Найбольш мы атрымліваем падручнікі і кнігі ў дапамогу школьнай праграме. Наогул, запас кніг, выдадзеных раней, яшчэ ёсць. Але ў шэрагу галін не існуе вялікага выбару. Напрыклад, адзін з нашых наведвальнікаў цікавіцца спортам, а асабліва — шахматамі і шашкамі, хтосьці — кулінарыяй, іншы — медыцынай. А мы маем па гэтых тэмах усяго толькі лічаныя асобнікі.

**— Такім чынам, адзіная альтэрнатыва выданням са шрыфтам Брайля — аўдыёкніга...**

— Іх выпускам займаецца айчыннае прадпрыемства "Тугатэкс", заснаванае яшчэ ў 1964 годзе. За год яны правяраюць і выпраўляюць больш як 4 тысячы касет. У выбары кніг "Тукатэкс" арыентуецца на нашыя пажаданні, а таксама адсочвае найбольш запатрабаваныя навінкі. Напрыклад, нядаўна да нас прыйшоў папяровы варыянт кнігі Паўла Санаева "Похороните меня за плинтусом", дык калегі адразу папрасілі часова не выдаваць яе наведвальнікам, а перадаць ім. Кнігі агучваюць прафесійныя дыктары і артысты айчынных тэатраў — Таццяна Ненарокамава, Валянцін Аксянцюк, Таццяна Папова, Віктар Манаеў і іншыя. Зразумела, успрыманне чалавечага голасу — вельмі індывідуальная з'ява. Часам да нас прыходзяць людзі, якім даспадобы пэўны жанр (напрыклад, гістарычны раман), але не падабаецца выканаўца.

Дарэчы, у свой час у памяшканні бібліятэкі меліся чатыры месцы для карыстальнікаў, дзе пры дапамозе сінтэзатара гаворкі можна было слухаць агучваемы тэкст. Бібліятэкі інтэрнэт з адаптаванымі праграмамі для людзей, якія дрэнна бачаць. На жаль, па тэхнічных прычынах яны часова не працуюць. А ў дадзены момант іх вельмі не хапае нашым наведвальнікам для працы.

**— Не сумняваюся, лімаўскім чытачам будзе асабліва цікава даведацца пра наяўнасць беларускамоўных аўдыёкніг.**

— На жаль, іх не так шмат, як хацелася б. З твораў нашых сучаснікаў — "Вялікія і славутыя людзі беларускай зямлі" Уладзіміра Бутрамеева, "Невядомы" Уладзіміра Ліпскага (твор прысвечаны нарадавольцу Ігнату Грынявіцкаму), "Літоўскі воўк" Алеся Наварыча і некалькі іншых кніг. З выданняў адносна нядаўнага часу ёсць "Укус змяі" Уладзіслава Рубанава (аўтар памёр у 1994-м — **Д. М.**) і даследаванні Міколы Ермаловіча (сышоў у іншы свет у 2000-м — **Д. М.**). Але ўсё ж такі адчуваецца недахоп такіх выданняў.

**— Як бы вы ахарактарызавалі ролю бібліятэкі, працуючы ў самой сістэме?**

— Каб цалкам адчуць стан чалавека, што мае праблемы са зрокам, трэба кантактаваць з ім. Шэраг нашых чытачоў не могуць без дапамогі выйсці за дзверы кватэры. Часам мы атрымліваем ад іх лісты. Напрыклад, адна жанчына пісала мне, што толькі гарманічныя вершы Фета дапамаглі ёй выстаяць. Другая расказала пра сітуацыю, калі ёй даводзілася мыць бялізну пры выключанай гарачай вадзе і дзеля гэтага падаграваць яе невялікімі порцыямі. Уявіце, як гэта цяжка сляпому! На адно мыццё ў яе часам сыходзіла 6 гадзін! Дык вось у чаканні, пакуль закіпіць вада, яна чытала Акуджаву і Ахмадуліну, Бродскага і Севяраніна, Быкава і Васільева. Шэраг нашых чытачоў замкнёныя ў чатырох сценах. Таму часам толькі выданне са шрыфтам Брайля ці аўдыёкніга з'яўляецца для іх паратункам. А мы — пасрэднікамі паміж хворым чалавекам і кнігай.

*P. S. Калі вярстаўся матэрыял, стала вядома пра сітуацыю, якая, на жаль, здарылася не ўпершыню. У памяшканне бібліятэкі, дзе знаходзілася толькі адна з супрацоўніц, зайшоў... наведвальнік у неадэкватным стане. Паколькі ва ўстанове адсутнічае сістэма выкліку міліцыі, ёй давялося звяртацца па дапамогу да ахоўнікаў суседняга пасольства. Спадзяёмся, што тыя, хто дапамагаюць хворым і безабаронным людзям, самі не застануцца без абароны.*

# Адкрыем музычную спадчыну Магілёўшчыны?

У Магілёўскай абласной бібліятэцы імя У. І. Леніна адбылася другая канферэнцыя "Музычная культура Магілёўшчыны: нацыянальныя традыцыі ў творчасці, выканальніцкім мастацтве, педагогіцы".

**Наталля КЕНЬКО,**
**загадчык аддзела мастацтваў Магілёўскай абласной бібліятэкі імя У. І. Леніна**



Выступленне камернага аркестра магілёўскага філіяла БДАМ.

У канферэнцыі бралі ўдзел выкладчыкі Магілёўскага філіяла Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, Магілёўскага дзяржаўнага універсітэта імя А. Куляшова, Магілёўскага дзяржаўнага каледжа імя М. Рымскага-Корсакава. Выступілі з паведамленнямі і студэнты БДАМ. З прывітальным словам звярнуўся дацэнт, дырэктар Магілёўскага філіяла БДАМ, мастацкі кіраўнік і галоўны дырыжор аркестра народных інструментаў імя Л. Іванова Магілёўскай абласной філармоніі М. Алданаў. Ён падкрэсліў неабходнасць вывучаць спадчыну, творчасць знакамітых землякоў, абагульняць веды пра музычную культуру Магілёўшчыны.

Сустрэчу бліскуча правяла кіраўнік кафедры дырыжыравання і інструментальнага выканальніцтва ў Магілёўскім філіяле БДАМ, кандыдат мастацтвазнаўства, дацэнт Вольга Шаўчэнка. Дарэчы, разам з педагагічнай дзейнасцю яна займаецца і асветніцтвам. Колькі незабыўных музычных вечароў правяла В. Шаўчэнка ў сценах аддзела мастацтваў нашай бібліятэкі!

Шмат гадоў вывучае музычную культуру Магілёва кандыдат мастацтвазнаўства, дацэнт кафедры музычнага выхавання і харэаграфіі МДУ імя А. Куляшова В. Марозава. На канферэнцыі яна распавяла пра музыкантаў-выкладчыкаў Магілёўскай музычнай школы імя М. Рымскага-Корсакава ў 1920 — 1930-я гады.

Магістр мастацтваў, загадчыца кафедры народных інструментаў БДАМ В. Кузняцова сур'ёзна займаецца прапагандай спадчыны свайго настаўніка В. Тупіцына — заснавальніка прафесійнага цымбальнага выканальніцтва на Магілёўшчыне.

На канферэнцыі прагучалі выступленні і пра традыцыі харавога выканальніцтва на Магілёўшчыне, пра кампазітара В. Казлоўскага, музыканта-педагога Л. Брайлоўскую, спявачку К. Мацярынку. Дарэчы, апошняя разам з салістамі НАВТ оперы і балета Н. Шарубінай і С. Франкоўскім з'яўляецца вучаніцай Л. Брайлоўскай.

Пры канцы канферэнцыі адбылася прэзентацыя электроннага рэсурсу "Іваноў Леанід Леанідавіч. Народны артыст Магілёўшчыны", створанага супрацоўнікамі аддзела мастацтваў. На дыску змешчаны копіі ўсіх артыкулаў са зборнікаў і перыядычных выданняў пра яго творчасць, якія знаходзяцца ў фондах бібліятэкі.

# Ад рубаі да рэкордаў Гінеса

У галерэі "Лабірынт" Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі ў рамках акцыі "З любоўю да беларускай зямлі" адбылася сустрэча з навукоўцам, пісьменнікам і спартсменам Анатолем Яжовым.

**Даніла АРЦІМОВІЧ**

Знаёмства з асобай Анатоля Яжова выклікае шчырае здзіўленне: у якіх розных сферах рэалізаваў сябе гэты чалавек! Ураджэнец Беларусі, ён лічыць родным горадам Віцебск, дзе атрымаў першую адукацыю — скончыў Віцебскі электрычны тэхнікум сувязі. Цяпер ён доктар эканамічных навук, прафесар, прэзідэнт архангельскага Інстытута ўпраўлення, сябра Саюза пісьменнікаў Беларусі, Саюза пісьменнікаў Расіі і Міжнароднай федэрацыі журналістаў. Аўтар больш як тысячы прац, у тым ліку больш як 400 кніг па эканоміцы, юрыспрудэнцыі, педагогіцы, філасофіі, палітыцы. Актыўна займаецца гіравым спортам, праз поспехі ў якім трапіў у кнігу рэкордаў Гінеса.

У 2000 годзе А. Яжоў трапіў на нараду, якую арганізавала расійскае міністэрства адукацыі. На адным з пасяджэнняў ён нечакана для сябе пачаў пісаць рубаі. Як прызнаўся паэт на сустрэчы, "штосьці ідзе звыш, а я абраны як праваднік". З таго часу ім напісана каля 8,5 тысяч твораў у гэтым жанры (кнігі "Чёрный лотос", "Синяя роза", "Китайский дракон", "Я — с планеты Юпитер"). Калі ўлічваць, што на сустрэчы А. Яжоў прачытаў новыя рубаі, іх агульная колькасць неўзабаве павялічыцца.

Імпрэза пачалася з дэманстрацыі фільма пра лётчыкаў, падчас якога гучалі песні адпаведнай танальнасці ("Земля в иллюминаторе…", "Первым делом, первым делом — самолёты…", "Мы рождены, чтоб сказку сделать былью…", "Надежда"). Віноўніка ўрачыстасці павіншавалі галоўны спецыяліст установ культуры і народнай творчасці Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь Наталля Задзяркоўская, доктар эканамічных навук, загадчык кафедры бізнес-адміністравання ў Інстытуце бізнесу і менеджменту тэхналогій БДУ Сяргей Лукін, першы прарэктар Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя Максіма Танка Аляксандр Андарала. Ад імя Міжнароднай лігі развіцця адукацыі і навукі Аляксандру Іванавічу быў уручаны ордэн "Залаты леў".

Дзейнасць А. Яжова высока ацанілі і яго падначаленыя: прарэктары архангельскага Міжнароднага інстытута ўпраўлення Валерый Дзерэн і Міхаіл Собалеў. Першы выканаў шэраг песен на словы свайго начальніка, у тым ліку "Памяти поэтов" і "Воспоминание о будущем". Цікава, што адна з песень была напісана падчас таго, як А. Яжоў рабіў у небе фігуры вышэйшага пілатажу (ужо на пенсіі ён атрымаў пасведчанне пілота). Як прызнаўся віноўнік урачыстасці, ён выскачыў з самалёта і адразу запатрабаваў у прысутных ручку і паперу, каб не забыцца словы.

М. Собалеў прывёў імёны трох значных творцаў, якія рэалізаваліся ў пэўным жанры. Так, Валянцін Гафт піша эпіграмы, Ігар Губерман — гарыкі, а Анатоль Яжоў — рубаі. Прычым аратар падкрэсліў, што ў Расіі ў апошнім жанры больш не піша ніхто. Падчас сваёй інтэлектуальнай прамовы аратар неаднаразова параўноўваў і праводзіў паралелі паміж творамі такіх аўтараў, як Ларыса Рубальская, Мікалай Рубцоў і ўласна Анатоль Яжоў.

Падчас мерапрыемства творца падзяліўся з прысутнымі сваімі планамі. У бліжэйшы час ён збіраецца наведаць Італію і паўдзельнічаць ва ўзыходжанні



на Эверэст. Потым яго чакае падарожжа па Мексіцы, Эквадоры, Перу, ЗША і Канадзе. Пасля вяртання А. Яжоў плануе напісаць пра падарожжа кнігу.

Сустрэча завяршылася падпісаннем пагаднення аб супрацоўніцтве паміж Нацыянальнай бібліятэкай Беларусі і архангельскім Інстытутам упраўлення. Вучоны і паэт перадаў у падарунак НББ свае кнігі.

# З кропель натхнення — у акіян творчасці

У выданне "Непадкупны подых натхнення" ўвайшлі вершы пра паэзію і паэтаў, аўтарамі якіх з'яўляюцца аўтары Мiншчыны. Ужо традыцыйна зборнік (двухтомны) складзены ў алфавітным парадку па прозвішчах аўтараў. Назву падказаў аднайменны радок з верша салігарчанкі Валянціны Акулёнак, якая адкрыла канцэрт-прэзентацыю. Свае вершы таксама чыталі Алег Нагорны (г. Жодзіна), Тамара Каляда (г. Узда), Таццяна Шэіна (Маладзечанскі раён), Андрэй Сямёнаў (г. Салігорск). Вершы для дзяцей, апублікаваныя ў зборніку прадставілі паэты Уладзімір Цанунін (г. Вілейка), Лілія Мялешка (г. Клецк), Галіна Мароз (г. Лагойск). Цікавы нюанс: "Сонечны ліхтарык" упрыгожаны ілюстрацыямі, ды не простымі, а размалёўкамі. Таму маленькі чытач, узяўшы ў рукі кніжку, можа размаляваць чорна-белыя вясёлыя малюнкі любімымі фарбамі і алоўкамі. Такі сюрпрыз прыдумала паэтэса Смалявіч Ганна Сітнікава. І дапамагала ёй у такой адказнай справе яе дачка.

Свята паэзіі і музыкі суправаджалася песеннымі кампазіцыямі, якія ўвайшлі ў музычны дыск "Кропля жывіцы". Гучалі песні ў выкананні Таццяны Атрошанкі (г. Маладзечна), студэнта 2 курса Мінскага дзяржаўнага каледжа мастацтваў Васіля Мельнічака, а таксама народнага вакальна-інструментальнага ансамбля "Настальгія" пад кіраўніцтвам Віктара Белавусава (г. Жодзіна). А ўзорны дзіцячы калектыў "Сюрпрыз" Мачулішчанскай дзіцячай школы мастацтваў (Мінскі раён, кіраўнік Вольга Калко) прадставіў танцавальную кампазіцыю на песню "Дождж, я і стэп". Сустрэча завяршылася ўрачыстым узнагароджаннем пераможцаў духоўнага свята "Траецкія перазвоны".

У паэтычным конкурсе было заяўлена 205 вершаў 42 паэтаў. Журы — вядомыя паэты Васіль Жуковіч, Аліна Легастаева і Юрась Нераток — ацэньвала конкурсныя творы па пяцібальнай сістэме. Першае месца ў паэтычнай намінацыі заняла таленавітая Таццяна Шэіна з Радашковіч.

Праз месяц народнаму клубу кампазітараў і паэтаў "Жывіца" спаўняецца 10 гадоў. Упэўнена, нас чакаюць новыя сустрэчы з імі!

**Алена БРЫЦКАЯ**

# Свята коласаўскай паэзіі

Наваполацкая цэнтральная гарадская бібліятэка імя Якуба Коласа арганізавала праз гарадскую "Новую газету" акцыю "Паэтычная віктарына пра Якуба Коласа".

Віктарына складалася з трох тураў і друкавалася на працягу 1,5 месяца. І тур называўся "Афарызмы Якуба Коласа". Трэба было дапоўніць прапушчаныя радкі з паэтычных твораў: вершаў, урыўкаў з паэм. У ІІ туры ("Лірыка Якуба Коласа") прапаноўвалася па ўрыўках пазнаць назву твора. ІІІ тур называўся "Паэтычная каласіяна" — вымагаў назваць аўтараў твораў, прысвечаных Песняру. Пераможцам стаў Уладзімір Краўчонак. 2-е месца занялі вучні з пакоя школьніка "Надзея", якія калектыўна адказвалі на пытанні віктарыны, 3-е месца падзялілі бібліятэкар Лідзія Полазава і навучэнка гімназіі Яніна Лубінская.

Вынікі віктарыны былі падведзены на адкрыцці выстаўкі "Сучасная фотаілюстрацыя твораў Якуба Коласа", якая адбылася напярэдадні юбілею і будзе працаваць да сярэдзіны снежня. Яе арганізатарам выступіў клуб сяброў культуры "Вытокі" пры бібліятэцы імя Якуба Коласа, які падтрымалі фотаклуб "Graphclassic" і "Школа лідара" Полацкага дзяржаўнага ўніверсітэта ды навапалачане, якія прадставілі на выстаўку свае фотаработы.

**Валянціна СОПІКАВА**

# Будні слуцкай скарбніцы

Слуцкая гарадская дзіцячая бібліятэка паспяхова рэалізуе акцыю "Пачытай са мной па-беларуску".

**Юлія ПАРХОМЕНКА, супрацоўнік Слуцкай гарадской дзіцячай бібліятэкі**

Кожную пятніцу школьнікі ўдзельнічаюць у чытаннях, прысвечаных пэўнаму аўтару або асобнай тэме. Сёлета ў цэнтр увагі мы паставілі творчасць пісьменнікаў, чые юбілеі святкавала ўся Беларусь. У першым паўгоддзі дзеці знаёміліся з творчай спадчынай Янкі Купалы, а ў другой палове года чыталіся кнігі Максіма Танка і Якуба Коласа. Акцыя "Пачытай са мной па-беларуску" становіча адзначана настаўнікамі, спецыялістамі ў галіне бібліятэчнай справы раёна.

Сярод найбольш эфектыўных форм работы ў галіне папулярызацыі беларускай кнігі мы развіваем тыя методыкі, што накіраваны на падтрымку творчага чытання. Тады дзіця перадае свае ўражанні ад чытання ў малюнках, гульнях, тэатралізаваных імправізацыях. Імкнёмся абапірацца на багатае ўяўленне маленькага чытача, яго вобразнага бачання навакольнага свету.

На гульні-падарожжы "Купала — пясняр зямлі беларускай" дзеці апавядалі пра свае ўражанні ад прачытаных твораў класіка айчыннай літаратуры, разыгрывалі сцэнкі-мініяцюры з удзелам персанажаў яго твораў. Увазе школьнікаў быў прадстаўлены адкрыты прагляд літаратуры "Купальская кветка". З вучнямі гімназіі № 2 творы Янкі Купалы чытала член Саюза пісьменнікаў Беларусі Ганна Міклашэвіч. Яна расказала слухачам пра сваю паездку ў складзе дэлегацыі беларускіх пісьменнікаў на радзіму паэта, падзялілася ўражаннямі ад наведвання музея Купалы, прачытала любімыя вершы. Пасля заканчэння сустрэчы чытачы ўзялі дадому кнігі Янкі Купалы, якія на той час экспанаваліся на выстаўцы. Для старэйшых школьнікаў адбылася прэзентацыя кнігі Уладзіміра Ліпскага "Янкаў вянок" з удзелам аўтара і яе ілюстратара, мастака Уладзіміра Жука.

Да 100-годдзя з дня нараджэння Максіма Танка была арганізавана выстаўка "Дарога, закалыханая жытам". Казачную атмасферу ў дзіцячай бібліятэцы ствары тэатр кніг "Бурацiна". З цікавасцю і захапленнем дзеці сачылі за спектаклем "Ехаў казачнік Бай" па матывах твораў паэта. Дзеці былі не толькі гледачамі на мерапрыемстве, але і самі ўдзельнічалі ў літаратурнай дзеі. На нейкі момант яны сталі артыстамі тэатральнай пастаноўкі па кнізе М. Танка "Лемантар".

Да 130-годдзя з дня нараджэння Якуба Коласа ў бібліятэцы ладзіліся паэтычныя эцюды "Вобразы мілыя роднага краю". Стварыць творчую атмасферу ў бібліятэцы дапамагалі… лялькі, у выкананні якіх гучалі паэтычныя радкі класіка. Жаданым госцем стаў галоўны герой паэмы "Міхасёвы прыгоды". Хлопчык Міхась развесяліў чытачоў расповедамі пра свой адпачынак у вёсцы, паслухаў, як чытаюць дзеці вершы Коласа на памяць, разгадаў з імі літаратурны красворд. А потым дзятва разам з Міхасём пайшла на незвычайную рыбалку і засталася задаволеная ўловам. Дарэчы, літаратурны праект вельмі ўдала ўпісаўся ў рэспубліканскую акцыю "Чытаем Купалу і Коласа разам".

Бібліятэка стала дзясятай кропкай на карце Беларусі, якая прыняла рэспубліканскую акцыю "Чытаем разам. Чытаем па-беларуску". Па ўмовах акцыі для чытання мы абралі кнігу "Нам засталася Спадчына" (укладальнікі Мікола Маляўка, Тамара Тарасава, Уладзімір Мазго).

Нядаўна ў чытальнай зале была аформлена доўгатэрміновая выстаўка-экспазіцыя "Пад небам беларускага слова", дзе прадстаўлена 15 асоб, сярод якіх Еўфрасіння Полацкая, Францыск Скарына, Мікола Гусоўскі, Кірыла Тураўскі, Сімеон Полацкі, Янка Купала, Якуб Колас, Максім Багдановіч, Іван Мележ, Іван Шамякін, Уладзімір Караткевіч і інш.

# Хто на «літаратурнай лаўцы»?

Краязнаўчая зала Дзіцячай бібліятэкі № 1 г. Мінска прапануе наведаць выстаўку “Рух часу”.

**Алена КАЗАКОВА,**
**вядучы бібліятэкар дзіцячай бібліятэкі № 1 г. Мінска**

Стваральнікі экспазіцыі вылучылі ў ёй дзве часткі. Адна прымеркаваная да 130-годдзя з дня нараджэння Якуба Коласа і Янкі Купалы. У другой прадстаўлена культура Беларусі (тэатр, кіно, музыка, скульптура, мастацтва, музеі, літаратура).

Кампазіцыя, прысвечаная юбілеям класікаў айчыннай літаратуры, складаецца з некалькіх частак: дзвюх выставак кніг, юбілейнага пано і “літаратурнай лаўкі” песняроў. На асобных паліцах размешчана літаратура пра Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя Якуба Коласа ў Віцебску і Нацыянальны акадэмічны тэатр Янкі Купалы ў Мінску, а таксама фотаздымкі з пастановак і кінафільмаў па творах пісьменнікаў. Чытачы могуць знайсці інфармацыю пра біяграфіі творцаў, літаратуру пра музеі, прысвечаныя іх творчасці, і паркі, названыя ў іх гонар. Таксама прадстаўлены мастацкія творы і прысвечаныя іх разгляду працы літаратуразнаўцаў і крытыкаў.



Літаратурна-юбілейнае пано “Багацей словам” складаецца з трох частак. На першай, прысвечанай Якубу Коласу, карыстальнікі бібліятэкі могуць убачыць урывак з дэбютнага верша “Наш родны край”, які быў надрукаваны ў газеце “Наша Доля” ў 1906 годзе. Далей — пачатак паэмы “Сымон-музыка” і вокладкі першых выданняў паэмы. Заканчваецца пано ўрыўкам апошняга твора пісьменніка “На ростанях”, надрукаванага ў 1955-м пры жыцці Песняра.

Трэцяе пано прысвечана Янку Купалу, на ім — дэбютны верш “Мужык”, надрукаваны 15 мая 1905 г. у газеце “Северо-Западный край”. Прадстаўлена таксама вокладка першага зборніка “Жалейка”, які выпусціла ў 1908 г. выдавецтва “Загляне сонца і ў наша ваконца”. Завяршае пано ўрывак твора “Зноў будзем шчасце мець і волю”.

Што датычыць “літаратурнай лаўкі”, дык на ёй кнігі-юбіляры: “Песні жальбы”, “Адшчапенец”, “У глыбі Палесся”, “Рыбакова хата” Якуба Коласа і “Спадчына”, “Магіла льва”, “Сон на кургане” Янкі Купалы. Акрамя непасрэднага знаёмства з творчасцю пісьменнікаў выстаўка стала пляцоўкай для шэрагу мерапрыемстваў, якія адбываліся на працягу года.

Кампазіцыя, у якой прадстаўлена айчынная культура, таксама падзяляецца на некалькі частак. У тэатральнай чытач можа атрымаць інфармацыю пра шэраг калектываў (лялек, юнага гледача, оперы і балета, Нясвіжскі тэатр Радзівілаў), пазнаёміцца з творамі, прысвечанымі дзеячам кінамастацтва: М. Пташуку, М. Яроменку-малодшаму, Р. Янкоўскаму, У. Гасцюхіну і інш. У музычнай — даведацца пра творчы і жыццёвы шлях М. Агінскага, С. Манюшкі, Г. Мейчык, М. Фінберга, І. Лучанка і іншых кампазітараў. У раздзеле скульптуры — пагартаць выданні пра У. Жбанава, М. Петруля і іншых. Цэнтральнае месца на выстаўцы займаюць кнігі пра гісторыю беларускага мастацтва. Перавага аддадзена мастакам і ілюстратарам: Г. Вашчанку, М. Селешчуку, Л. Лапчынскаму, В. Славуку, А. Лось, П. Татарнікаву, Н. Орду… Акрамя таго, на асобных паліцах размясціліся кнігі як класікаў (В. Быкава, У. Караткевіча, І. Мележа, М. Танка), так і сучасных пісьменнікаў: А. Федарэнкі, П. Васючэнкі, В. Праўдзіна.

# Экслібрыс распавядае

Экслібрыс з’яўляецца сведчаннем не толькі развіцця кнігадрукавання і міжнародных сувязей, але і ўзнікнення прыватных бібліятэк, дзяржаўных бібліятэчных збораў. Бадай, самае галоўнае тут — сувязь асобы ўладальніка кніг з гістарычным часам. Можна сказаць, што канец XVIII ст. і першая чвэрць XX ст. для экслібрыса з’яўляюцца выключнай старонкай развіцця, калі традыцыйна насычаныя формы рэдуцыруюцца і набываюць новую лаканічную выразнасць.

**Людміла НАЛІВАЙКА**

Барочным і вельмі шматсэнсоўным з’яўляецца экслібрыс Ю. Сапегі (1732 г.), выкананы Ф. Бальцэвічам (Вільня). У цэнтры, у круглай рамцы — уладальніцкі тэкст на лацінскай мове, пад якім раслінны арнамент, унізе яшчэ адно кола з радавым гербам “Ліс” (перакрыжаваная страла, тры ліліі і інш.). Абапал знаходзяцца падстаўкі з бюстамі вучоных мужоў на стосах кніг. Нездарма Ю. Сапега сабраў вялікую бібліятэку ў Вільні і перадаў у спадчыну гораду: экслібрыс цяпер сведчыць пра яго эрудыцыю і вялікую шчодрасць, любоў да краю і веру ў яго асвету.



Для шляхетных уладальнікаў аснову экслібрыса складае герб, як, напрыклад, бібліятэкі Нясвіжскага замка пачатку XX ст. У ракальнай форме выява арла, картуш кароны выглядае вельмі далікатна. Такой вытанчанасці можна дасягнуць толькі сродкамі афорта. А вось экслібрыс І. Скарыны 1910 г., які выканаў графік А. Пажарскі, таксама адлюстроўвае шляхецкі герб “Друцк”: меч вастрыём уніз, па баках два маладзікі, рагамі адзін да аднаго. Яго ўладальнік Ігнат Іосіфавіч Скарына быў генерал-маёрам пагранічнай аховы, але вельмі шанаваў прыгожае пісьменства. Таму і захаваўся яго рэпрэзентатыўны кніжны знак. У 1900-х гадах папулярнасць мела бібліятэка расійскага гісторыка У. Лукомскага, аўтара прац па геральдыцы і генеалогіі. Выводзіў ён сябе са старажытнага княжацкага роду Лукомскіх, былых уладальнікаў Лукомля. Таму яго кніжны знак прадстаўляе сабой кампазіцыю з пяцічасткавага герба са шляхетнымі атрыбутамі розных беларускіх радоў (ружы, паўкруг, з якога зыходзіць страла, і інш.). Лагойская бібліятэка братоў Тышкевічаў таксама мела свой экслібрыс з радавым гербам уладальнікаў: залаты маладзік у блакітным полі і шасціпраменная зорка.

Але ўзнікаюць на пачатку XX ст. і іншыя тыпы ўнікальных кніжных знакаў. Напрыклад, знак мінскага таварыства “Вогнішча”, што было заснавана ў Нясвіжы ў 1905 г. і займалася асветай, палітыкай, спортам, арганізацыяй драматычных гурткоў. Невядомы мастак адлюстраваў у аснове экслібрыса зіхоткае полымя ў стылі мадэрн, адкуль, як іскры, выпраменьваюцца словы з назвай арганізацыі. Манументальна адлюстраваў Ю. Балзукевіч экслібрыс Таварыства музея навукі і мастацтва ў Вільні з выданнямі і рукапісамі, надаўшы яму выгляд рэнесанснага акна, праз які мы бачым помнікі віленскай архітэктуры. Уражвае экслібрыс Р. Зямкевіча — бібліяфіла, гісторыка, краязнаўцы. Яго кампазіцыя нагадвае рымскія помнікі антычнай даўніны: калізей, піраміда Цэсія і інш. Унізе знаходзіцца нібы мемарыяльная пліта з тэкстам на лацінскай мове: “З бібліятэкі Р. Зямкевіча”. Як усе дарогі вялі ў Рым, так і сцежкі многіх аматараў кнігі ў даўнія час вялі да збораў гэтага аўтарытэтнага калекцыянера літаратурных каштоўнасцей. Экслібрыс Я. Бараноўскага — уладальніка бібліятэкі ў маёнтку Вытранка — быў выкананы ў Мюнхене Т. Бота Шмітам; экслібрыс мастака З. Ленскага з гербамі “Астоя”, “Сас”, “Любач” — Т. Дмахоўскім (жыў у Вільні). Своеасаблівую частку калекцыі прадстаўляюць знакі Заходняй Беларусі. Гэта экслібрыс Пінскай рачной флатыліі з выявай рачнога ваеннага карабля (фарміраванне ВМФ Польшчы на Прыпяці і яе прытокаў у 1919 — 1939); экслібрыс бібліятэкі 78-га пяхотнага палка польскай арміі ў Баранавічах, дзе кнігу, як шчыт, трымае рыцар у латах; кніжны знак Дзяржаўнага музея ў Гродне, выкананы ў выглядзе старадаўняга медаля, ці манеты з геральдычнай атрыбутыкай і подпісам.




Дзякуючы экслібрысам застаецца памяць пра розныя часы нашай гісторыі, дакладнасці біяграфій вядомых і невядомых збіральнікаў кніг. Шматлікія прыклады сведчаць пра тое, што амаль няма нецікавых кніжных знакаў. Кожы з іх — вобразны і арыгінальны твор графікі малых форм з вялікім ідэйна-мастацкім зместам. Далёка не ўсе экслібрысы, якія маюць дачыненне да нашай зямлі, яшчэ вядомыя, таму іх пошукі і адкрыцці прынясуць шмат нечаканых эстэтычна-вобразных і асветніцкіх уражанняў.

# Квест па «Новай зямлі»

Бадай, кожны з нас трымаў у руках “Новую зямлю” Якуба Коласа. Але ці ўсе могуць пахваліцца добрым веданнем як яе зместу, так і біяграфіі аўтара? Над гэтым пытаннем разважалі ўдзельнікі і арганізатары літаратурнага квесту, што прайшоў у Цэнтральнай гомельскай гарадской бібліятэцы імя А. І. Герцэна.

**Марына СТУПІНСКАЯ**

Замежная назва “квест”азначае прыгодніцкую гульню, маршрут якой тоіць у сабе загадкі і перашкоды. Навучэнцам мясцовага педкаледжа — удзельнікам літаратурнага квесту “«Новая зямля» — terra incognita?” — неабходна было вырашыць і пераадолець самыя розныя заданні, звязаныя з асобай і творчасцю пісьменніка.

Старт квесту адбыўся пад гукі песні “Мой родны кут, як ты мне мілы…” Вядучыя ў нацыянальных строях заінтрыгавалі: тых, хто адшукае фразы і складзе радкі з “Новай зямлі”, чакае прыз. Госці пазмагаліся за карту маршруту прыгодніцкай гульні.

Бібліятэкары прадставілі на карце квест-тэрыторыі: аддзелы бібліятэкі, у якіх былі аформлены куткі для выканання заданняў. Пытанні ў канвертах таксама былі схаваныя і іх трэба было адшукаць, а пасля ўжо каманды спрабавалі знайсці адказы. Падчас прыгодніцкай вандроўкі ўдзельнікі ўзгадвалі асноўныя вехі жыцця і творчасці народнага паэта, дэманстравалі ўменне карыстацца прыладамі працы і побыту, што згадваюцца ў паэме, чыталі ўрыўкі на памяць. Давялося камандам і накрыць стол на Вялікдзень, прычым так, як апісаў тое Якуб Колас. Здаецца, гэта было адно з самых складаных заданняў. Стравы былі сапраўдныя: пах шынкі і каўбас не даваляў сканцэнтравацца.

Паводле ўмоў квесту ўдзельнікам неабходна было не толькі правільна пераадолець усе перашкоды на маршруце, але і зрабіць гэта хутчэй за сапернікаў. Самыя спрытныя і кемлівыя, хто дабраўся да фінішу першым, атрымалі салодкую ўзнагароду — торт!

Па выніках гульні можна з упэўненасцю сказаць, што “Новая зямля” для ўдзельнікаў квесту — дакладна не terra incognita. А для вас?

# Як надзяляюцца людзі талентам

Альбом “Палескія былі ў творах Івана Супрунчыка” пабачыў свет у РВУ “Літаратура і Мастацтва”. Праект ажыццёўлены пры фінансавай падтрымцы Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь і Столінскага раённага выканаўчага камітэта. Аўтар тэксту і укладальнік — Вольга Лабачэўская. Фотамастак — Георгій Ліхтаровіч. Укладальнік даведачных тэкстаў — Ларыса Быцко.

**Кастусь ЛАЗОЎСКІ**

Іван Супрунчык — разьбяр па дрэве, які жыве і працуе ў вёсцы Цераблічы Столінскага раёна Брэсцкай вобласці. Нарадзіўся ў 1942 годзе. Доўгі час працаваў загадчыкам бібліятэкі (пасля — клуба-бібліятэкі) у родным паселішчы. Завочна закончыў Усесаюзны народны ўніверсітэт мастацтва імя Надзеі Крупскай (факультэт малюнка і жывапісу). Завочна вучыўся і ў Магілёўскім бібліятэчным тэхнікуме. З 1967 года ўдзельнічае ў выстаўках народнага мастацтва. У 1989-м прайшла першая персанальная выстаўка Івана Супрунчыка “Партрэт з сякерай” — у рамках III Усерасійскага фестывалю народнай творчасці на ВДНГ у Маскве.

Палескі самародак — актыўны ўдзельнік пленэраў разьбяроў-скульптараў у Беларусі і Польшчы. Работы Івана Супрунчыка захоўваюцца ў Нацыянальным гістарычным музеі Рэспублікі Беларусь, музеі старажытнабеларускай культуры Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя Кандрата Крапівы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, Брэсцкім абласным краязнаўчым музеі, Столінскім раённым краязнаўчым музеі, Мотальскім музеі народнай творчасці, музеі-сядзібе “Пружанскі палацык”, музеі народнага мастацтва Мар’яна Пакропкі ў Атрэмбусах у Польшчы. У саміх Цераблічах працуе народны музей этнаграфіі (Цэнтр драўлянай скульптуры).



Інсталяцыя “Ткачыха”.

Альбом “Палескія былі...” уражвае не толькі багаццем рэпрадукцый, іншага ілюстрацыйнага матэрыялу, сабранага пад адной вокладкай. Чытачу прадстаўлена ўнікальная магчымасць спасцігнуць сутнасны характар творцы, асэнсаваць яго філасофію. Падрабязна распавядае Вольга Лабачэўская і пра музей у Цераблічах: “Вялікая экспазіцыйная плошча будынка натхняла Івана Піліпавіча на пошукі новых экспанатаў і стварэнне новых твораў. Так паўстаў Цераблiцкі этнаграфічны музей, які ў 2001 годзе набыў самастойнасць і атрымаў званне “народны”.

Музейная прастора — асобны маштабны твор мастака. Іван Піліпавіч — аўтар канцэпцыі музейнай экспазіцыі і яе дызайнер. У ёй пластычна ўвасоблены сялянскія архетыпы ўспрымання рэчаіснасці і асабістая жыццёвая філасофія творцы. У экспазіцыі музея дакументальныя і рэчавыя помнікі гісторыі Цераблічаў злучаны разам з драўлянымі і графічнымі творамі мастака, у якіх увасоблены яго роздум пра лёс чалавека ад нараджэння да смерці і повязь з продкамі. Кожнай рэчы і кожнаму твору знойдзена тут адпаведнае іерархіі жыццёвых каштоўнасцей месца.

Экскурсію па музеі Іван Піліпавіч заўсёды пачынае з падарожжа ў культурную гісторыю вёскі. Даўным-даўно Цераблічы былі заснаваны шаснаццаццю родамі, нашчадкі якіх жывуць тут і цяпер. Для мастака пачатак увасоблены ў слове, і гэта слова перадала яму маці. З яе вуснаў ён пачуў і запісаў вершаванае паданне пра тое, што жыў калісці чалавек малады і вельмі разумны па імені Ліхван-Ліхваненя, які даў усім цераблiцкім родам характарыстыкі.



*“На мядзведзі еду, ваўком падпіраюся...” (з серыі “Далоня”). 2003.*

Кампазіцыя скульптур і малюнкі “Роды Цераблічаў” сустракаюць наведвальніка музея каля ўвахода. У іх адлюстраваны мясцовы этыялагічны міф пра культурнага героя, легенда пра тое, што першапродак надзяліў кожны род уласнай характарыстыкай, а па сутнасці, кожнаму роду вызначыў адпаведнае месца ў мікракосме вясковай грамады. У цераблiцкім сказе паўстае водгук старажытных рытуальных ахвярапрынашэнняў — “забіў шчыкалаткам цяля”, напамін пра сакральныя дзеянні надання імя (а разам з ім — долі і месца ў соцыуме) — “і ўсё чыста падзяліў па родах, як бы даў кожнаму роду характарыстыку”. Міфалагічнае дзеянне разварочваецца ў тым часе, калі чалавек быў неаддзельны ад свайго роду, ад якога ён набываў сваё імя, рысы характару і лёс.

Прастора, якую разьбяр “занатоўвае” ў дрэве, узвышае і акрыляе Івана Супрунчыка, прымушае яго мастакоўскае мысленне выкладаць пэўную філасофію Зямлі і Вечнасці.

Гартаючы старонкі альбома, я часта задумваюся над тым, а ці адбыўся б творца як Асоба, калі б ён працаваў за межамі роднага паселішча. Відаць, наўрад ці… Хіба ж мог, напрыклад, у іншым месцы з’явіцца мемарыяльны комплекс драўлянай скульптуры “Надзея”, прысвечаны землякам, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну? Высечаная з дуба дзевяціметровая фігура маці, якая застыла ў вечным смутку каля крыжа над плітамі з імёнамі загінуўшых, — аснова мемарыяла. Побач з хатамі, у якіх не дачакаліся з вайны сваіх родных, разьбяр усталяваў асобныя мемарыялы. Згадаем: такой ідэі, такому мастацкаму рашэнню папярэднічае народная традыцыя — ставіць каля дома ці на перакрыжаванні дарог абетныя крыжы.

Нельга не нагадаць, што “Палескія былі ў творах Івана Супрунчыка” — ужо другая кніга Вольгі Лабачэўскай, прысвечаная аднаму інсітнаму майстру. Некалькі гадоў таму РВУ “Літаратура і Мастацтва” выдала альбом “Сялянская энцыклапедыя ў творах Мікалая Тарасюка”. У кнізе была шырокая прэса. Пра яе з’яўленне ў айчынным мастацтвазнаўстве шмат гаварылі. З таго часу ніхто не адважыўся прысвяціць асобны альбом творчасці аднаго майстра-прымітывіста. Вольга Лабачэўская сама прадоўжыла аднойчы пачатае… Усё ж вельмі хацелася б, каб да народнага мастацтва была больш шырокая мастацтвазнаўчая ўвага. Каб следам за Вольгай Лабачэўскай ішлі наступнікі.

*З глыбінкі*

## Крылы дае Радзіма

Наваполацкая паэтка-“крылавец”, член Саюза пісьменнікаў Беларусі Тамара Талкачова нядаўна адзначыла свой юбілей. Імя гэтай таленавітай жанчыны многім добра вядома не толькі ў нашым горадзе, але і ў Беларусі.

Дзесяць гадоў таму ў гарадское народнае літаратурна-музычнае аб’яднанне “Крылы” прыйшла Тамара Талкачова, маючы ў сваім творчым багажы амаль дзве тысячы аўтарскіх песень і вершаў. Праз пяць гадоў яна ўжо была прынята ў Саюз пісьменнікаў Беларусі. Прыхільнікі яе таленту зачараваныя песнямі аўтара, рамантычным настроем вершаў.

Ці не вяршыняй песеннай лірыкі Тамары Талкачовай стала “Мая Белая Русь”, напісаная сумесна з кампазітарам Ізмаілам Капланавым. Можна сказаць, што сёння гэта песня ўжо стала народнай. Яна заўсёды гучыць на ўрачыстых мерапрыемствах і святочных пляцоўках рэспублікі.

На працягу апошняга года Тамара Талкачова супрацоўнічае з кампазітарам і галоўным дырыжорам Акадэмічнага ансамбля Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь Уладзімірам Варапаевым. Асаблівую папулярнасць набыла іх песня “Суворaўцамі сталі”, якую выконваюць выхаванцы Мінскага суворaўскага вучылішча. Часта гучыць на беларускай эстрадзе “Пажаданне” (аўтар музыкі — кампазітар Алег Елісеенкаў) у выкананні Ганны Сцепанковай.

Тамара Іванаўна і сама піша музыку да сваіх вершаў. Многія яе песні з задавальненнем выконваюць “крылаўцы”.

Апошняя з выдадзеных кніг паэзіі “Наталю сваю смагу світанкам” Т. Талкачовай выяўляе сталага, грунтоўнага і неабыякавага паэта.

**Галіна СТАШКЕВІЧ,**
**г. Наваполацк**

## Быць зразумелай

Літаратуру і вострыя сацыяльныя праблемы ўдала спалучылі на сустрэчы студэнтаў і выкладчыкаў Гарадоцкага аграрна-тэхнічнага каледжа з Наталляй Саветнай. А ўвесь сакрэт — у кнігах пісьменніцы.

Удзельнікі сустрэчы пазнаёміліся з кнігай Наталлі Саветнай “За краем свету”, якую можна аднесці да ліку сацыяльна значных у сувязі з тым, што першая яе частка — дзённік псіхолага “У пошуку скарбу” — якраз і дапамагае адказаць на многія пытанні, значныя для чалавека, які сутыкнуўся з праблемай паталагічнай залежнасці.

Аўтар, кандыдат псіхалагічных навук, выдатна валодае не толькі пісьмовым, але і вусным словам — выкарыстоўваючы мноства яркіх жыццёвых прыкладаў, захаваных на старонках кнігі, яна з лёгкасцю зацікавіла слухачоў.

Не менш запамінальным стала знаёмства з кнігай “Тайна рускага Цара”, якая распавядае пра лёс імператара Мікалая Другога, прадказанні праваслаўных святых. Гэта кніга і засталася ў бібліятэцы каледжа на ўспамін пра сустрэчу.

**Зоя ШАЛЫГІНА,**
**г. Гарадок**

## Афарызм

*Добра быць у дарозе, якую ты сам сабе выбіраеш!*

**Якуб КОЛАС**

**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**
**Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА “Саюз пісьменнікаў Беларусі”, РВУ “Літаратура і Мастацтва”**

**Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ**



**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
**Адрас для карэспандэнцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
**Аддзелы:**
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04
аддзел “Кніжны свет” — 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by



Набор і вёрстка камп’ютарнага цэнтра РВУ “Выдавецкі дом “Звязда”.
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова “Выдавецкі дом “Звязда”.
**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
“Выдавецтва “Беларускі Дом друку” г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 2700 рублёў
Наклад — 2727
Умоўна друк. арк. 5,58
Нумар падпісаны ў друк 29.11.2012 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 4973
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12